22 ліпеня 2016 | № 29 (494)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

Пакемоны супраць чалавецтва
Стар. 19




ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

НАСТУПНЫ НУМАР «НОВАГА ЧАСУ» ВЫЙДЗЕ **12 ЖНІЎНЯ.**

ЧЫТАЙЦЕ НАС НА НАШЫМ САЙЦЕ

5 ЯК ПАЧЫНАЛАСЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ

Беларусь прыняла сваю Дэкларацыю аб суверэнітэце дзясятай з пятнаццаці і апошняй — з еўрапейскіх рэспублік СССР

7–18 Літаратурная Беларусь

22–23 ІСПАНІЯ. ВАЙНА ЎСІХ СУПРАЦЬ УСІХ

«Над усёй Іспаніяй бясхмарнае неба». Гэтая фраза была сігналам да пачатку ўзброенага выступу супраць рэспубліканскага ўрада Іспаніі

# Бывай, Павел!

**Зранку ў сераду ў Кіеве загінуў таленавіты беларускі журналіст Павел Шарамет. Машына, у якой ён знаходзіўся, выбухнула на рагу вуліцы Багдана Хмяльніцкага і Івана Франко**

Сяргей ПУЛЬША

Аўто належала кіраўніку інтэрнэт-выдання «Украінская праўда» Алёне Прытуле, але яе ў машыне не было. Выбух адбыўся ў 7.45 раніцы, калі Павел Шарамет выехаў з дому і праехаў некалькі дзясяткаў метраў.

Пасля выбуху Шарамет быў яшчэ жывы. Мінакі выцягнулі яго з аўто, «хуткая дапамога» прыехала на месца здарэння праз пяць хвілін. Тым не менш, атрыманыя раненні апынуліся несумяшчальнымі з жыццём — Павел памёр у машыне медыкаў. Пахаваны ён будзе ў Беларусі.

Калі можна кагосьці назваць легендай беларускай незалежнай журналістыкі, дык Шарамет будзе ў першай дзясятцы гэтых людзей. Як звычайна бывае, ад пачатку пра журналістыку ён нават не марыў. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Скончыўшы тры курсы, пайшоў з гэтай ВНУ і паступіў на факультэт міжнародных эканамічных адносін Беларускага эканамічнага ўніверсітэта (дыпломная праца пра афшорны бізнес).

Да 1992 года ён працаваў у аддзеле валютных аперацый аднаго з банкаў, пазней — кансультантам эканамічных праграм Беларускага тэлебачання. Але неўзабаве стаў вядучым штотыднёвай аналітычнай праграмы «Праспект» беларускага тэлебачання.

Ён быў «новым тварам» новай Беларусі. Дзякуючы яму, у той час «Праспект» глядзела больш суайчыннікаў, чым традыцыйную праграму «Время» расійскага тэлебачання. Але потым змянілася ўлада, і Шарамет з тэлевізіі сышоў. Аднак журналістыка стала ягоным жыццём. У 1996 годзе ён узначаліў «Беларускую дзелавую газету», і ў тым жа годзе быў прызначаны загадчыкам беларускім бюро Грамадскага расійскага тэлебачання (ОРТ, цяпер — «Первый канал») і ўласным карэспандэнтам ОРТ па Беларусі.

У ліпені 1997 года, падчас здымкаў рэпартажу аб сітуацыі на беларуска-літоўскай мяжы, разам з Дзмітрыем Завадскім быў арыштаваны па абвінавачанні ў незаконным перасячэнні дзяржаўнай мяжы, у атрыманні грошай ад замежных спецслужбаў і ў незаконнай журналісцкай дзейнасці. Насамрэч — за агучванне факту, што мяжа з Літвой наўпрост «дзіравая». Такі крок беларускай улады выклікаў дыпламатычны скандал на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў. У расійскія рэгіёны не прапусцілі беларускі «борт №1» з Лукашэнкам. Кажуць, тагачасны кіраўніка Расіі Барыс Ельцын на гэта адрэзаў: «Хай спачатку Шарамета адпусціць!»

Павел быў асуджаны на два гады пазбаўлення волі ўмоўна і да аднаго года выпрабавальнага тэрміну, правёўшы ў турме агулам тры месяцы. Зразумела, пра працу ў Беларусі ў такіх умовах марыць не даводзілася, і ён з'ехаў у Маскву. У 1998 годзе працаваў спецкорам праграм «Новости» і «Время» дырэкцыі інфармацыйных праграм ОРТ, а ў студзені 1999 года заняў пасаду шэф-рэдактара расійскай і замежнай карэспандэнцкай сеткі дырэкцыі інфармацыйных праграм ОРТ. Быў вядучым штотыднёвай аналітычнай праграмы «Время».

У 2000 годзе Шарамет сышоў з навінавых праграм і працягнуў працаваць на «Першым канале» ўжо як аўтар дакументальных фільмаў і спецыяльных праектаў у рамках інфармацыйных праграм. Канчаткова пакінуў тэлеканал у 2008-м.



**Павел Шарамет быў легендай незалежнай беларускай журналістыкі**

З 2009 года з'яўляўся рэдактарам аддзела палітыкі і грамадства ў часопісе «Огонёк». Вёў праграмы на ОРТ і Рэн-ТВ. Але паступова расійскае тэлебачаннеператваралася ў аналаг беларускага. Шарамет з 2012 года вёў блог журналіста ў інтэрнэт-газеце «Украінская праўда». А потым стаў выканаўчым дырэктарам гэтай інтэрнэт-газеты.

У чэрвені 2015 года запусціў аўтарскі праект «Дыялогі» на ўкраінскім тэлеканале «24». З верасня 2015 года па красавік 2016 года быў вядучым украінскага «Радыё Весці».

Павел з'яўляўся аўтарам больш дзясятка дакументальных фільмаў, суаўтарам кнігі «Выпадковы прэзідэнт», прысвечанай рэжыму Лукашэнкі (са Святланай Калінкінай). У 2005-м напісаў кнігу «Піцерскія таямніцы Уладзіміра Якаўлева» аб новых расійскіх палітыках з Санкт-Пецярбурга. У 2009-м выйшла яго кніга пра шасцідзённую вайну ў Грузіі «Саакашвілі/Грузія. Загінулыя мары».

А таксама Павел быў стваральнікам сайтаў «Беларускі партызан» і «Гістарычная праўда».

Ужо вядома, што ў машыне Шарамета спрацавала выбуховае прыстасаванне. На месца забойства нашага калегі адразу прыехала кіраўніца Нацыянальнай паліцыі Украіны Хація Дэканаідзэ. Генпракурор Украіны Юрый Луцэнка паведаміў, што Шарамет загінуў у выніку спрацоўвання безабалонкавага самаробнага выбуховага прыстасавання, якое знаходзілася на днішчы аўто пад сядзеннем кіроўцы, моцнасцю ад 0,4 да 0,6 кг у трацілавым эквіваленце. Гэта ж пацвярджае дарадца кіраўніка МУС Украіны Зарын Шкірак, дадаючы, што выбухоўка была прыведзеная ў дзеянне «дыстанцыйна альбо з затрымкаю». Справа кваліфікуецца па артыкуле «Наўмыснае забойства, здзейсненае спосабам, небяспечным для жыцця многіх асоб», паведаміў пракурор Кіева Рамана Гоўда.

Працяг на стар. 4 »

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Асудзілі ці не, а штраф заплаці




**Баранавіцкі сябра прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Аляксандр Швед атрымаў паведамленне ад судовага выканаўцы, у якім яму прапанавана добраахвотна аплаціць штраф у памеры 20 базавых велічынь. Калі ён гэтага не зробіць, адзначана ў паведамленні, будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.**

Актывіст быў пакараны штрафам па абвінавачванні ва ўдзеле ў пікеце, які адбыўся ў Слоніме 31 сакавіка ля прахадной Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі. Пікет быў зладжаны актывістамі прафсаюза РЭП у падтрымку свайго калегі Міхаіла Сашко, з якім не працягнулі працоўны кантракт на прадпрыемстве.

20 мая актывіст судом Баранавічаў і Баранавіцкага раёна быў пакараны штрафам, але 30 чэрвеня Брэсцкі абласны суд адмяніў гэтае рашэнне суда і накіраваў справу на новы разгляд іншаму суддзі. Новага пасяджэння суда ў Баранавіцкім судзе яшчэ не было, але гэта, як аказалася, не даведзена да ведама судовых выканаўцаў. Таму яны патрабуюць аплаты штрафу, які, фактычна, яшчэ не прысуджаны.

**spring96.org**

### ГОМЕЛЬ. Зборшчыкі подпісаў не могуць зайсці ў інтэрнаты



**Ініцыятыўныя групы па вылучэнні кандыдатаў пры зборы подпісаў сутыкаюцца з перашкодамі, адна з якіх — вахцёры на ўваходзе ў інтэрнаты.**

Напрыклад, патэнцыйны кандыдат у дэпутаты Юрый Глушакоў (Гомельская-Цэнтральная акруга №33) называе цяжкасці з праходам сябрам ініцыятыўнай групы ў інтэрнаты на дадзеным этапе выбарчай кампаніі «адзінай цяжкасцю».

Асаблівая калі гэта тычыцца ўстаноў адукацыі — запалохання вахцёры сцвярджаюць, што без узгаднення з адміністрацыяй гэта немагчыма. У інтэрнатах жа прадпрыемстваў, як правіла, збору подпісаў звычайна не перашкаджаюць. За выняткам адзінага выпадку — у інтэрнаце аднаго камунальнага прадпрыемства. Нас не пусцілі, прапанаваўшы паставіць пікет звонку. У рэкламе мы не маем патрэбы, а збор подпісаў на пікеце лічым неэфектыўным, таму звярнуліся па дапамогу ў акруговую камісію», — распавёў Юрый Глушакоў.

Па яго словах, акруговая камісія дазволіла збор подпісаў у інтэрнаце, але калі сябры ініцыятыўнай групы зноў наведалі ўстанову, вахцёр працягвала настойваць, што не мае дазволу ад каменданта. І пасля яшчэ аднаго тэлефанавання ў акруговую камісію ў інтэрнат прыехаў намеснік дырэктара прадпрыемства па ідэалогіі, які і вырашыў гэтае пытанне.

Глушакоў неаднаразова ўдзельнічаў у выбарчых кампаніях, у 2003 годзе быў абраны ў Гомельскі гарсавет дэпутатаў. «Магу адзначыць, што на дадзеным этапе выбарчыя камісіі беспрэцэдэнтна лаяльныя. Прынамсі, пакуль. Чым гэта выклікана і як сітуацыя будзе развівацца далей — гэта іншае пытанне. Таксама зараз заўважаем пратэстны настрой выбарцаў. Калі на выбарах не даць гэтым настроям легітымнага выхаду, прагнозы на далейшае развіццё падзей могуць быць рознымі», — лічыць Юрый Глушакоў.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

### ГРОДНА. Прадпрымальнікаў усё менш



**Штомесяц колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў на Гродзеншчыне скарачаецца больш як на сто чалавек.**

Дадзеныя Белстата сведчаць пра тое, што цяпер колькасць прадстаўнікоў дробнага бізнесу Прынёмання не перавышае 26 тысяч чалавек. У параўнанні з пачаткам мінулага года лічба скарацілася больш як на дзве тысячы. Галоўная прычына такой тэндэнцыі — невыгодныя ўмовы працы, у якія трапілі індывідуальныя прадпрымальнікі дзякуючы захадам чыноўнікаў.

«Тупа закрывайся, у два разы зменшыўся наш заробак, і арэнда такая шаленая, цану трэба павышаць, а мы не можам павышаць, бо людзі не прыйдуць зусім. Людзі купляюць на рынку вельмі слаба, у нас знізілася ўсё. Людзі на рынак і не ходзяць, толькі па вялікіх святах. Народ неплацежаздольны стаў, і мы таксама разам з народам становімся больш беднымі і не можам тыя самыя падаткі плаціць, тую ж самую вялікую арэндную плату», — кажуць прадпрымальнікі.

Прадстаўнікі дробнага бізнесу Прынёмання лічаць, што дзяржава спрабуе іх знішчыць як клас. Безвыходная сітуацыя прымушае ІП рэгіёна змяняць від дзейнасці ці ажыццяўляць працу нелегальна.

**«Радыё Рацыя»**

# «Не можа быць, каб усё гэта працягвалася бясконца»

Сяргей ПУЛЬША



**Пасля працяглага перапынку Міхаіл Пастухоў атрымаў ліст ад вязня Магілёўскай турмы №4 Андрэя Бандарэнкі. Той піша, што ў летнюю спёку камера больш нагадвае саўну, з якой нельга выйсці. Там жа даводзіцца займацца працай — склейваць канверты ванітным клеем.**

Таксама Бандарэнка паведамляе, што пададзеныя ім скаргі на накладзеныя спагнанні, а таксама на рашэнне аб пастаноўцы яго на прафілактычны ўлік як злоснага парушальніка рэжыму вынікаў не далі. Больш за тое, скаргі, адрасаваныя ў пракуратуру, чамусьці перапраўляюцца ў Дэпартамент выканання пакаранняў МУС, то бок фактычна тым, на каго Бандарэнка скардзіцца. «У гэтай сувязі Бандарэнка ставіць слушнае пытанне: ці патрэбна наогул пракуратура як наглядны орган?» — паведаміў Міхаіл Пастухоў.

Як і варта было чакаць, з-за абвешчаных спагнанняў вязень быў пакінуты на строгім рэжыме адбывання пакарання. Зараз аб пераводзе на агульны турэмны рэжым можна марыць толькі праз паўгода. Калі, вядома, за гэты перыяд на яго не будуць накладзены новыя спагнанні. Нельга таксама выключыць і прымянення артыкула 411 КК («Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы»), паводле якога тэрмін зняволення можа быць павялічаны. Пра такую перспектыву Бандарэнка ўжо быў афіцыйна папярэджаны.

«Тэрмін пакарання праваабаронцы заканчваецца 31 сакавіка 2017 года. Ён не разлічвае на палёгку і не выключае нечаканасцяў. І ўсё ж такі ён верыць у перамогу справядлівасці і завяршае свой ліст словамі: «Не можа быць, каб усё гэта працягвалася бясконца», — паведаміў «НЧ» Міхаіл Пастухоў.

# Гіганцкі штраф за 6 рублёў

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Суддзя Фрунзенскага раёна Мінска Ганна Буйноўская аштрафавала прадпрымальніцу Таццяну Аляхновіч на 225 базавых велічынь, гэта прыкладна 2400 долараў.**

Нагадаем, Таццяну Аляхновіч вінавацяць у парушэнні правілаў гандлю — у прыватнасці, быццам бы за наяўнасць у кавярні пратэрмінаваных прадуктаў на суму каля шасці рублёў (тры долары). Па выніках праверкі супрацоўнікі Мінгандлю вынеслі прадпісанне зачыніць кавярню, а сама прадпрымальніца з нервовым зрывам патрапіла на месяц у шпіталь. За час прастою міні-кавярні жанчына ўжо страціла каля 70 мільёнаў рублёў — у гэтую суму ўваходзяць кошт арэнды, падаткі, выдаткі на камунальныя паслугі. Каб разлічыцца з пазыкамі, Таццяна Аляхновіч была вымушана прадаць кавярню — цяпер на тым месцы працуе іншы чалавек.

Аднак на гэтым нервовыя і фінансавыя страты не скончыліся — у судзе Фрунзенскага раёна Мінска прайшоў адміністрацыйны працэс паводле двух пратаколаў, складзеных рэвізорамі Мінгандлю (пра сутнасць прэтэнзій можна прачытаць у артыкуле «Дзяржава адносіцца да нас як да жывёл»). Падтрымаць прадпрымальніцу прыйшло каля дзесяці чалавек, сярод іх — лідары прадпрымальнікаў Мікалай Аўтуховіч і Алесь Макаеў. У судзе прысутнічалі і некалькі невядомых мужчын — ужо пасля суду грамадскія актывісты пазналі ў іх супрацоўнікаў КДБ.

З боку Міністэрства гандлю ў якасці эксперта прысутнічала Наталля Васілеўская — кіраўніца аддзела кантролю па Мінску. Рэвізоры Алена Ярашэвіч і Аляксандр Кульбакін, якія непасрэдна і праводзілі праверку ў кавярні, выступалі ў якасці сведкаў.

Сведкі ледзь не даслоўна паўтаралі змест пратаколаў. Як толькі суддзя альбо Таццяна Аляхновіч з адвакатам задавалі пытанні — Ярашэвіч і Кульбакін пачыналі блытацца, казалі, што не памятаюць дэталяў, а часам і супярэчылі адзін аднаму. Так, Алена Ярашэвіч распавяла, што прамежкавы пратакол па праверцы быў складзены прама ў кавярні на ноўтбуку прадпрымальніцы, а Кульбакін заявіў, што ніякіх тэхнічных сродкаў для складання дакументаў ніхто ім не прадстаўляў, і пратакол наогул у кавярні не складалі. Таксама Алена Ярашэвіч не змагла ўцямна патлумачыць, якімі беларускімі заканадаўчымі актамі вызначана, што на цэнніках нельга пісаць скарачэнні «РБ» і «РФ», а трэба пісаць поўныя назвы краін-вытворцаў. Тым не менш, суддзя Ганна Буйноўская не звярнала на такія супярэчнасці ўвагі.

Дарэчы, ніхто з прадстаўнікоў Мінгандлю не змог патлумачыць, на падставе чаго было вынесена прадпісанне правесці праверку менавіта ў гэтай міні-кавярні. Таццяна Аляхновіч выказала версію, што гэта была замова — нехта адмыслова хацеў вышчаміць яе з месца працы, каб пасля, верагодна, працаваць там самому.

Падчас суду высветлілася, што ж гэта за таямнічыя людзі прысутнічалі на праверцы разам з рэвізорамі — Аляксандр Кульбакін неахвотна прызнаўся, што гэта былі журналісты газеты «СБ. Беларусь сегодня». Справядлівыя пытанні Таццяны Аляхновіч пра тое, на якой падставе невядомыя людзі, якія нават не прадставіліся, здымалі ў памяшканні кавярні ды глядзелі ўнутраныя камерцыйныя дакументы, суд таксама пакінуў без адказу.

Адвакат прадпрымальніцы акцэнтаваў увагу на суме «пратэрміноўкі» — самага важнага правапарушэння — усяго каля 6 рублёў. І прапанаваў спыніць працэс за нязначнасцю парушэння. Наталля Васілеўская ў адказ пафасна заўважыла, што ўсе правапарушэнні істотныя, і што ў справах з прадуктамі харчавання «нязначнага» не бывае.

Па ўсіх прэтэнзіях, апісаных у пратаколах, Таццяна Аляхновіч дала тлумачэнні і выказала нязгоду. Сведкі і эксперт, у сваю чаргу, казалі адваротныя рэчы. Падаецца, прагляд запісу відэаздымкі, якая вялася ў кавярні, мог бы дапамагчы вызначыць, хто хлусіць?

Аднак Ганна Буйноўская палічыла іначай — суддзя завіла, што відэазапіс не можа быць доказам, а таму глядзець і прыкладаць да справы яго не будзе. Тым не менш, у матэрыялах справы прысутнічалі фотаздымкі, зробленыя рэвізорамі ў кавярні.

Па выніках разгляду справы, які цягнуўся каля чатырох гадзін, суддзя прызнала Таццяну Аляхновіч вінаватай і прысудзіла штраф 225 базавых велічынь (максімальна магчымы — 500 базавых). Цяпер Таццяна Аляхновіч будзе рыхтаваць дакументы для абскарджвання гэтага прысуду. Мы будзем і далей сачыць за гэтай справай.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Якую краіну развалілі!»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На тыдні ў некаторых была магчымасць панастальгаваць па СССР. У Мінск прыехаў кіраўнік расійскай кампартыі Генадзь Зюганаў, каб атрымаць з рук Аляксандра Рыгоравіча дзіўную ўзнагароду.**

Лукашэнка ўручыў Зюганаву ордэн Дружбы народаў, якім галоўны расійскі камуніст уганараваны «за значны асабісты ўклад ва ўмацаванне дружалюбных адносін і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй, станаўленне Саюзнай дзяржавы, развіццё эканамічных, навукова-тэхнічных і культурных сувязяў».

«Столькі, колькі робіце вы ў Расіі, гэта не для лісліўвасці сказана, ніхто не рабіў і не робіць, — сказаў Лукашэнка. — Мы ўзнагародзілі вас не да выбараў, а даўно. Проста ў нас не было выпадку, каб я асабіста вам уручыў гэту ўзнагароду».

Чаму ўзнагарода дзіўная? Таму што ў беларускай мове няма такога слова — «дружба». Ёсць «сяброўства». Тое, што беларуская ўзнагарода мае найменне на мове суседняй дзяржавы, пагадзіцеся, выглядае недарэчным. Канешне, руская мова ў Сінявокай мае роўны статус з беларускай, але называць на ёй дзяржузнагароды — перабор.

Лукашэнка таксама выказаў і свае ідэалагічныя сімпатыі. Паводле яго словаў, Камуністычная партыя з'яўляецца самай блізкай да народа. «Я вельмі рады, што кіраўніцтва Расіі нарэшце зразумела, што Кампартыя — гэта партыя не развалу, не процістаяння, не рэвалюцыі і вайны, а што гэта партыя накіраваная на стварэнне», — заявіў беларускі кіраўнік.

Але насамрэч Зюганаў, хутчэй за ўсё, прыехаў у «апошні аплот сацыялізму» не за ўзнагародай. А панастальгаваць па тых часах, калі долар каштаваў 60 капеек. Праўда, зараз ён каштуе два рублі, але гарэлку па сем рублёў ніхто не адмяняў. Так што Генадзь Андрэевіч мог узгадаць тут сваю маладосць. Нават нягледзячы на тое, што кілбасы «па рубель дваццаць» няма і не прадбачыцца.

Прыкра толькі, што нічым, акрамя новых коштаў, беларускае кіраўніцтва парадаваць дарагога госця не змагло. У астатнім наша краіна набліжаецца да «аскалу капіталізму». Напрыклад, новую фішку фактычна галоўнага банка краіны — «Беларусбанка» — ужо ахрысцілі «падаткам на грошы».

Справа ў тым, што з 1 жніўня ў гэтым банку ўводзяць камісійны збор у памеры ў 1 новы рубель за ўсё наяўныя плацяжы. Фактычна, рубель давядзецца заплаціць за адзін падыход да касавага акенца: пры гэтым усё роўна, адну аперацыю вы ажыццяўляеце альбо дзесяць. І нават калі вы захочаце паклаці два рублі на рахунак мабільнага тэлефона, давядзецца да гэтай сумы дадаць рубель.

У «Беларусбанку» тлумачаць, што і так амаль апошнімі пайшлі на такі крок: «Толькі «Белаграпрамбанк» застаўся, усе даўно перайшлі на збор камісіі». Няцяжка таксама здагадацца, што такім чынам банкі спрабуюць засцерагчыся ад велізарных чэргаў жадаючых аплаціць камунальныя паслугі. Магчыма, цяпер людзі будуць карыстацца іншымі метадамі аплаты.

Але што здзіўляе: у банку кажуць, што ўсе камісійныя зборы пойдуць на дабрачынныя мэты пасля кансультацы з Міністэрствам сацыяльнай абароны.

Пагадзіцеся, нейкая дзіўная дабрачыннасць. Прымусовая. Хочаш — не хочаш, але аддай банку камісію (між іншым, даволі высокую, 10 000 на старыя грошы — гэта кубак кавы) на тое, на што грамадзяне, па ідэі, заўсёды ахвяруюць добраахвотна. Канешне, было б нармальна, калі б гэты «дабрачынны фонд» меў бы канкрэтныя і вызначаныя мэты скарыстання грошай. І нават не канкрэтныя, а проста вызначаныя: на лячэнне хворых дзяцей, на дапамогу дамам-інтэрнатам і г.д. Але ж і вызначанасці няма! «Мы збярэм з вас грошыкі, а потым вырашым, як мы іх патрацім».

> **Зюганаў, хутчэй за ўсё, прыехаў у «апошні аплот сацыялізму» не за ўзнагародай. А панастальгаваць па тых часах, калі долар каштаваў 60 капеек. Праўда, зараз ён каштуе два рублі, але гарэлку па сем рублёў ніхто не адмяняў**

Затое наш урад працягвае перавыконваць антызадачы. На 2016 год у нас быў запланаваны рост ВУП на 0,3% мінімум. Эксперты Даследчага цэнтра ІПМ і Нямецкай эканамічнай групы ў Беларусі (GET Belarus) яшчэ ў чэрвені казалі, што спад ВУП у нас у гэтым годзе дасягне 2%. Рэальнасць апынулася яшчэ горшай. ВУП сінявокай за паўгады знізіўся на 2,5%.

Праўда, гэта яшчэ не канец. МВФ прагназуе зніжэнне ВУП Беларусі па выніках 2016 года на 3%, а ў 2017-м — на 0,5%, Сусветны банк — на 3% і 1% адпаведна. Але нашы чыноўнікі таксама здзівілі. Па выніках чатырох месяцаў тэмпы падзення ВУП складалі 3–4%. І на падставе такога «стабільнага падзення» ўлады прыйшлі да высновы пра тое, што намецілася «дынаміка вяртання на траекторыю эканамічнага росту». Смешна? Мне таксама.

У Беларусі ў студзені-чэрвені 2016 года ўведзена ў эксплуатацыю 2 мільёны 75,4 тысячы квадратных метраў жылля, на 24,5% менш у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. У студзені-чэрвені валавы рэгіянальны прадукт (ВРП) знізіўся ва ўсіх абласцях Беларусі і Мінску. У студзені-маі ў выніку зніжэння сусветных цэн на сыравінныя тавары беларускі нафтавай і калійны экспарт скараціўся больш чым на 1,5 мільярда долараў.

Рэальныя наяўныя даходы насельніцтва падаюць з пачатку года. Да прыкладу, у студзені яны скараціліся на 5,4% да аналагічнага перыяду 2015 года, у студзені-лютым — на 6,4%, у студзені-сакавіку — на 6,5%, у студзені-красавіку — на 6,8%, а ў студзені-маі — на 7%. Гэта антырэкорд не толькі для гэтага года, але і для мінулага.

Тым часам кошты за студзень-май выраслі на 7%, за чэрвень яны падняліся яшчэ 0,4%.

Пісаць пра тое, як дрэнна мы жывем, не мае сэнсу, усе і так адчуваюць гэта на сваёй скуры. Пры гэтым, канешне, узнікаюць вельмі падставовыя сумненні ў тым, што грошы, якія «выцыганіць» са сваіх кліентаў ці не самы галоўны дзяржбанк краіны, сапраўды пойдуць на дабрачыннасць. Хутчэй, будзе прафінансаваная чарговая «дзяржпраграма».

Праўда, ёсць прапанова, куды б «Беларусбанк» мог бы накіраваць «добраахвотна-прымусовыя» ўнёскі кліентаў так, каб тыя не пакрыўдзіліся. На платформе «Талака» пачаўся збор сродкаў на экранізацыю апавядання Васіля Быкава «Народныя мсціўцы». Як кажа рэжысёр фільма Аляксандр Меліхавец, гэта фільм не пра партызанаў і не пра вайну, як можа падацца з назвы (яна на самай справе сатырычная), а пра маральны выбар, заезджаную ўжо «талерантнасць», цярплівасць і іншыя характэрныя рысы беларусаў. Акрамя цікавага і актуальнага сюжэту ў фільме будзе ўсё, чаго, на думку аўтара, не хапае сучаснаму беларускаму кіно: беларуская мова, зварот да нашай літаратуры і актуальных тэмаў.

Ці праспансуе «Беларусбанк» беларускае кіно?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Вольга Кавалькова

**Каардынатарка аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» намагаецца, каб дэлегаты Усебеларускага народнага сходу вярнулі падораныя ім планшэты.**

Кіраўніца БХД адзначае, што, згодна з п. 1.8 артыкула 22 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь", дзяржслужачыя не маюць права прымаць маёмасць (падарункі) або атрымліваць іншую выгаду ў выглядзе паслугі ў сувязі з выкананнем службовых абавязкаў, за выключэннем сувеніраў, якія ўручаюцца пры правядзенні пратакольных і іншых афіцыйных мерапрыемстваў. Сувеніры, кошт якіх перавышае 5 базавых велічынь, перадаюцца ў даход дзяржавы па рашэнні камісіі, што ствараецца кіраўніком дзяржорганa, у якім дзяржслужачы займае пасаду.

Кожнаму дэлегату-дзяржслужачаму быў падораны сувенір у выглядзе планшэта Samsung Galaxy Tab 7.0, арыенціровачны кошт якога на дату правядзення мерапрыемства — 4,1 мільёна недамінаваных рублёў, што складае 19,5 базавых велічынь.

«Мы падрыхтавалі зварот у КДК з патрабаваннем усталяваць спіс дзяржслужачых, якія атрымалі планшэт у падарунак, і перадаць падарункі ў даход дзяржавы, а спагнаныя сродкі накіраваць на будаўніцтва сацыяльна значных аб'ектаў. Мы будзем і надалей змагацца з нямэтавым выкарыстаннем бюджэтных сродкаў, хоць зразумела, што дзяржорганы, якія павінны прыцягваць да адказнасці самі сябе, ніколі гэта не зробяць», — заявіла Вольга Кавалькова.



### Тарас Аватараў

**Абарона байца добраахвотніцкага ўкраінскага корпуса «Правага сектара» абскардзіла прысуд суда Фрунзенскага раёна Мінска і апеляцыйнае вызначэнне Мінгарсуда.**

Наглядная скарга накіравана старшыні Мінгарсуда. Рашэнне можа быць прынята ў пачатку жніўня. Калі спатрэбяцца запатрабаванне справы і дадатковыя даследаванні — тэрміны могуць зацягнуцца.

Тарас Аватараў быў затрыманы на чыгуначным вакзале ў Мінску раніцай 26 лістапада мінулага года. Прыператрусе ў яго былі выяўленыя два пашпарты, самаробнае выбуховае прыстасаванне на аснове асколачных гранат, сігнальны пісталет, а таксама даведка пра ўдзел у антытэрарыстычнай аперацыі на тэрыторыі Украіны ад імя "Правага сектара". У момант затрымання на падазронным была бронекамізэлька.

5 мая суд Фрунзенскага раёна Мінска прыгаварыў яго да пяці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму без канфіскацыі маёмасці. Ён прызнаны вінаватым у незаконным абароце выбуховага прыстасавання і яго незаконным перамяшчэнні праз мытную мяжу Беларусі.

Абарона лічыць, што гаворкі аб незаконным абароце выбуховага прыстасавання ісці не можа. Асноўная частка прылады — аскепкавая граната — была выпушчаная ў 1979 годзе, і гексаген, калі ён і быў унутры корпуса, даўно страціў свае ўласцівасці.

### Вікторыя Азаранка

**Як высветлілася, сусветнавядомая тэнісістка хутка стане мамай.**



«Я даведалася ад свайго доктара, што ў канцы года я і мой малады чалавек станем бацькамі. Гэта сапраўднае шчасце, і мы з нецярпеннем чакаем пачатку новага этапу будаўніцтва сям'і», — напісала Віка ў Твітары.

Цяжарнасць тэнісісткі для многіх стала шокам. Аб цяперашнім рамане тэнісісткі і будучым бацьку дзіцяці не вядома зусім нічога. Магчыма, гэта амерыканец Біл МакКіг — менавіта ён пазіруе з Вікай на шматлікіх фота: заўзее за тэнісістку на трыбунах, клапатліва падносіць ёй ручнік, яны смяюцца і разам з сябрамі ласуюцца піцай.

Ці хутка Віка зноў выйдзе на корт? Магчыма, прынамсі, яна плануе хуткае вяртанне. Прыклады вядомыя: 113-я ракетка свету Таццяна Малек вярнулася на корт праз тры месяцы і ў першы год мацярынства выйграла тры тытулы ITF, а тэнісістка Кара Блэк праз паўгода пасля родаў набыла 6 тытулаў, уключаючы выніковы турнір WTA.

# Бывай, Павел!

« Працяг.
Пачатак на стар. 1

Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка выказаў спачуванні родным Паўла і даручыў праваахоўным органам «неадкладна расследаваць гэтае злачынства». А дзеля празрыстасці расследавання папрасіў пра дапамогу ФБР, якое дало згоду далучыцца да следства. І даў даручэнне міністру замежных спраў Паўлу Клімкіну запрасіць да расследавання еўрапейскую паліцыю — Europol.

Парашэнка асабіста паведаміў пра рашэнне даць ахову грамадзянскай жонцы Паўла Алене Прытуле і прапанаваў тую ж ахову галоўнаму рэдактару «Украінскай праўды». Сябры Шарамета распавялі, што ў апошні час ён і яго жонка заўважылі сачэнне за сабой.

Зараз ва ўкраінскіх праваахоўных органах існуюць тры версіі забойства.

Першая: забойства звязанае з прафесійнай дзейнасцю Паўла Шарамета, Алены Прытулы і «Украінскай праўды» ўвогуле. Гэтая версія найбольш верагодная. Паколькі Шарамет і Прытула карысталіся адной машынаю, забойца не мог ведаць, хто будзе сядзець за стырном. Значыць, не мела значэння тое, хто будзе ў машыне падчас выбуху. У звязку з гэтым разглядаецца і версія, што планавалася забойства Алены Прытулы.

Нават калі бомбу падрывалі дыстанцыйна і ведалі, хто едзе, — дык «прафесійная» версія найбольш верагодная. Застаецца толькі зразумець, над чым такім працаваў Шарамет альбо яго рэдакцыя ў цэлым. Апошні блог Паўла Шарамета на «Украінскай праўдзе» быў прысвечаны падтрымцы батальёна «Азоў» і яго лідара Андрэя Білецкага.

Заран Шкірак таксама адзначыў, што «не выключаецца» версія, звязаная з непрыязнымі адносінамі Шарамета з пэўнымі асобамі. Але, дадаў ён, «такая версія заўсёды прысутнічае, бо мы не можам выключаць нічога».

Трэцюю версію выказаў дарадца кіраўніка МУС Антон Герашчанка. На яго думку, цынічнае забойства журналіста «Украінскай праўды» можа быць выкарыстана для дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнай сітуацыі ва Украіне, і не выключыў у гэтым «расійскага следу».

Можна было б казаць пра паранойю ўкраінскіх сілавікоў, якія здольныя бачыць «расійскі след» у самых шараговых сітуацыях, але, тым не менш, гэтая версія мае права на існаванне. Сам спосаб забойства выглядае на тэракт, а тэракт мае на мэце не толькі забіць, але і выклікаць пэўныя наступствы ў грамадстве. І гэтага тэрарысты дамагаюцца двума спосабамі: альбо вялікай колькасцю ахвяр, альбо забойствам «знакавай» асобы. Тое, што Шарамет быў «знакавым», ні ў кага не выклікае сумневаў.

Варта зазначыць, што на забойства Шарамета вельмі дзіўна адрэагавала Масква. Павал Шарамет — грамадзянін Расійскай Федэрацыі, і яго забойства — «падстава для вельмі сур'ёзнай занепакоенасці ў Крамлі», заявіў журналістам не хто-небудзь, а прэс-сакратар прэзідэнта Дзмітрый Пяскоў. «Спадзяемся на бесстаронняе і хуткае расследаванне», — дадаў ён.

Чаму Расія раптам узгадала, чый Шарамет грамадзянін? У той час, як яны сотнямі і тысячамі кідаюць сваіх грамадзян на Данбасе, кажучы, што там не ваююць іх войскі і іх грамадзяне? Чаму да Крамля далучаецца кіраўнік Саюза журналістаў Расіі Усевалад Багданаў, які сходу выключае версію «расійскага следу» і кажа пра жаданне «такім чынам заблытаць ход следства»? Ад моманту гібелі Шарамета не прайшло і сутак, а нейкія версіі некім ужо «выключаюцца»? Дзіўна? Яшчэ больш дзіўна, калі ўзгадаць, што Шарамет быў сябрам Барыса Нямцова (нават вёў жалобную цырымонію на яго пахаванні), заступаўся за арыштаванага Гары Каспарава і гэтак далей.

Расійская прымаўка пра злодзея і шапку згадваецца імгненна.

З-за забойства Шарамета Парашэнка сабраў тэрміновую нараду сілавікоў, і там было вырашана, што апошняй версіяй — тэракт і «расійскі след» — будуць займацца тыя, каму гэта належыць: Служба бяспекі Украіны. Гэта іх непасрэдная справа.

У любым выпадку, лепш пагадзіцца з кіраўніцай сайта «Хартыя'97» Наталляй Радзінай, якая лічыць, што заказчыкі гэтага забойства «могуць быць адкуль заўгодна, у тым ліку і з Мінску», чым адразу «выключаць» нейкія версіі.

Мы вельмі спадзяемся, што высілкі ўкраінскіх праваахоўных органаў хутка дадуць свой плён. І калі нават не хутка — абы забойцы былі пакараныя.

Рэдакцыя «НЧ» далучаецца да ўсіх спачуванняў родным і блізкім нашага выбітнага калегі і таленавітага журналіста, якім быў Павал Шарамет.

# Вакульчык супраць Макея



Сяргей ПУЛЬША

**Ужо зараз можна казаць, што выбарчая кампанія «не адпавядае стандартам АБСЕ».**

Беларускую кампанію па выбарах у Палату прадстаўнікоў ужо зараз можна «зліваць». А вінаватыя ва ўсім старшыня КДБ Валер Вакульчык і дзяржаўнае інфармагенцтва БелТА.

Менавіта БелТА распаўсюдзіла інфармацыю пра справаздачу Вакульчыка Аляксандру Лукашэнку, і тое, што там было сказана. А сказана было, што Вакульчык распавядаў кіраўніку дзяржавы пра ход кампаніі па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

Журналістам старшыня КДБ паведаміў, што парламенцкая кампанія ў Беларусі праходзіць досыць актыўна: «Кіраўнік дзяржавы праінфармаваны, што дастаткова высокая актыўнасць штабоў прэтэндэнтаў у кандыдаты ў дэпутаты па зборы подпісаў, арганізацыі працы пікетаў. У штатным рэжыме працуюць выбарчыя камісіі».

Пры гэтым ён адзначыў, што «назіраецца досыць нізкі ўзровень цікавасці грамадзян Беларусі да прэтэндэнтаў з ліку прадстаўнікоў розных апазіцыйных структур». «У іх узнікаюць сур'ёзныя праблемы са зборам подпісаў з улікам нізкай цікавасці да іх з боку грамадзян Беларусі», — заявіў Вакульчык.

Гэта, мякка кажучы, няпраўда. Па-першае, наконт збору подпісаў. Некаторыя апазіцыянеры ўжо сказалі, што неабходная тысяча подпісаў сабраная за першыя ж 10 дзён кампаніі. А хто не сабраў, той блізкі да гэтага.

Па-другое, зараз не тая фаза перадвыбарчай кампаніі, каб ацэньваць цікавасць людзей да кандыдата. Згодна нашаму выбарчаму заканадаўству, усё, што можа зараз зрабіць прэтэндэнт — ад апазіцыі ён ці ад улады, — гэта прадставіць выбаршчыку сваю біяграфію і азначыць прыналежнасць да той самай апазіцыі альбо «не апазіцыі». «Кандыдаты ў кандыдаты» не маюць права агітаваць за свае ідэі і прапановы. У выпадку прапаганды сваёй праграмы альбо раздачы інфармацыйных матэрыялаў прэтэндэнт атрымлівае ад выбарчай камісіі «жоўтую картку» за заўчасную агітацыю. Як гэта адбылося, напрыклад, з лідаркай маладых хрысціянскіх дэмакратаў Марынай Хоміч.

Па-трэцяе, спадар Вакульчык, ці то ад слабай ангажаванасці ў выбарчы працэс, ці то, наадварот, ад вялікай да яго ўвагі, скарыстаўся прыёмам «падмены паняццяў». У сённяшніх варунках збор подпісаў ніяк не карэлюецца з вылучэннем кандыдатаў дэпутаты і не кажа пра нізкую цікавасць да прэтэндэнта. Апазіцыйныя кандыдаты не імкнуцца сабраць як мага больш подпісаў — гэта не прэзідэнцкія выбары. Для іх важна стасавацца з выбаршчыкамі, павялічваць сваю пазнавальнасць, размаўляць з людзьмі (дзякуй Богу, пакуль такія размовы «заўчаснай агітацыяй» не з'яўляюцца і не забароненыя). Такім чынам апазіцыйныя прэтэндэнты фармуюць свой патэнцыйны актыў, высвятляюць праблемы выбарчых акругаў, тэстуюць сваіх валанцёраў перад агітацыйнай кампаніяй. А для сапраўднага вылучэння кандыдатам у дэпутаты шмат з іх скарыстаюцца іншай магчымасцю — магчымасцю вылучэння ад палітычных партый.




Не выключаю, што некаторыя сённяшнія прэтэндэнты ў кандыдаты нават не будуць здаваць сабраныя подпісы за сваё вылучэнне ў выбарчыя камісіі.

Гэты падыход яскрава прадэманстраваў з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які прайшоў у Мінску ў мінулыя выхадныя. На ім кандыдатамі ў дэпутаты было вылучана 70 чалавек, 65 з якіх стварылі і ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў. То бок, на дадзеным этапе для іх важная магчымасць стасункаў з людзьмі. Колькасць сабраных аўтографаў грамадзян — справа другасная.

А вось пад што паклаў «міну запаволенага дзеяння» старшыня КДБ — дык гэта пад высілкі міністра замежных спраў Уладзіміра Макея яшчэ больш палепшыць нашы адносіны з Захадам. Адначасова такая ж міна закладзеная пад тое, чаго шмат гадоў палохаецца апазіцыя — магчымасць легітымацыі новага складу Палаты прадстаўнікоў. Спадар Вакульчык сваімі выказваннямі дэ-факта прызнаў — у апазіцыі працуюць «засланыя казачкі» спецыяльных службаў.

Канешне, тое, што такія людзі ёсць, гэта сакрэт Палішынеля. Аднак са слоў старшыні КДБ вынікае, што гэтыя людзі не проста «адсочваюць» дзейнасць апазіцыі. Яны яшчэ і кантралююць актыўнасць штабоў патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты («высокую», па словах Вакульчыка), працу выбарчых камісій («у штатным рэжыме»), арганізацыю пікетаў і збор подпісаў.

То бок, фактычна КДБ умешваецца ў ход выбарчай кампаніі і з'яўляецца адным з яе ўдзельнікаў.

Пытанне, ці могуць быць прызнаныя выбары свабоднымі і справядлівымі, калі яны праходзяць не проста пад кантролем, а пры актыўным удзеле спецслужбаў, рытарычнае. Відавочна, што вынікі такога «народнага волевыяўлення» не будуць лічыцца міжнароднай супольнасцю вартымі даверу. Бо наступны крок адсюль — прызнанне легітымнымі выбараў пад рулямі аўтаматаў, як тое было ў так званых «ДНР» і «ЛНР».

Толькі з-за слоў Вакульчыка, аптымістычна растыражаваных БелТА, міжнародныя назіральнікі ўжо зараз могуць пісаць, што беларуская кампанія «не адпавядае стандартам АБСЕ». Бо ніводзін дэмакратычны стандарт не прадугледжвае выбараў пад кантролем і з удзелам спецслужбаў.



З 1990 па 1996 год дзень 27 ліпеня з'яўляўся дзяржаўным святам

**Дэпутатамі было вырашана праводзіць галасаванне па праекце простай большасцю (больш паловы ад колькасці зарэгістраваных). Прапанова Віктара Ганчара аб неабходнасці галасавання канстытуцыйнай большасцю (дзве трэці галасоў) была адхілена**

# Як пачыналася незалежная Беларусь

*Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ*

**Беларуская дэкларацыя аб суверэнітэце з'явілася ў выніку так званага «параду суверэнітэтаў» — так назвалі працэс абвяшчэння саюзнымі рэспублікамі адпаведных заканадаўчых актаў, якія істотна паслаблялі неабмежаваную раней уладу цэнтра.**

27 ліпеня 1990 года вышэйшы прадстаўнічы і заканадаўчы орган Беларусі Вярхоўны Савет 12-га скліканння зацвердзіў незвычайны дагэтуль для рэспублікі нарматыўны прававы акт — Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі. Менавіта таму да рэферэндуму 1996 года Дзень незалежнасці Беларусі адзначаўся 27 ліпеня.

### Умовы і парадак прыняцця

У канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў сталі відавочныя сімптомы будучага распаду СССР, якія ў другой палове 1980-х праявіліся не толькі ў рэзкім узрастанні грамадскай актыўнасці ў нацыянальных рэспубліках, але і ў вострых міжнацыянальных канфліктах, у прыватнасці, у Нагорным Карабаху, Грузіі і іншых. Імкнучыся задаволіць палітычныя амбіцыі мясцовых эліт, кіраўніцтва СССР згадзілася пашырыць іх паўнамоцтвы шляхам прыняцця адпаведных дэкларацый. Гэтым самым Міхаіл Гарбачоў разлічваў захаваць саюзнае адзінства, а значыць, і асабістую ўладу.

Беларусь прыняла сваю Дэкларацыю дзясятай з пятнаццаці і апошняй — з еўрапейскіх рэспублік.

Кропкай адліку гісторыі Дэкларацыі з'яўляецца 18 чэрвеня 1990 года, калі Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР выдаў пастанову «Да пытання аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР». Гаворка ў гэтым дакуменце ішла аб падрыхтоўцы Дэкларацыі і стварэнні спецыяльнай камісіі па яе распрацоўцы.

Такая камісія пад кіраўніцтвам старшыні парламента Мікалая Дземянцея ўзнікла 20 чэрвеня 1990 года. У склад камісіі ўвайшлі 35 чалавек — усе народныя дэпутаты. З вядомых асоба ў варта ўзгадаць Станіслава Шушкевіча, Васіля Шаладонава, Дзмітрыя Булахава, Дзмітрыя Арцыменю, Мечыслава Грыба, Віктара Ганчара, Генадзя Карпенку, Анатоля Лябедзьку, Аляксандра Саснова, Ніла Гілевіча, Леаніда Козіка, Васіля Лявонава, Яфрэма Сакалова. Ад дэпутацкай групы БНФ у склад камісіі ўвайшоў Уладзімір Заблоцкі.

Асобы з кіраўніцтва парламентам альбо старшыня пастаяннай камісіі курыравалі адпаведны артыкул, якіх у праекце камісіі налічвалася дванаццаць. Напрыклад, назва праекта Дэкларацыі і прэамбула былі замацаваны за першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, артыкул другі — за старшынёй камісіі па заканадаўстве Дзмітрыем Булахавым. Некаторыя артыкулы курыравалі два старшыні пастаянных камісій (напрыклад, старшыня камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Генадзь Карпенка і старшыня камісіі па аграрных пытаннях, харчаванні і сацыяльным развіцці сяла Уладзімір Гаркун — артыкул чацвёрты). Пяты артыкул курыравалі старшыня камісіі па пытаннях працы Саветаў народных дэпутатаў і развіцці самакіравання Уладзімір Леўчык і дэпутат Віктар Ганчар. Адзіны — сёмы артыкул — курыраваў Уладзімір Заблоцкі, што, безумоўна, сведчыць аб высокім даверы калегаў да гэтага дэпутата.

Пасля васьмі пасяджэнняў камісіі 23 ліпеня 1990 года праект быў вынесены для абмеркавання.

### Альтэрнатыўныя дэкларацыі

Акрамя афіцыйнага праекта парламентарыям былі прапанаваны дзве альтэрнатыўныя распрацоўкі. Адна зыходзіла ад дэпутацкай групы БНФ. Праект быў ухвалены на канферэнцыі БНФ 30 чэрвеня – 1 ліпеня з удзелам 300 дэлегатаў і амаль адразу быў перададзены Зянонам Пазьняком у Сакратарыят Вярхоўнага Савета.

Праект групы БНФ быў аддадзены на экспертызу. Вядучыя дзяржаўныя СМІ адмовіліся яго публікаваць. З найбольш вядомых выданняў праект апублікаваў у №11–12 за 1990 год часопіс «Роднік», які рэдагаваў Уладзімір Няклаеў. Праект апазіцыі БНФ быў таксама апублікаваны ў адным з нумароў бюлетэняў пасяджэнняў сесіі Вярхоўнага Савета.

Праект Дэкларацыі, прапанаваны дэпутацкай групай БНФ, складаўся з дзвюх частак. У першай частцы («Гістарычныя палажэнні») сцвярджалася, што суверэнітэт Беларусі мае вытокі яшчэ ў Полацкім княстве і Вялікім Княстве Літоўскім. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і анексіі беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі імкненне беларускага народа да незалежнасці, сцвярджалася ў тэксце праекта, выявілася ў шэрагу паўстанняў 1794, 1830–1831, 1863–1864 гадоў. Да паўстання распрацоўшчыкі праекта чамусьці прыраўнялі і расійскую рэвалюцыю 1905 года. Абвяшчэнне БССР, на думку аўтараў праекта, было нічым іншым, як следствам існавання БНР. Дэкларацыя, абвінавачваючы ва ўсіх бедах Беларусі бальшавікоў і Расію, абвясціла нелегітымнымі Дагавор аб утварэнні СССР 30 снежня 1922 года, а таксама тэрытарыяльныя змены, звязаныя з Рыжскім мірам 18 сакавіка 1921 года і перадачай Літве Вільні і Віленскага краю 10 кастрычніка 1939 года. У гэтай частцы аўтары праекта ўсю віну за Чарнобыльскую катастрофу ўсклалі на кіраўніцтва СССР.

Другі раздзел пад назвай «Дэкларацыя» абвяшчаў, што палітычны суверэнітэт Беларусі можа рэалізавацца толькі ў форме незалежнай нацыянальнай дзяржаўнасці, а незалежнасць Беларусі — натуральная і галоўная ўмова забеспячэння правоў і свабод грамадзян. У другім раздзеле ўтрымліваліся наступныя патрабаванні: пацвердзіць незалежнасць Беларусі згодна з Трэцяй Устаўной граматай ад 25 сакавіка 1918 года, прыняць назву «Беларуская Рэспубліка», прыпыніць у дачыненні да Беларусі дзеянне дагавора 1922-га, склікаць Усебеларускі Устаноўчы Сход (Сойм).

Фармальнай кропкай адліку беларускай дзяржаўнасці дэпутацкай групай БНФ было прапанавана 25 сакавіка 1918 года — дзень абвяшчэння БНР.

Праект БНФ выклікаў вострыя дыскусіі, шмат пытанняў. Напрыклад, дэпутат Аляксандр Лукашэнка пытаўся ў Зянона Пазьняка, ці ёсць эканамічныя перспектывы «у белорусского государства так называемого», колькі павінна налічваць армія незалежнай Беларусі. Лідар БНФ упэўнена адказаў, што эканамічныя перспектывы ёсць, а армія павінна налічваць не больш 50 000 чалавек.

Улічваючы склад дэпутацкага корпуса, шанцаў на тое, што праект БНФ будзе зацверджаны, практычна не было. Па выніках галасавання ён атрымаў усяго 47 галасоў.

Другі праект падрыхтавала група (22 народных дэпутаты) Яўгена Глушкевіча. У прэамбуле праекта гаварылася, што Дэкларацыя прымаецца, зыходзячы з трэцяй устаўной граматы БНФ ад 25 сакавіка 1918 года. Праект групы Яўгена Глушкевіча пацвярджаў дзяржаўны суверэнітэт Беларусі як натуральную і неабходную ўмову існавання беларускага народа. У праекце абвяшчаліся дзяржаўнасць беларускай мовы, роўнасць формаў уласнасці, ліквідацыя на тэрыторыі рэспублікі ўсіх ракетных базаў, права на ўласнае войска, органы дзяржаўнай бяспекі, грашовую адзінку. Вярхоўны Савет абвяшчаўся органам вышэйшай дзяржаўнай улады да склікання Усебеларускага Устаноўчага Сойму.

Праект групы Яўгена Глушкевіча атрымаў толькі 57 дэпутацкіх галасоў.

### Цяжкае абмеркаванне

Абмеркаванне афіцыйнага праекта дэкларацыі ішло цяжка, дыскусіі вяліся ледзь не па кожнай літары.

24 ліпеня 1990 года за аснову быў прыняты праект камісіі. Ён набраў 208 галасоў. Мікалай Дземянцей заклікаў кожнага дэпутата пры абмеркаванні праекта «вложить в него душу».

Абмеркаванне пачалося 26 ліпеня. Дэпутатамі было вырашана праводзіць галасаванне па праекце простай большасцю (больш паловы ад колькасці зарэгістраваных). Прапанова Віктара Ганчара аб неабходнасці правядзення галасавання канстытуцыйнай большасцю (дзве трэці галасоў) была адхілена. Таксама было прынята рашэнне аб пайменным галасаванні па праекце Дэкларацыі.

Працяг на стар. 6 »

# Як пачыналася незалежная Беларусь

« Працяг.
Пачатак на стар. 5

Спачатку была зацверджана назва гэтага заканадаўчага акта. Справа ў тым, што на абмеркаванне дэпутатаў былі прапанаваны тры назвы: Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР; Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі; Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі. Як бачым, народныя выбраннікі без ваганняў падтрымалі першы варыянт.

Складанасці пачаліся з прэамбулы, у выніку чаго дэпутаты вымушаны былі галасаваць не толькі па частках, але нават па сказах. Напрыклад, асобнае галасаванне праводзілася па сказе «выказваючы волю народа Беларускай ССР».

Вострыя дэбаты таксама разгарнулі і наконт таго, што рабіць з суверэнітэтам: альбо пацвярджаць яго, альбо толькі абвяшчаць, бо ў першапачатковым варыянце праекта, прапанаванага камісіяй, было запісана, што Вярхоўны Савет пацвярджае дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР. У выніку дэпутаты не зацвердзілі прэамбулу з першага разу.

Пры абмеркаванні праекта Дэкларацыі падавалі розныя заўвагі і прапановы. Адны паспяхова прымаліся, іншыя — не. Так, была адхілена прапанова Віктара Ганчара, згодна з якой «да стварэння новай канстытуцыі БССР на яе тэрыторыі дзейнічаюць палажэнні Канстытуцыі 1978 года, якія не супярэчаць дадзенай Дэкларацыі».

Дэпутаты таксама праігнаравалі прапановы дэпутацкай групы БНФ: аб назве праекта — скасаванне абрэвіятуры БССР (Юрый Беленькі), аб пераемнасці БССР ад БНР і неабходнасці парламенцкай рэспублікі (Зянон Пазьняк), аб адраджэнні нацыянальна-культурных і гістарычных сімвалаў (Алег Трусаў), аб абавязковай ратыфікацыі ўсіх юрыдычных актаў, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі (Уладзімір Заблоцкі), аб выключэнні з праекта тэрміна «сацыялізм» (Лявон Баршчэўскі) і інш.

Некаторыя пажаданні, унесеныя прадстаўнікамі БНФ, усё ж былі ўключаны ў тэкст Дэкларацыі. Напрыклад, па прапанове Зянона Пазьняка ў артыкул шосты ў адносінах да тэрыторыі было зацверджана слова «непадзельная»: а таксама была падтрымана фармулёўка Уладзіміра Заблоцкага аб увядзенні ў рэспубліцы пасады Генеральнага пракурора.

Зацвярджэнне восьмага артыкула можна лічыць перамогай дэпутацкай групы БНФ. Па прапанове Зянона Пазьняка былі прыняты папраўкі аб патрабаванні з боку БССР кампенсацыі ад Масквы з-за Чарнобыльскай катастрофы і выкарыстанні суверэнітэту Беларусі для выратавання грамадзян ад наступстваў атамнай аварыі. У выніку галасавання цалкам артыкул быў прыняты 245 галасамі з 251 зарэгістраванага дэпутата.

Трыумфальна быў зацверджаны і дзявяты артыкул праекта Дэкларацыі (232 «за», ніводнага з 251 зарэгістраванага — «супраць»). Дэпутаты дружна галасавалі за функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, захаванне гістарычнай сімволікі і г.д. Гэта выклікала радасць «куратара» артыкула Ніла Гілевіча, які ўзначальваў камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Расчулены паэт пад апладысменты заявіў, што «сённяшняе стаўленне» дэпутатаў да культуры «яму спадабалася».



Сябар камісіі ВС па распрацоўцы праекта Дэкларацыі Дзмітрый Арцыменя. Забіты 20 верасня 1993 года



Сябар камісіі ВС па распрацоўцы праекта Дэкларацыі Васіль Шаладонаў. Са снежня 1992-га па май 1995-га займаў пасаду Генпракурора



Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання Яўген Глушкевіч

Цалкам іншая сітуацыя склалася з дзясятым артыкулам. Дэпутаты розных палітычных поглядаў выказвалі ўзаемавыключальныя думкі пра ваенныя перспектывы Беларусі. Калі група БНФ настойвала на ўласных беларускіх Узброеных Сілах, то, напрыклад, прадстаўнікі арганізацыі ветэранаў вайны і працы патрабавалі наогул прыбраць гэты тэрмін. Так, дэпутат-ветэран Міхаіл Сасноўскі быў перакананы, што «мы, белорусы, вряд ли сможем создать все роды войск». Па прапанове Мікалая Дземянцея артыкул быў прапушчаны, і парламентарыі на наступны дзень, 27 ліпеня 1990 года, перайшлі да наступнага артыкула.

Артыкул адзінаццаты быў крытычна ўспрыняты дэпутацкай групай БНФ. Так, Валянцін Голубеў прапанаваў выключыць прапанову аб правах БССР уступаць і выходзіць з саюзаў, спасылаючыся на трэцюю частку артыкула першага Дэкларацыі. Аднак яго ініцыятыва не была падтрымана: «за» прагаласавалі 124 дэпутаты з 251 зарэгістраванага.

Супраць той часткі артыкула, дзе гаворка ішла аб удзеле Беларусі ў падпісанні дагавора Саюза Суверэнных Сацыялістычных Дзяржаў, выступілі Алег Трусаў і Лявон Баршчэўскі, якія прапанаўвалі заключаць з іншымі рэспублікамі больш надзейныя двухбаковыя дагаворы. Аднак Мікалай Дземянцей актыўна лабіяваў палажэнні дадзенага артыкула.

Калі дэпутаты 184 галасамі падтрымалі фармулёўку адзінаццатага артыкула ў рэдакцыі камісіі, то Зянон Пазьняк заявіў, што «мы сунем галаву ў пятлю». Дэпутацкая група БНФ дэманстратыўна пакінула Авальную залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета. Больш таго, Зянон Пазьняк заявіў, што гэты Вярхоўны Савет «няздольны прыняць Дэкларацыю».

Дэпутат Дзмітрый Сыракваш (адначасова дырэктар БелАЗа) заявіў, што такі зыход «достоин сожаления», і што гэта акцыя мела на мэце «сорвать конструктивный диалог».

Праз шмат гадоў дзеячы БНФ Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык сцвярджалі, што сыход дэпутацкай групы БНФ быў разлічаны на тое, каб Дэкларацыя была хутчэй прынятая.

Пасля адзінаццатага артыкула дэпутаты вярнуліся да дзясятага. Пры абмеркаванні дзясятага артыкула праблемы паўсталі па той яго частцы, дзе гаворка ішла аб нейтралітэце і бяз'ядзернай зоне. Дэпутаты ад БНФ патрабавалі зацвердзіць такую фармулёўку, якая б прадугледжвала адназначнае абвяшчэнне нейтралітэту Беларусі, а яе тэрыторыі — бяз'ядзернай зонай. Аднак за гэтую прапанову прагаласавалі толькі 64 дэпутаты з 237 зарэгістраваных. Таму парламентарыі задаволіліся больш лагоднай фармулёўкай, якая абвяшчала, што Беларуская ССР толькі ставіць перад сабой мэту стаць нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавай: «за» прагаласавала 229 дэпутатаў з 237 зарэгістраваных.

### «Спокойно, товарищи»

Пасля дзясятага артыкула наступіла чарга апошняй часткі прэамбулы. Станіслаў Шушкевіч зачытаў дзве папраўкі, якія набралі з пяці папярэдніх найбольшую колькасць галасоў. У першай папраўцы гаварылася аб урачыстым пацвярджэнні дзяржаўнага суверэнітэта Беларусі, у другой — аб яго ўрачыстым абвяшчэнні. Фактычна пытанне стаяла аб тым, ці існавала ў мінулым беларуская дзяржава. Першая папраўка набрала 128 галасоў з 241 зарэгістраванага, а другая — 155. Станіслаў Шушкевіч з сумам канстатаваў, маўляў, на гэтым тыдні Вярхоўны Савет не прыме Дэкларацыю. Занерваваліся і дэпутаты, таму Мікалай Дзямянцей кінуў фразу: «Спокойно товарищи, только спокойно».

Выхад з тупіка прапанаваў дэпутат Анатоль Вярцінскі. На яго думку, яшчэ быў «рэзерв» для таго, «каб зблізіць два падыходы». Для гэтага ў другі варыянт, які набраў 155 галасоў, перад словамі «дзяржаўны суверэнітэт», неабходна было дадаць «рэальны або поўны». У выніку за фармулёўку, паводле якой БССР урачыста абвяшчала «поўны дзяржаўны суверэнітэт», прагаласавалі 204 дэпутаты з 241 зарэгістраванага.

Вострыя дэбаты разгарэліся па апошнім, дванаццатым артыкуле. Першапачатковая яго рэдакцыя гучала так: «Гэтая Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі Канстытуцыі Беларускай ССР».

Здавалася, праблема вырашана, бо за гэтую рэдакцыю прагаласавалі 212 дэпутатаў з 241 зарэгістраванага. Аднак дэпутат Віктар Ганчар заявіў, што ў такім выглядзе дадзены артыкул не можа быць прыняты. На яго думку, патрэбна была папраўка аб тым, што да ўступлення ў сілу новай Канстытуцыі Беларусі на яе тэрыторыі дзейнічаюць толькі тыя палажэнні Канстытуцыі Беларускай ССР ад 1978 г., якія не супярэчаць дадзенай Дэкларацыі. Віктара Ганчара падтрымалі дэпутаты Уладзімір Кулакоў, Аляксей Камай і інш. У выніку Мікалай Дземянцей быў вымушаны абвясціць перапынак.

Пасля перапынку адказны за дванаццаты артыкул Валерый Курдзюкоў, які ўзначальваў камісію па справах моладзі, зачытаў дэпутатам іншую фармулёўку артыкула: палажэнні дадзенай Дэкларацыі рэалізуюцца Вярхоўным Саветам шляхам прыняцця новай Канстытуцыі, законаў БССР праз заключэнне дагавораў з іншымі суверэннымі дзяржавамі. За гэтую фармулёўку прагаласавалі толькі 126 дэпутатаў з 235 зарэгістраваных. Альберт Кавалёў, які выступіў пасля галасавання, заклікаў падтрымаць менавіта гэтую фармулёўку. Дэпутат даказваў, што яна дазволіць удасканальваць «нашы законы», заключаць дамовы з іншымі дзяржавамі. Яго падтрымаў дэпутат Уладзімір Грыбанаў, які сцвярджаў, што такая фармулёўка артыкула надасць Дэкларацыі лагічную завершанасць, таму што «дома без крыши не бывает».

Прыхільнікам такой фармулёўкі артыкула ўдалося схіліць большасць парламента на сваю карысць. Мікалай Дземянцей пагадзіўся на паўторнае галасаванне па дзвюх фармулёўках.

Станіслаў Шушкевіч зачытаў першую фармулёўку на беларускай мове: «Дадзеная Дэкларацыя з'яўляецца асновай для распрацоўкі Канстытуцыі Беларускай ССР, законаў Беларускай ССР», а другую — на рускай: «Положения данной Декларации реализуются Верховным Советом Белорусской ССР путём принятия новой Конституции (Основного Закона) Белорусской ССР, законов Белорусской ССР».

Беларускамоўная фармулёўка набрала 155 галасоў з 232 зарэгістраваных, а рускамоўная — 220 галасоў. Цалкам за артыкул у другой фармулёўцы прагаласавалі 229 дэпутатаў.

Потым узяў слова Аляксандр Паўлоўскі і нечакана прапанаваў вярнуцца да дзявятага артыкула. Ён выступіў супраць тэрміна «нацыянальная супольнасць». Дэпутат, які з'яўляўся палякам, быў перакананы, што «мы такім запісам пакрыўдзілі іншыя нацыянальнасці», і заклікаў вярнуцца да слова «нацыянальнасць». Аляксандру Паўлоўскаму даў тлумачэнне Ніл Гілевіч. Па перакананні паэта, «супольнасць» — больш падыходнае слова. Яно выступае як сума ўсіх людзей адной нацыянальнасці (палякі, яўрэі і г.д.). Спытаўшы Аляксандра Паўлоўскага, ці задаволены той тлумачэннем, і атрымаўшы станоўчы адказ, Мікалай Дземянцей прапанаваў галасаваць па праекце ў цэлым. Дэкларацыя была зацверджана 229 галасамі з 232 зарэгістраваных. Супраць не выказаўся ніводнага дэпутата, не было і тых, хто ўстрымаўся. Не галасавалі тры дэпутаты.

Нягледзячы на тое, што галасаванне было пайменным, пратаколы пайменнага галасавання ў Нацыянальным архіве і ў апублікаваным бюлетэні паседжання сесіі Вярхоўнага Савета адсутнічаюць, таму вызначыць прозвішчы тых народных выбраннікаў, хто не галасаваў, пакуль не ўяўляецца магчымым.

Чаму так здарылася? Адказ трэба шукаць у словах Станіслава Шушкевіча: «Многія дэпутаты папрасілі, каб галасаванне было пайменнае. Я прапаную: давайце мы на нашай вылічальнай машыне зарэгіструем пайменна і, калі спатрэбіцца, раздрукуем. Калі не спатрэбіцца, то не будзем гэтага рабіць».

Па прапанове дэпутата Анатоля Вярцінскага, 27 ліпеня было абвешчана святочным днём. За гэта прагаласавалі 210 дэпутатаў з 232 зарэгістраваных.

27 ліпеня 1990 года са сцэнаў Вярхоўнага Савета прагучала моцная заява. Зянон Пазьняк абвясціў аб стварэнні парламенцкай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце (дэпутацкая група БНФ была створана 16 ліпеня 1990 года). Заявіўшы аб тым, што толькі што прынятая Дэкларацыя з'яўляецца «пустой паперкай».

Аднак прыняцце Дэкларацыі, нягледзячы на расплывовасць некаторых палажэнняў, супярэчнасць з тагачаснай дзейнай Канстытуцыяй 1978 года, паклала пачатак афармленню незалежнай краіны.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №7 (119)
(ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by




## Змест



# Ватыканскія архівы Скарыны

**Новыя звесткі пра біяграфію і постаць беларускага першадрукара Францыска Скарыну адшукаў Алесь Жлутка, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Беларусі.**



Падчас камандзіроўкі ў Ватыкан даследнік удакладніў сувязь першадрукара з Пятым Латэранскім саборам, які адбыўся ў 1512–1517 гадах. На тым саборы прымала ўдзел дэлегацыя дацкага караля, у складзе якой быў "нейкі" Скарына. А праз тры месяцы ўжо дакладна Францыска Скарыну пры абароне доктарскай працы ў Падуі называюць сакратаром дацкага караля Ганса. Ці пра адну і тую ж асобу ідзе гаворка ў розных крыніцах — задумаўся навуковец. Падчас працы ў Ватыканскім архіве Алесь Жлутка знайшоў цікавыя дакументы, у якіх сакратар дацкага караля паведамляе пра тое, што да Пятага Латэранскага сабору хацеў далучыцца маскоўскі цар. Даследнік адзначыў, што ў часе працы з дакументамі высвятляюцца надзвычай цікавыя рэчы: перад 1508 годам дацкі кароль Ганс прымаў у сябе дэлегацыю ад маскоўскага цара Васілія ІІІ. Паслы прасілі караля дамовіцца з Папам Рымскім Юліем ІІ аб доступе маскоўскага пасольства да Ватыканскага двара. Вядома, што дацкі манарх стараўся праз французскага караля паспрыяць уладкаванню маскоўскіх паслоў у Ватыкане. Падчас гэтых і наступных перамоў дацкі кароль спрабаваў дамовіцца з Васілём ІІІ аб паяднанні Цэркваў.

«У 1509 годзе да дацкага двара прыбыла таксама дэлегацыя польскага караля і Вялікага князя Жыгімонта, у падданстве якога на землях Беларусі і Украіны таксама былі праваслаўныя і дакументацыя вялася на лаціне і старабеларускай мове. Узнікае пытанне: дзеля чаго патрэбны быў Скарына дацкаму каралю ў якасці сакратара? Адказ напрошваецца сам сабой: для дыпламатычных зносінаў з Жыгімонтам і Васілём ІІІ. Скарына выконваў экуменічную місію ў справе паяднання двух галінаў хрысціянства. Вельмі верагодна, што ў Даніі ён і атрымаў медычную адукацыю, каб пасля абараніць дактарат па медыцыне ў Падуі», — адзначае даследнік, аднаўляючы храналогію падзей, якія адбыліся больш за пяць стагоддзяў таму. Атрымаць медычную адукацыю Францыск Скарына мог з 1509 па 1512 год, але пакуль гэта толькі тэорыя, бо менавіта гэты час яшчэ застаецца белай плямай у ягонай біяграфіі. У любым выпадку, тое, што Скарына мог быць непасрэдным удзельнікам дацкай дэлегацыі на Пяты Латэранскі сабор — вельмі важная акалічнасць, мяркуе Алесь Жлутка. Гэта не дзіўна: Скарына атрымаў адукацыю і ва ўсходняй, і ў заходняй хрысціянскай традыцыі, вучыўся ў каталіцкіх універсітэтах, працаваў пры дварах дацкага караля і віленскага біскупа, выдаваў Біблію і літургічныя кнігі для праваслаўных вернікаў. «Пашыраецца дыяпазон ягонай асобы, пашыраецца дыяпазон перамяшчэнняў Скарыны па Еўропе. Гэта кажа пра тое, што ён быў асобай рэнесанснага тыпу. А як вядома, дзеячы Адраджэння ў той час даволі шмат падарожнічалі па Еўропе, набываючы веды і працуючы ў розных галінах. А яго дзейнасць у экуменічным кірунку сведчыць аб шырыні светапогляду, аб яго адкрытасці. Тое, што ён мог удзельнічаць у справе паяднання падзеленых частак хрысціянства напярэдадні новага падзелу, які несла блізкая Рэфармацыя, надае яшчэ большую веліч ягонай постаці», — упэўнены навуковец.

Доктар медыцыны і свабодных навук, магчымы ўдзельнік дыспутаў з Парацэльсам — вядомым містыкам XVI стагоддзя, і Марцінам Лютэрам, безумоўна, велічная, але і таямнічая постаць, — усё гэта Францыск Скарына. Алесь Жлутка прызнаўся, што ісці крок за крокам па слядах першадрукара –нібы разблытваць дэтэктыў, фінал якога на сённяшні дзень невядомы, бо нават месца смерці Скарыны пакуль дакладна невядомае. Затое можна амаль з пэўнасцю ўзнавіць звесткі пра першую палову ягонага жыцця, у прыватнасці — пра тое, дзе Скарына атрымаў першапачатковую адукацыю і рэлігійныя веды. Названы ён быў у гонар святога Францыска Асізскага — патрона кляштару бернардынцаў у Полацку, пры якім і атрымаў веды лацінскай мовы, а веды ў праваслаўнай традыцыі і ў старабеларускай кніжнай мове — пры адным з полацкіх праваслаўных манастыроў.

Усе новыя звесткі абавязкова будуць апублікаваныя: навукоўцы плануюць выдаць новы зборнік дакументаў аб жыцці і дзейнасці Скарыны, і, магчыма, ён убачыць свет ужо ў 2017 годзе. «Запланавана выданне на новых агіграфічных прынцыпах і адпаведным навуковым узроўні, бо за мінулы з папярэдняга выдання час з'явіліся новыя звесткі, былі знойдзеныя новыя дакументы. Таксама будуць папраўлены ўжо апублікаваныя дакументы, будуць дададзеныя факсіміле. Трэба на новым фактагічным узроўні прадставіць асобу Скарыны», — адзначае Алесь Жлутка.

Асэнсаваць постаць Скарыны яшчэ трэба будзе многім, і нагода адпаведная ёсць: у 2017 годзе ўвесь свет адзначыць пяцісотгоддзе першай друкаванай Бібліі Скарыны. Праца па вывучэнні ягонай біяграфіі вядзецца цяпер шматлікімі ўстановамі Беларусі, а ўлічваючы веліч і знакамітасць гэтай постаці, узнікла нават ідэя надаць нацыянальнаму аэрапорту Беларусі імя Францыска Скарыны.

**radiovaticana.va**

# Конкурс «Экслібрыс» імя Антона Луцкевіча

**1 сакавіка 2016 года Саюз беларускіх пісьменнікаў абвесціў пра пачатак прыёму прац на конкурс «Экслібрыс», які сёлета мае імя Антона Луцкевіча і прысвечаны крытыцы і літаратуразнаўству.**

Тэма конкурсу — «Сучасная беларуская літаратура XXI стагоддзя: імёны, тэндэнцыі, перспектывы (ад 2000 — па сёння)».

Да ўдзелу запрашаюцца даследчыкі літаратуры, крытыкі і літаратурныя журналісты, якія пішуць на беларускай мове, ва ўзросце да 35 гадоў.

Конкурс праводзіцца ў дзвюх намінацыях:

— Літаратурная крытыка (артыкулы, рэцэнзіі, водгукі, эсэ, нарысы);

— Літаратуразнаўства (навуковыя артыкулы, агляды).

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc да 1 верасня 2016 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Экслібрыс». У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантакты нумар тэлефона і e-mail.

За ходам конкурсу сачыце на сайце http://lit-bel.org/.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Прэмія імя Карласа Шэрмана

**Сузаснавальнікамі новастворанай прэміі з'яўляюцца Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-Цэнтр і Міжнародны дабрачынны фонд «Вяртанне».**

Узнагарода будзе ўручацца перакладчыкам за мастацкую перакладную кнігу, якая была апублікаваная ў годзе, што папярэднічае году намінацыі на прэмію. У выключных выпадках прэмія, калі пераклад на беларускую мову рабіўся некалькімі асобамі, можа быць падзеленая паміж імі.

Намінаваць прэтэндэнтаў на прэмію могуць выдаўцы, творчыя аб'яднанні і самі перакладчыкі. На іх ляжыць абавязак прадставіць да 15 верасня на разгляд журы прэміі электронныя версіі і два папяровыя асобнікі намінаваных кніг. Папяровыя асобнікі прымаюцца па адрасе Саюза беларускіх пісьменнікаў (220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906), электронныя варыянты — на адрас: konkurs.pierakladau@gmail.com

Прэмія за найлепшую перакладную кнігу заснаваная ў гонар выдатнага беларускага літаратурнага перакладчыка Карласа Шэрмана (1934–2005). Плануецца, што першая цырымонія ўзнагароджання адбудзецца ў дзень нараджэння Карласа Шэрмана: 25 кастрычніка.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**




# Зміцер Колас і «Паэты планеты»

**Выдавец Зміцер Колас заснаваў новую кніжную серыю «Паэты планеты», першыя шэсць кніг якой ужо выйшлі з друку.**

Творы Сапфо, Пятраркі, Рансара, Шэкспіра, Гётэ, Габрыэлы Містраль падаюцца ў найлепшых перакладах прадстаўнікоў некалькіх перакладчыцкіх пакаленняў — ад Уладзіміра Дубоўкі і Юркі Гаўрука да Ганны Янкута і Антона Францішка Брыля.

Усе выданні маюць зручны кішэнны фармат, сярэдні кошт аднаго асобніка — тры з паловай дэнамінаваныя рублі.

У планах выдаўца на найбліжэйшы час выданне ў серыі шэдэўраў лірыкі Рыльке, Хаяма, Катула, Гёльдэрліна, Каханоўскага, Апалінэра, Катры Валы… Усіх маркуецца выдаць каля 75 кніг серыі.

Усе яны маюць арыгінальнае афармленне, распрацаванае колішнім выпускніком Коласаўскага ліцэя Марцінам Русецкім.

# Алена Ігнацюк: «Будзе ўсё наадварот»

**У серыі «Кнігарня пісьменніка» СБП пабачыла свет новая кніга паэзіі Алены Ігнацюк «Будзе ўсё наадварот».**




З яе старонак на нас глядзіць лірычны герой — інтэлігент, які на ўлонні прыроды назірае за аблокамі і разважае пра сутнасць пагляду Сакрата і Мандэльштама.

Трэцяя кніга паэткі прытрымліваецца канцэпту першых двух. У ёй працягваюцца бясконцыя шуканні, але ўжо з пэўным досведам. Гэтую з'яву можна прасачыць па вобразе паэзіі, створаным Аленай Ігнацюк. Калі ў першым зборніку паэзія-дзіця шукае ідэалізаванага гаспадара, а ў другім гераіня толькі вучыцца яе апранаць, «Будзе ўсё наадварот» апісвае ўжо больш сталую паэзію, якая вядзе гераіню за сабой (ці яны ідуць разам як роўныя).

«Куды ж паэзія вядзе? У свет мастацтва, які неадлучны ад культуры, бо культура, як вядома, трымаецца на трох кітах: гэта розум, пачуцці (харастово) і мараль (дабро)», — абгрунтоўвае паэтка новы штрых у стварэнні вобраза.

Алена Ігнацюк выкладае ў Палескім дзяржаўным універсітэце «Тэорыю і гісторыю сусветнай культуры». Асноўным сэнсам культуры яна лічыць чалавекатворчасць. Кажа, што інтэлігентнага, неадлучнага ад культуры чалавека з яе дапамог зрабіць уласны знак задыяку — Рыбы. А на другую — узнёсла-раманічную — частку асобы паўплывала эпоха, час, у якім яна нарадзілася, — 1960-я гады.

Для каго піша Алена Ігнацюк? Здаецца, свайго чытача яна ведае ў твар.

«Я думаю, што майму чытачу — за 40 амаль. І яго вызначэнне адпавядае стылёвым праграмам маёй паэзіі. І ён зусім не рэаліст, хутчэй імпрэсіяніст, мадэрніст, авангардыст.

Што б хацелася да яго данесці? Культуралагічную думку, што чалавецтву патрэбна вярнуцца да страчанага ім калісьці раю і страчаных ідэалаў; данесці і тое, што мы абралі заніжаную планку, каб назваць сябе асобамі».

Тэксты новай кнігі Алена Ігнацюк адносіць да «адваротнага». Па словах аўтаркі, гэта больш часавая катэгорыя, якая ідзе ад космасу, ад інтуіцыі, ідзе заўсёды пад знакам «+».

**Алена Босава**

# Сорак дзён па Ігару Кврнановічу

19 чэрвеня трагічна загінуў малады паэт, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтар кнігі «Астэроід» Ігар Канановіч.

Сакратарыят «Саюза беларускіх пісьменнікаў», сябры і аднадумцы выказалі глыбокія спачуванні родным і блізкім Ігара. Яго трагічны сыход — вялікая страта для літаратурнай Беларусі.

Ігар Канановіч нарадзіўся 22 ліпеня 1983 года ў Клецку. У 2000-м скончыў Заастравецкую СШ Клецкага раёна. У 2003 годзе паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Пасля заканчэння ў 2008–2013 гадах працаваў настаўнікам беларускай і рускай моў у школах Клецкага раёна. Пазней жыў і працаваў у Мінску.

Публікавацца пачаў у 2006 годзе. Друкаваўся ў часопісах "Дзеяслоў" і «Верасень».

Развітанне з Ігарам адбылося на яго малой радзіме ў Клецку.

На саракавіны пасля сыходу Ігара ў іншы свет «Літаратурная Беларусь» змяшчае развітальныя словы аб ім...



Фота Вікі Трэнас

# «Я толькі адступіў, а не ўцёк...»

**Памяці Ігара Канановіча**

Ён пайшоў сімвалічна — у дзень народзінаў свайго куміра Васіля Быкава. Зрабіў свой апошні крок з даху дома на праспекце Незалежнасці — разбегся і паляцеў. Паляцеў туды, дзе, як ён верыў, жыццё лепшае, чым у роднай Беларусі.

Ён на ўсё меў свае меркаванне, асобнае, заўсёды трымаўся сваіх слоў, нават калі ўсе астатнія казалі, што яму варта не ўпарціцца, а пагадзіцца з большасцю, не спрачацца і не даводзіць, а схіліць галаву.

«Удалячынь гляджу з кар'ернай кручы» — спяваў Ігар у адной са сваіх песняў... Цяпер гэтыя словы ўспрымаюцца зусім інакш. Цяпер у кожным ягоным слоўцы бачыцца намёк для нас, родных і сяброў... Намёк, які мы не заўважылі. Даруй, родненькі...

Мы пазнаёміліся на філфаку ў 2003 годзе, і з таго часу Ігар стаў маім найлепшым і самым верным сябруком і аднадумцам. Ён здаваўся такім сталым, разважлівым, спакойным і засяроджаным вельмі. Да яго цягнула. Бывалі і цяжкія часы... Ігар заўсёды падтрымліваў мяне... Памятаю, казаў пра намётавае мястэчка: «Зялінская, калі ты туды пойдзеш, я табе эпітафію напішу!». Мы смяяліся, ён баяўся, што буду пабітая. Хваляваўся за мяне. Мяне і «пабілі». Калі выйшла праз свае восем сутак, Ігар быў першым, хто сустрэў мяне ў вестыбюлі факультэта, падышоў, абняў моцна-моцна... А я, памятаю, спыталася: «Ну, дык дзе мая эпітафія?! Паказвай хутчэй!». Вельмі доўга ён цягнуў з маёй «эпітафіяй», а ў выніку прысвяціў мне песню...

Ён часта пісаў для сяброў... Пісаў выдатныя, вельмі шчымлівыя песні і вершы. Цяпер кожнае слоўца ягонае ўспрымаецца інакш, чым тады, у момант, калі ён прадстаўляў сябрам творы свае...

Пасля заканчэння БДУ ён з вялікім энтузіязмам распавядаў пра сваю працу ў школе. Яго цягнула да дзяцей, а дзеці вельмі любілі яго. Так, яго моцна засмучала прыніжанасць Настаўніка. Сістэма адукацыі ў краіне, дзе настаўнік — ледзь не апошні чалавек, з якога можна здзекавацца, дурыць яго, дзе кожны крок і любая ініцыятыва захлынаюцца. Але Ігар спрабаваў змагацца. Не дазваляў сябе прыніжаць.

Аднойчы напісаў мне: «Дашуня, трэба нешта рабіць, клецкі РАНА абвясціў негалосны конкурс: хто з настаўнікаў збярэ са сваім класам па горадзе больш бутэлек за вызначаны тэрмін, клас таго паедзе на экскурсію ў Менск! Я што — зусім нічога не варты, каб у летнім лагеры прымушаць дзяцей у мясцовых беспрытульных бутэлькі адбіраць?! Што гэта за конкурс такі?! Афіцыйнага загаду няма, толькі на словах, але два кантэйнеры для бутэлек на тэрыторыі школы з раніцы стаяць! Старэйшыя прамаўчаць, схіляць галовы, але ж некаму трэба змагацца і за дзяцей, і за іх!». Мы стэлефанаваліся з «Еўрарадыё», Ігар распавёў аб тым, кантэйнеры і загад дурны зніклі, як і не было. Начальства здагадалася, што гэта ён паскардзіўся, але наўпроставых абвінавачанняў не выставіла.

Дзеці вельмі любілі свайго Ігара Васільевіча. Арганізоўваў для іх розныя клубы па цікавостках, часта збіраў іх і вадзіў у паходы... Памятаю, калі звольніўся, на ягонай старонцы «Укантакце» дзеці ледзь не плакалі: «Ігар Васільевіч, куды Вы ад нас?!», «А хто ж цяпер з намі?..»...

*Я рады гэты дзень пакінуць ззаду.*
*Баюся, як забытае дзіця.*
*Бо тут вакол засады, міны, здрады*
*На сцежках як бы роўнага жыцця...*

Ён любіў дзяцей. Вельмі хацеў вучыць і казаў, што і ад іх вучыцца.

Цяжка падбіраць словы, бо мы, родныя і сябры, і дасюль не верым. Вярталася з яго апошніх «гасцей» і думала: мне там з «Нашай нівы» пісалі, каб я сказала пра Ігара колькі слоў, трэба хуценька ўключыць ноўт і спытацца, ці не супраць ён, каб я што напісала пра яго... Спатрэбілася некалькі хвілінаў на ўсведамленне таго, што пытацца пра гэта больш няма ў каго...

Мой харошы, мой надзейны і верны сябар... Так ганарыўся выхадам сваёй першай кнігі «Астэроід». Радаваўся ўступленню ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Столькі планаў было, так многа песняў і вершаў яшчэ не напісанымі засталіся, столькі дабрыні ў сэрцы... Увесь час здавалася: ну што там — паспеем яшчэ сто разоў!

Не паспелі. Не заўважылі. Не абаранілі. Няма і больш ніколі ўжо не будзе.

Раптам узгадалася: смяяліся колькі гадоў таму, што калі не знойдзем асабістае шчасце, то плюнем на ўсё, сыйдземся ды будзем жыць разам, з павагай адно да аднаго, са шкадаваннем і пяшчотай ды вернасцю... Я называла яго «даражэнькі», а ён мяне — «Дашуня». Ён стрымліваў мяне, калі я моцна ўжо чым абуралася, астуджваў, казаў: «Дашуня, беражы нервы!». Казаў, што нашыя нервы яшчэ спатрэбяцца нам у барацьбе за нашую родную краіну. Ніколі не хацеў з'ехаць, кінуць тут усё... І думак такіх не меў. Беларусь, Радзіма — і толькі яны! І ніяк інакш!

*Яшчэ не раз дастане моцы*
*Здзівіць свайго становішча паноў...*

Наш родны пайшоў у свой апошні шлях. Разбегся і паляцеў. Паляцеў у свой вырай.

Казаў мне на імпрэзе, прысвечанай дзесяцігоддзю Плошчы-2006, на якую я яго запрасіла і на якой мы побач сядзелі, плячо да пляча... Саромеўся, што не пайшоў са мной на Плошчу ў 2006-м. Казаў, што адчувае сум і правіну... Зрабіў сваю асабістую Плошчу. На якой і загінуў так неспадзявана, так бязглузда для ўсіх. Немагчыма паверыць, што яго больш ніколі не будзе побач.

Усміхаўся мне перад апошнім крокам... Я і не адчувала, што ён сабраўся ў такі далёкі і самотны шлях... Збіраю думкі, як асколкі...

«Я толькі адступіў, а не ўцёк...»

Родны, ты назаўжды застанешся ў нашых сэрцах. Мы захаваем цябе; у кожнага, хто ведаў, застанецца ў сэрцы частка тваёй шырокай і чыстай душы. Але май на ўвазе, мой дарагі сябрук, што калі мы сустрэнемся Там, табе давядзецца адказаць на маё пытанне: «Як ты мог нас кінуць тут адных?!»

Вечная памяць, мой мілы! Ты заўжды з намі.

А ў памяць пра Ігара нашая аднакурсніца пасадзіла з сваёй вёсцы ў Полацкім раёне алею каштанаў...

**Дар'я Зялінская-Макаўчык**

# Уладзімір Някляеў: «Кожны з нас нараджаецца ўчора, а памірае заўтра»

**Сёлета пісьменнік і грамадскі дзеяч Уладзімір Пракопавіч НЯКЛЯЕЎ сустрэў свой 70-ы ліпень. Сустрэў у вандроўках, роздумах і вершах.**




Травеньская «Літаратурная Беларусь» апублікавала нізку яго новых твораў з кнігі «Толькі вершы», а сёння — у юбілейныя дні паэта — змяшчае ягоную гутарку на тэмы, не зусім блізкія з паэзіяй: грамадства, палітыка, апазіцыя і ўлада, нацыянальная культура, талент і вера...

***Віталь Сямашка: — Спадар Уладзімір, ці не здаецца Вам, што зноў "усё змяшалася ў доме Аблонскіх"? Ці — таксама не мая цытата — "у апазіцыі паехаў дах"?! Узяць нядаўні выпадак, калі перад судом над Вячаславам Сіўчыкам у яго маці Галіны Васільеўны здарыўся сардэчны прыступ з-за кпінаў ды «паклёпаў» на яе сына, што з зайздроснай рэгулярнасцю ўначы з'яўляліся ў Фэйсбуку. Усё пасля ўстаноўчага мітынга з'езда Кангрэса дэмсіл, які ўлады «загналі» на адкрытае паветра і за што Вас таксама судзілі. Увесь гэты раздрай доўжыцца напярэдадні чарговых выбараў у парламент, якія апазіцыя зноў «прадзьме»?***

*Уладзімір Някляеў:* — Мяркуючы па той сітуацыі, што складваецца на сённяшні дзень, будзе так, як сказалі. Змяніць варункі, нібы, час яшчэ ёсць, але не бачу рэальнай волі ў прадстаўнікоў апазіцыйных структур, што разбегліся па сваіх «кватэрах». Надта ж усё нагадвае «прадзьмутую» прэзідэнцкую кампанію. Калі пры чатырохгадовых папярэдніх заклінаннях, што «дасягнем еднасці», «выйдзем з адзіным кандыдатам ды стратэгіяй дзеянняў» — усе дамоўленасці аднадушна парушылі. У выніку, па сутнасці, займелі ўсенародную ганьбу. Я ўжо год таму выйшаў з «Гавары праўду», якую ўзначальваў, і з усіх іншых кааліцый, бо не веру, што з іх можа выйсці які толк...

***В. Сямашка: — Вашы былыя паплечнікі па «Гавары праўду» гавораць, што з уладамі трэба дамаўляцца. Дайце веры — і Вы спрабавалі гэта рабіць, калі былі старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў. Але, як вядома, з гэтага нічога не атрымалася.. А Ваш цяперашні сябар і паплечнік Мікола Статкевіч кажа, што з Лукашэнкам можна дамаўляцца толькі «стоячы перад ім на каленях».***

*У. Някляеў:* — Так, як зазначылі, я і сам спрабаваў з ім кантактаваць, затраціўшы на гэта больш за два гады. Але займеў падман, гульню дзеля скарыстання мяне, увогуле беларускай інтэлігенцыі ва ўласных палітычных мэтах. Прынамсі, дзеля таго, каб па ўзору тагачаснага Ельцына, вакол якога «таньчыла» маскоўская камарылля з артыстаў ды спевакоў, стварыць і свой «кардэбалет». І сказаў яму ў вочы, што мо хто і захоча браць у ім удзел, але ж тады не лезьце ў тонкі свет, духоўныя пласты, з якіх складаецца народ, нацыя і дзе нічога не разумееце. Маўляў, працягвайце сабе красці колькі ўлезе, перапрабіце на свой капыл калгасы з саўгасамі. Ён, нібы, са мной пагадзіўся — у культуры ж грошы не ляжаць. Але, прыглядзеўшыся, відаць, адчуў для сябе небяспеку і рэзка развярнуўся ў бок беларусафоба і «галоўнага ідэолага» палкоўніка Замяталіна. Якога і прывёў у супрацьвагу мне. Стала зразумела, што тут дасягнуць нічога не змагу. У гэтым сэнсе шмат хто задае мне зараз пытанні пра перспектывы «новай» палітыкі Захаду ў адносінах да «Рыгоравіча», што ўмоўна называецца «змены праз збліжэнне». У Еўропе даводзяць, што спадзяванні «маюцца». Але фактаў, што маглі б сведчыць пра нейкія плюсы, не стае — няма ніякіх крокаў насустрач дэмакратыі, свабодзе слова, эканамічным і палітычным зменам у краіне. Яшчэ нядаўна шанцы дамовіцца з Лукашэнкам былі, пакуль ён не быў загнаны ў кут, як зараз. А сёння магу толькі пацвердзіць — позна!

***В. Сямашка: — Нават не гледзячы на тое, што фінансы спяваюць рамансы?***

*У. Някляеў:* — Ні на што, бо не па волі Боскай ці людскай, а сам сябе загнаў у той кут.

***В. Сямашка: — Аднак Лукашэнку змогуць прымаць у Еўропе — палітыкі, што адтуль едуць, ужо маўкліва пагаджаюцца з адсутнасцю нашых праваабаронцаў на «вышэйшых» перамовах. Ці, можа, маюць рацыю тыя блогеры ў незалежных СМІ, што пішуць пра «пракідванне Захадам беларускай апазіцыі»?***

*У. Някляеў:* — Я б не звяртаўся з асаблівымі прэтэнзіямі да Еўразвяза. Я нешта не памятаю, каб Беларусь прынесла нешта каштоўнае для той жа Нямеччыны. Каб яна ў адведкі давала грошы з новымі тэхналогіямі ці здабывала беларусам дэмакратыю. Кожны ў гэтым свеце кіруецца сваімі інтарэсамі. Там палітыкаў выбіраюць, і яны адказваюць перад тымі, хто абраў іх кіраўнікамі ці канцлерам. Іншая справа, ёсць дэклараваная мара стварыць на Усходзе Еўропы свабоднае дэмакратычнае апірышча, і яны на словах ад гэтага не адмаўляюцца. Хоць на справе ўсё атрымліваецца больш чым умоўна... Здаецца, Захаду прыяльна было б закансерваваць на нейкі час сітуацыю ў Беларусі. Не таму, каб нас «кінуць» ці «аддаць пад дыктатуру». Бо напярэдадні ва ўсіх цяжкія часы, і ў ЗША мільгае прывід дэфолту. Таму патрэбныя максімальныя высілкі дзеля захавання ўнутранай эканамічнай стабільнасці. А значыць, каб «налева» не траціліся сродкі. Тым больш, ім вельмі шмат каштавала ўжо Украіна. Так што наш разлік мусіць быць выключна на ўнутраныя сілы. Дзеля гэтага на міжнародны узровень пашыраю з дапамогай нашай эміграцыі рух «За дзяржаўнасць і незалежнасць», працую ў Беларускім кангрэсе дэмсіл.

***В. Сямашка: — Зноў жа, Вы працягваеце там выступаць за адзіны спіс апазіцыі на маючых адбыцца выбарах. Але ці ён дапаможа, каб і быў створаны?***

*У. Някляеў:* — У чыстым выглядзе — адзін апазіцыянер па адной акрузе — спіс у прынцыпе не можа быць складзены. Бо заўжды нехта знойдзецца, хто скажа: я таксама іду кандыдатам і пляваў на тое, пра што вы там дамовіліся. Але не гэта галоўнае. Ці падасць апазіцыя сігнал грамадству, што яна адзіная сіла на выбарах, якіх, як ужо бачна, не будзе? Больш таго. Цягнік сыйшоў — рэальнага аб'яднання апазіцыі немагчыма дасягнуць. Бо адны і тыя ж людзі, што дзесяцігоддзямі займаюцца гэтай дзейнасцю, ужо з цяжкасцю адзін аднаго трываюць. І кожны кожнаму не давярае. Таму дамовіцца ў прынцыпе не могуць...

***В. Сямашка: — Трэба змена пакаленняў?***

*У. Някляеў:* — Я за тое, але як яна мусіць адбыцца? Ну сыйшлі ўсе гэтыя Някляевы, Шушкевічы-Статкевічы ды Мілінкевічы-Лябедзкі з Калякінымі. І хоп — на пустэчы ўзнікла нешта прынцыпова-новае?! Не! Працэс будзе доўгі, складаны і звязаны, канечне, з асобамі. Але — якія будуць праяўляцца ды вылучацца не ў кабінетах, а ў часе падзей. А падзеі будуць вельмі сур'ёзныя. У звязе з той жа рэцэсіяй, што будзе паглыбляцца. Сацыяльнай напружанасцю, што будзе нарастаць. Урэшце, з асэнсаваннем таго, што Беларусь знаходзіцца пад рэальнай пагрозай знікнення. І ўсё ж такі, працуючы з мноствам людзей, ведаю, што знойдуцца дзясяткі, сотні тысяч людзей, што гатовыя супраць гэтага паўстаць, нават рызыкуючы ды ахвяруючы сваім жыццём. Я прыкладаю ўсе намаганні, каб дух, нацыянальная свядомасць у нашых людзей расла і расла.

***В. Сямашка: — Нехта з мудрых сказаў пра людзей творча апантаных, самадастатковых, што яны глядзяць праз галовы паэтаў і ўрадаў. Вы не шкадуеце, што апынуліся ў сітуацыі, калі палітык часам перамагае паэта?***

*У. Някляеў:* — Калі нешта і можа быць гранічна супрацьлеглым, дык гэта два гэтыя панятыкі. Так, неадназова, нібы, прымаў рашэнне абраць нешта адно — і не на карысць грамадскай дзейнасці. Але абставіны заўжды складваюцца так, што не выпадае. Дый бачу, як знікае цікаўнасць да кнігі, да таго, што нясе паэзія, літаратура... Нядаўна вярнуўся з Амерыкі. Мы, бадай, дагэтуль, гаворачы пра яе, прыпамінаем савецкія вобразы «жоўтага д'ябла», паўсюдны расізм. Усё не так! Невераагодна шмат укладаецца грошай у культуру. Пры чым не дзяржавай, а людзьмі ўзроўню Ракфелераў, што наеліся «зялёных», асабістых яхтаў, летакоў. Зразумелі, што да Усявышняга на іх не прыляціш і не прыплывеш. Прыкра, што за лукашэнкаўскія дзесяцігоддзі, калі б краіна цывілізавана развівалася, у нас узнікла б таксама ў першым пакаленні нацыянальная буржуазія. Яе першыя прадстаўнікі, хто памятае, у тых жа 90-ых займаліся дабрачыннай дзейнасцю. А так страчваем у сабе самае асноўнае, на чым мусяць трымацца людзі — глыбіню судносін з нашчадкамі, продкамі. А ўсё гэта асэнсоўваецца толькі праз Веру, рэлігію, культуру.

> **Чалавек, народ, дзяржава — гэта штодзённае самабудаўніцтва. І Паэзія, талент, што дадзены мне звыш, мяне зратавалі і ратуюць...**

***В. Сямашка: — Наколькі Вы веруючы чалавек?***

*У. Някляеў:* — Вырас у сям'і вернікаў, дзе пытанне, ці Ён ёсць, ці няма, не задавалася. Яно, наогул, непрадуктыўнае, таму што, апроч Духа, нішто не стварае чалавека. Усё астатняе можам збудаваць самі: караблі, ракеты. Зараз, калі дачакаўся юбілею, прыгадваю, як цікавіўся ў старэйшых, што ж гэта за такое — доўгае жыццё?! А цяпер разумею, што яго... не бывае. Кожны з нас нараджаецца ўчора, а памірае заўтра. І вось за гэты кароценькі-кароценькі час трэба сябе спраўдзіць, вылепіць у сабе тое, што калі ты быў маленькім, бачылася як ідэал! А гэта і ёсць Гасподзь, што ўбірае ў сабе каханне, сяброўства, адчуванне любасці, шчасця ў гэтым свеце. Якое, бышцам, залежыць і ад таго, колькі ў каго грошай, якая ў каго кватэра. Але ж, па вялікім рахунку, — не! Нават калі бачыш уяўнае багацце — асабістыя выспы, палацы за 50 мільёнаў даляраў, што назіраў у Маямі. З прыкрасцю разумееш марнасць тутэйшых «змаганняў» за лішнія пяць-дзесяць метраў у кватэры ці лішнюю градку на лецішчах. І хто колькі адшчыкне ў гэтага рэжыму ці якой іншай улады. Усё гэта дробязнае, пустое, што нічога не дае. Гавару са свайго досведу — я заўжды быў заможны, зарабляючы творчасцю. Ка́палі пры Саветах дывідэнды за вершы і песні такія, што мог купіць за месяц аж дзве «Волгі»...

***В. Сямашка: — Ну Макаёнка ж не пераплюнулі!***

*У. Някляеў* (смяецца): — Ніколі не мераўся з Андрэем Ягоравічам. Але ведаю, што і ён не быў шчаслівы праз грашовыя знакі, якія ўспрымаў як апалае лісце, што згарае ў дым. Але ж лятаў па прэм'ерах новых п'ес, што ставіліся паўсюдна ў тэатрах!

***Віталь Сямашка: — А ці падлічвалі калі-небудзь колькасць усяго напісанага?***

*Уладзімір Някляеў:* — Ніколі! Не ў тым рэч... Колькі перад намі было людзей, што зрабілі нешта вялікае і былі ўзнятыя сучаснікамі на сцягі ды харугвы! Але, па вялікім рахунку, іх не так і шмат. Мяне радуе часам і дагэтуль не тое, што нават напісаў. А калі сустрэнецца на вуліцы незнаёмца, усміхнецца і раптам прачытае радок з даўняга і мной забытага верша ці праспявае куплет. Я думаю, што лёс чалавечы не такі фатальны, як, па слабасці, мы часам пра яго думаем — маўляў, усё роўна ж усё на нябёсах да нараджэння вызначана ці пад зямлёй. Ці — «як нацыя, як народ нас не існуе»! Я неяк напісаў жартаўлівы верш, калі прыйшлі да Бога беларусы і кажуць: а што з нас узяць, мы ж дурні! Што ж, можна і так жыць на белым свеце, ад слабасці, але не! Чалавек, народ, дзяржава — гэта штодзённае самабудаўніцтва. І Паэзія, талент, што дадзены мне звыш, мяне зратавалі і ратуюць...

**Беларускае Радыё Рацыя**

**Чэрвень 2016 г.**

# Міжсезонне



Віталія БАГУН



* * *

*Вясна ў нашых шыротах*
*на ласку асабліва няшчырая —*
*акіне санлівым позіркам*
*шэрань дрэваў,*
*сумётаў капцы,*
*укруціць сонца*
*у хмары цяплей,*
*каб спалася яму*
*лагодней да лета,*
*і міма пасунецца,*
*плёткі птушак*
*не слухае.*

* * *

*Колеру скамечанай,*
*пажухлай, вясновай*
*травы, прыцярушанай*
*соллю і попелам*
*маіх адчуванняў,*
*згарэлых у полымі*
*жарсці, якая злізала*
*ўсе паролі і коды*
*з памяці цела,*
*прадракаюць нам*
*адраджэнне.*

* * *

*Снег зрабіўся рассыпістым,*
*нібы цукар,*
*і блакітным, нібы цені,*
*што ад вясны ўцякаюць*
*і гуляюць адзін з адным у квача.*
*Снег зрабіўся брудным*
*і жаласным, нібы жабрачка —*
*просіць падаць яму дзён*
*хто колькі можа,*
*губіць свае дасканалыя*
*форму і колер,*
*сваю непахіснасць*
*пад бязлітасным поглядам*
*вясновага сонца.*

* * *

*Калі вечарова-вясновы*
*снег робіцца*
*насычана-фіялетавым,*
*губляе цнатліва-бэзавы тон,*
*калі над золатам*
*сонца, якое заходзіць,*
*спадае алавяная*
*заслона з хмараў,*
*я гляджу з акна*
*скрозь дрэваў кра́ты.*
*Я прыгажосці*
*спачуваю таксама.*

* * *

*Разважаю пра нас,*
*адчуваю крывалапымі пяткамі*
*сябе няўклюдай,*
*як прарастае трава*
*скрозь зямлі сітавіны,*
*смакую чаканне*
*нясмелай вясновай скурай —*
*як будзе салодка*
*спавіць нашы душы*
*сярод сутоння травы.*

* * *

*Сёння вясна —*
*час, калі*
*жадаеш змяніцца:*
*расхіснуць крылы*
*і з жураваў чарадой*
*на поўнач махнуць —*
*туды, дзе ты*
*мяне пачакаць*
*не жадаеш.*

* * *

*Голыя мінскія вуліцы*
*каштаны аздобілі*
*зелянінай лістоты,*
*паставілі свечкі*
*за здароўе маладзіка,*
*пад ногі яго вялікасці*
*яшчэ кінуць ядваб пялёсткаў.*

* * *

*У гэтым горадзе*
*ўсё сезоны дажджоў.*
*Гэты горад*
*прадзьмуваецца ўсімі вятрамі.*
*Скрозь панурую бязь*
*мазаікі плошчаў*
*фарбамі палявымі*
*выпінаюцца мары.*
*У гэтым горадзе*
*надвячорак сцелюць аблокамі.*
*Гэты горад*
*гняздо атрутных змей.*
*Мы блукалі ў горадзе.*
*Адзін аднаго мы шукалі.*
*Мы з табой размінуліся,*
*прамахнуліся сэрцамі*
*ў лабірынце палыновым*
*бязрадасных дзён.*

* * *

*Калі пухнатай*
*цёплай хусткай*
*пакрые снег*
*кашчавыя асновы*
*вышынных пабудоў*
*і беласнежнай чысцінёй*
*асветліць нарасты*
*халуп жабрачых*
*на целе горада,*
*які пульсуе болем,*
*залепіць вочы ліхтарам,*
*накіне вэлюм*
*на твары вокнаў,*
*на вуліцы па-хатняму*
*і ўтульна…*

* * *

*Гэты горад*
*нас не пускае*
*адзін да аднаго,*
*ягоныя тратуары,*
*ягоныя маставыя,*
*ягоныя храмы,*
*ягоныя купалы,*
*ягоныя зоркі,*
*але…*
*Мае крокі,*
*мае масты над ракой,*
*мае пацеры,*
*мае праклёны*
*прынясуць табе моц.*
*Ты ззяеш,*
*як сонца.*
*Толькі на цябе*
*сетку накінулі*
*і пасадзілі за краты,*
*нібы мядзведзя, —*
*і на паказ па кірмашах.*
*Толькі ў цябе ёсць нітка.*
*Толькі ў мяне ёсць іголка.*
*Толькі ты і я —*
*мы разам —*
*назаўжды застаемся вольнымі.*

* * *

*Цэлы дзень збіралася неба,*
*надвячоркам разлілося бярозаю,*
*просьма прасіла каханага лета*
*застацца і зноў абдарыць*
*пацалункамі цёплага ветра;*
*працавітыя, доўгія рукі*
*лашчыць ядвабам траў,*
*аздобленых краскамі;*
*закалыхваць птушак малых,*
*нібы дзяцей сумеснага шлюбу;*
*і кахаць трапятаннем кожным,*
*кожным шоргатам, кожным імгненнем,*
*растаючы ў плыні часу.*

* * *

*Кожную ноч*
*падае дождж.*
*Ён топіць*
*мае летуценні*
*ў лужах маркоты*
*сярод пустэчы*
*адзіноты маёй.*

* * *

*Што можна жадаць*
*ад паэтаў дваіх,*
*якія сабраліся разам*
*даганяць трамвай,*
*што сыходзіць?*
*Адкрыццяў пра рыфму браткоў*
*да зямлі,*
*алітэрацыі вяргіняў і хрызантэмаў,*
*асанансе верхніх галінак*
*таполяў, асін і бяроз —*
*унізе зусім не чуваць,*
*што на іх струнах*
*вецер іграе.*
*Прывабней,*
*нават інтымней рытм,*
*што адбіваюць падэшвы*
*аб бязвольны асфальт.*
*І пра паэзію словы*
*разлятаюцца, нібы*
*вераб'і маладыя,*
*і гайдаюцца на галінах.*

* * *

*Бесклапотнасць —*
*другое маё імя.*
*Сёння вецер*
*гуляе з ёй.*
*Нібы шчаню палку,*
*кідае надзеі.*
*Час шамаціць*
*у джунглях*
*чэрвеньскіх траў.*
*Ён не прапусціць*
*магчымасць*
*уджаліць яе балюча.*

* * *

*Цішыня…*
*Адрэзак вуснаў*
*панурых, бледных,*
*шчыльна сціснутых*
*на акружнасці*
*з чужых пацалункаў.*
*Салдатка, ты памылілася —*
*гэта зноў губы не тыя.*
*Роспач*
*цераз мозг*
*скрозь сэрца*
*у страўнік*
*тонкай стралой*
*геліятропа.*
*Ува мне плавіцца сонца.*
*Так хораша.*
*Так балюча.*
*Цемра…*
*На тле правага жалудачка*
*ў сэрцы*
*ледзь заўважны*
*сівы, свінцовы*
*асколак.*
*Калі салютам*
*выбухнула наша каханне*
*ў начным небе Тарндайка*
*браня са з'едлівых кпінаў*
*не захавала мяне.*

* * *

*Міжсезонне —*
*як пара ўлюбёная,*
*скавытанне тужліва-працяглае*
*сабакі ланцужна-галоднага.*
*Маркотна*
*церушыць сонца*
*пажоўклымі пальцамі*
*пярыну зімовых хмараў —*
*улетку не высахла, але*
*хопіць да вясны пратрываць.*
*Гола,*
*вецер вольна гуляе*
*ў галаве, галінах, кішэнях.*
*Абыякава*
*чмякае слота.*
*Толькі паэтам здольна сагрэцца*
*іншага паэта чаканне.*

* * *

*Снежнем плача зіма.*
*Няёмка ёй у тутэйшых краях.*
*Клімат занадта паддатлівы.*
*Лёгка саступіць*
*свавольству цыклонаў.*
*І натоўп абыякавы роспаччу,*
*зморааны сівізной*
*неба, што хмары забрудзілі,*
*не прагне яскравых кантрастаў,*
*характва ільдзяных перакрыццяў.*
*Ні вясна і ні восень у сэрцы.*
*Міжсезонне прагнала зіму.*

* * *

*У Мінску туман*
*кладзе цёплыя лапы*
*на плечы вышынных будынкаў;*
*казыча пальцамі дрэвы;*
*нібы вялізны, гуллівы звер*
*качаецца ўздоўж травы,*
*быццам ліняе, крыхі*
*поўсці губляе.*
*Знікае ўдзень, напалоханы*
*дапытлівым позіркам сонца.*

# Забойства на лотасавым ставе



Роберт ВАН ГУЛІК

**Гэтая гісторыя адбылася ў 667 годзе да нашай эры ў Ханьюані, старажытным горадку, узведзеным на беразе возера непадалёк ад сталіцы. Суддзя Дзі мусіць расследаваць забойства старога паэта, які самотна жыў у сціплым маёнтку за Вярбовым кварталам — пристанішчам куртызанак і спявачак. Паэт, які мірна сузіраў поўню, быў забіты ў садовым павільёне пасярод парослага лотасамі става. Ніякіх сведак не было — ці гэта проста так здаецца?**

З маленькага павільёна ў самым цэнтры лотасавага става можна было акінуць поглядам увесь сад, заліты месячным святлом. Мужчына ўважліва прыслухаўся. Вакол панавала цішыня. Задаволена ўсміхаючыся, ён зірнуў на мерцвяка ў бамбукавым крэсле і на тронак нажа, што тырчаў у грудзях няшчаснага. На шэрым убранні забітага было ўсяго некалькі кропляў крыві. Чалавек узяў адзін з двух парцалянавых кубкаў, якія стаялі на круглым стале ля алавянага збана для віна, адным глытком яго асушыў і прамармытаў, нібы звяртаючыся да забітага:

— Спачывай з мірам! Калі б ты проста быў дурнем, я б цябе, можа, і пашкадаваў. Але ж ты быў дурнем надакучлівым...

Ён пацінуў плячыма. Усё прайшло добра. Мінула поўнач, і ніхто не прыйдзе ў гэтыя самотныя мясціны ля самай гарадской мяжы. У цёмным будынку на іншым канцы сада ні руху. Чалавек агледзеў свае рукі — крыві няма. Тады ён нахіліўся і даследаваў крэсла, на якім сядзеў насупраць забітага, і падлогу павільёна. Не, ніводнага ключа. Небяспекі ніякай, можна сыходзіць.

Раптам ён пачуў за спінай нейкае шлёпанне. Скалануўшыся, ён павярнуўся — і з палёгкай уздыхнуў: гэта была вялікая зялёная жаба, што выскачыла са става на марморовыя прыступкі павільёна. Цяпер яна сур'ёзна глядзела на чалавека вылупленымі міргатлівымі вачыма.

— Ты, дурніца, гаварыць не можаш, — хмыкнуў чалавек, — аднак лепш я ўсё адно засцерагуся!

З гэтымі словамі ён люта піхнуў жабу нагой так, што яна адляцела і ўдарылася аб ножку стала. Доўгія лапы стварэння заторгаліся і знерухомелі. Чалавек узяў другі кубак віна, той, з якога піла ахвяра, агледзеў яго і схаваў у шырокім рукаве. Цяпер ён гатовы. Ужо збіраючыся сыходзіць, зноў зірнуў на мёртвую жабу.

— Ідзі да сваіх сяброўак! — гідліва прамовіў ён і скінуў яе ў ваду.

Цельца з плёскатам знікла сярод лотасаў, і ў той жа момант кваканне сотняў напалоханых жаб узарвала начную цішыню.

Чалавек разслабіўшыся выляяўся. Ён хуценька прайшоў па выгнутым мосце, што вёў праз стаў да садовых веснічак. Калі ён выслізнуў вонкі і зачыніў браму, жабы ўжо супакоіліся.




Праз некалькі гадзінаў па дарозе, што вяла ўздоўж возера ў горад, скакалі трое коннікаў. На іх карычневых паляўнічых куртках і чорных шапачках блішчэлі першыя прамяні світальнага сонца. Прахалодны ранішні ветрык трывожыў люстраную роўнядзь возера, аднак неўзабаве яму на змену мусіць прыйсці спёка сярэдзіны лета.

Шыракаплечы барадаты мужчына з усмешкай звярнуўся да свайго старэйшага хударлявага спадарожніка:

— Паляванне на качак падказала мне някепскі спосаб лавіць падступных злачынцаў! Кладзеш прынаду, потым хаваешся, трымаючы напагатове сетку, і як толькі птушачка з'явіцца — тут жа яе і хапаеш!

Чацвёра сялян, што ішлі насустрач коннікам, паспешна паставілі на зямлю свой груз з агароднінай і ўкленчылі на ўзбочцы. Яны пазналі барадача — гэта быў суддзя Дзі, галоўны чыноўнік у азёрным краі Ханьюань.

— Мы аблыталі сеткамі ўвесь чарот у ваколіцах, пане, — крыва ўсміхнуўшыся, адзначыў крэпкі мужчына, што скакаў ззаду. — І ўсё адно злавілі толькі жменьку водарасцяў!

— Але гэта была добрая трэніроўка, Ма Чжун, — кінуў праз плячо суддзя Дзі свайму памочніку, а потым звярнуўся да хударлявага спадарожніка, што ехаў збоку: — Калі мы кожны ранак будзем паляваць, пане Юань, вашыя пігулкі і парашкі нам ніколі не спатрэбяцца!

Хударлявы змрочна ўсміхнуўся. Яго звалі Юань Кай, і ён быў багатым уладальнікам найбуйнейшай у акрузе аптэкі. Паляванне на качак было яго ўлюбёным заняткам.

Суддзя Дзі прыскорыў каня, і неўзабаве яны ўехалі ў пабудаваны на схіле гары горад Ханьюань. На рынкавай плошчы перад храмам Канфуцыя ўсе трое спешыліся і каменнымі прыступкамі падняліся на вуліцу, дзе над горадам і возерам узвышаўся суд.

Ма Чжун паказаў на каржакаватага чалавека, што стаяў ля велічнай судовай брамы.

— Святыя нябёсы! — пракрычаў ён. — Ніколі не бачыў нашага добрага начальніка варты на нагах у такую рань. Баюся, ён сур'ёзна захварэў!

Начальнік варты пабег ім насустрач. Пакланіўшыся, ён ліхаманкава загаварыў:

— Забілі паэта Мэна Ланя, пане суддзя! Паўгадзіны таму сюды прыбег яго слуга і сказаў, што знайшоў цела гаспадара ў садовым павільёне.

— Мэна Ланя? Паэта? — нахмурыўшыся, перапытаў суддзя Дзі. — Я жыву ў Ханьюані ўжо год і ніколі не чуў гэтае імя.

— Ён жыў у старым загарадным доме ля балота на ўсходняй мяжы горада, пане, — прамовіў аптэкар. — Яго тут не вельмі добра ведаюць, бо ў горад ён выбіраўся рэдка. Але я чуў, што ў сталіцы знаўцы вельмі высока ацэньваюць яго паэзію.

— Нам лепш адразу адправіцца туды, — сказаў суддзя і звярнуўся да начальніка варты: — Радца Хун і два мае памочнікі ўжо вярнуліся?

— Не, пане, яны ўсё яшчэ ў вёсцы на захадзе нашай акругі. Сёння ранкам, як толькі пан суддзя выехаў, прыбыў чалавек з паведамленнем ад радцы Хуна. Яны пакуль яшчэ не знайшлі ніводнага ключа, які прывёў бы іх да рабаўнікоў скарбовага пасланца.

Суддзя Дзі патузаў сваю бараду.

— Непрыемная справа гэтае абрабаванне! — раздражнёна прамовіў ён. — Пасланец вёз тузін залатых зліткаў. А цяпер у нас на руках яшчэ і забойства! Што ж, Ма Чжун, мы справімся. Як дабрацца да маёнтка забітага паэта?

— Я ведаю кароткую дарогу праз усходні квартал, пане, — сказаў Юань Кай. — Калі пан дазволіць...

— Будзьце так ласкавы! Начальнік варты едзе з намі. Спадзяюся, са слугой Мэна адправілі некалькі нашых людзей прасачыць, каб ніхто нічога не чапаў?

— Безумоўна, пане! — важна адказаў начальнік.

— Ты робіш поспехі, — адзначыў суддзя Дзі, але заўважыўшы на твары начальніка самазадаволеную ўсмешку, суха дадаў: — Шкада толькі, што вельмі марудна. Вядзі са стайні чатырох коней!

Аптэкар скакаў наперадзе, ведучы кавалькаду праз вузкія завулкі, якія, пятляючы, спускаліся ўніз да ракі. Неўзабаве яны ўжо імчалі па абсаджанай вербамі вуліцы, якая і дала назву Вярбоваму кварталу, прыстанку танцорак і спявачак, што ляжаў ва ўсходняй частцы горада.

— Раскажыце мне пра Мэна Ланя, — папрасіў суддзя ў аптэкара.

— Не магу сказаць, што я добра яго ведаў, пане. Я быў у яго тры ці чатыры разы, і ён падаўся мне прыемным і сціплым чалавекам. Ён атабарыўся тут гады два таму ў старым загарадным доме за Вярбовым кварталам. У тым доме ўсяго тры пакоі, затое побач ёсць вялікі прыгожы сад і лотасавы стаў.

— Сям'я ў яго вялікая?

— Не, пане, у горад ён прыехаў удаўцом. Два яго дарослыя сыны жывуць у сталіцы. У мінулым годзе ён пазнаёміўся з куртызанкай з Вярбовага квартала, выкупіў яе і ажаніўся. Апроч прыгожага аблічча, пахваліцца ёй няма чым — ні чытаць, ні пісаць, ні танчыць, ні спяваць яна не ўмее. Таму Мэну Ланю яна абышлася танна, хоць ён і патрацiў усе свае зберажэнні. Ён жыў на сціплую рэнту, якую высылаў са сталіцы яго прыхільнік. Кажуць, шлюб быў шчаслівы, хоць Мэн, безумоўна, быў нашмат за яе старэйшы.

— Я б хутчэй чакаў, што паэт абярэ сабе адукаваную дзяўчыну, — заўважыў суддзя Дзі, — якая зможа раздзяляць яго літаратурныя зацікаўленні.

— Яна спакойная пачцівая жанчына, пане, — пацінуў плячыма аптэкар. — І добра яго даглядала.

— Мэн Лань быў кемным пакупніком, хай сабе і пісаў паэзію, — прамармытаў Ма Чжун. — Прыгожая спакойная дзяўчына, якая пра цябе клапоціцца, — чаго яшчэ можна жадаць?

Абсаджаная вербамі вулка звузілася і перацякла ў сцяжынку. Яна вяла міма высокіх дубоў і густога падлеску, што сведчыў пра блізкасць балота, якое пачыналася за Вярбовым кварталам.

Перад груба зробленай бамбукавай брамай усе чацвёра спешыліся. Вартаўнікі з суда павіталі новапрыбылых і ўпусцілі іх у двор. Перш, чым увайсці, суддзя агледзеў сад. Утрымлівалі яго не ў вельмі добрым стане. Дэкаратыўныя кусты вакол става пачалі зарастаць і надалі пейзажу нейкай дзікаватай прыгажосці. Над вялікімі лотасамі на роўнядзі вадаёма ляніва пырхалі матылькі.

— Мэн Лань вельмі ганарыўся сваім садам, — прамовіў Юань Кай.

Суддзя кіўнуў. Ён глядзеў на пафарбаваны чырвоным лакам драўляны мост, які вёў да адкрытага з усіх бакоў шасцівугольнага павільёна. Тонкія калоны трымалі востраканечны дах, пакрыты зялёнай чарапіцай. За ставам, у задняй частцы сада, ён убачыў нізкі і неахайны драўляны будынак. Чарацяная страха была напалову схаваная лісцем высокіх дубоў, што раслі за домам.

Спёка мацнела. Суддзя Дзі выцер з ілба пот і прайшоў па вузкім мосце. Астатнія трое крочылі за ім. У маленькім павільёне месца для іх чатырох ледзь хапіла. Суддзя некаторы час разглядаў тонкую фігурку, апранутую ў сціплае хатняе ўбранне шэрага колеру, якая адкінулася на бамбукавым крэсле. Потым памацаў плечы і абмяклыя рукі забітага і прамармытаў:

— Цела толькі пачало калець. Але ж надвор'е вільготнае і гарачае, час смерці вызначыць складана. У любым выпадку, я б сказаў, што пасля поўначы.

Ён асцярожна выцягнуў з грудзей памерлага нож і пачаў вывучаць доўгае тонкае лязо і просты касцяны тронак. Ма Чжун скрывіўся і сказаў:

— Ён нам надта не дапаможа. У любога гандляра скабянымі вырабамі ў горадзе знойдзецца запас такой таннай драбязы.

Суддзя моўчкі перадаў яму нож. Ма Чжун выцягнуў з рукава паперу і загарнуў у яе зброю забойства. Суддзя агледзеў худы твар мерцвяка. На ім застыла злавесная крывая ўсмешка. У паэта былі доўгія касматыя вусы і сівая казліная бародка — суддзя палічыў, што яму гадоў шэсцьдзясят.

**Працяг на стар. 12 (6).**

# Забойства

**Працяг.**
**Пачатак на стар. 11 (5).**

Чыноўнік узяў са стала вялікі збан і патрос яго — віна засталося зусім трошкі. Потым падняў кубак, што стаяў побач са збанам, разгледзеў яго і са збянтэжаным выглядам сунуў у рукаў. Павярнуўшыся да начальніка варты, суддзя сказаў:

— Скажы вартаўнікам зрабіць з галля насілкі і аднесці цела ў суд для анатамавання.

Затым, звярнуўшыся да Юань Кая, прадоўжыў:

— А вы пакуль можаце пасядзець на каменнай лаве ля агароджы, пане Юань. Надоўга мы не затрымаемся.

Ён паказаў Ма Чжуну знак ісці за сабой. Яны зноў перайшлі праз мост. Тонкія планкі рыпелі пад вагой двух цяжкіх мужчынаў. Яны абышлі стаў і скіраваліся да дома. Падышоўшы да ганка, дзе быў цень, суддзя Дзі з асалодай удыхнуў прахалоднае паветра. Ма Чжун пагрукаў у дзверы.

Дзверы адчыніў прыгожы, але пануры юнак. Ма Чжун сказаў, што суддзя хоча бачыць пані Мэн. Калі хлопец паспешліва знік у доме, суддзя сеў за расхістаны бамбукавы стол у сярэдзіне бедна абсталяванага пакоя. Ма Чжун, склаўшы рукі на грудзях, стаў за яго спінай. Суддзя агледзеў старую пашараваную мэблю і патрэсканую тынкоўку на сценах і прамовіў:

— Матывам відавочна быў не рабунак.

— Вось ён, пане, матыў! — прысвіснуў Ма Чжун. — Стары муж, прыгожая маладая жонка — а што было далей, зразумела!

Суддзя Дзі азірнуўся і ўбачыў у дзвярах стройную жанчыну гадоў дваццаці пяці. Яе твар быў не нафарбаваны, а на шчоках заўважаліся сляды слёз. Аднак яе вялікія вільготныя вочы, вытанчана выгнутыя бровы, поўныя чырвоныя вусны і гладкая скура рабілі яе вельмі прывабнай. На ёй было блакітнае ўбранне, якое не хавала цудоўнай фігуры. Спалохана зірнуўшы на суддзю, жанчына пакланілася і застыла, апусціўшы вочы і пачціва чакаючы, калі той да яе звернецца.

— Мне вельмі шкада, пані, — мяккім голасам пачаў суддзя Дзі, — што я мушу патрывожыць вас адразу пасля трагедыі. Аднак спадзяюся, вы разумееце, што мне трэба дзейнічаць хутка, каб прыцягнуць нягоднага злачынцу да адказнасці.

Жанчына кіўнула, і суддзя прадоўжыў:

— Калі вы апошні раз бачылі свайго мужа?

— Мы елі ў гэтым пакоі наш вячэровы рыс, — мяккім меладычным голасам адказала пані Мэн. — Пасля, калі я прыбрала са стала, муж некалькі гадзінаў тут чытаў, а затым сказаў, што сёння вельмі прыгожая поўня, таму ён пойдзе ў садовы павільён і вып'е там некалькі кубкаў віна.

— Часта ён так рабіў?

— О, часта! Ён выходзіў у сад ледзь не кожны вечар, напяваючы сабе пад нос і радуючыся свежаму вячэроваму ветру.

— Ён прымаў у такую пару гасцей?

— Ніколі, пане суддзя. Ён любіў заставацца на самоце і гасцей не ўхваляў. Тых некалькіх чалавек, што заходзілі да яго з візітам, ён заўсёды прымаў у гэтым пакоі ўдзень за кубкам гарбаты. Я так любіла гэтае мірнае жыццё, муж быў такі далікатны, ён... — на яе вачах з'явіліся слёзы, а вусны задрыжалі, аднак хутка яна ўзяла сябе ў рукі і прадоўжыла. — Я падрыхтавала вялікі збан віна і аднесла яго ў павільён. Муж сказаў, што чакаць яго не трэба, бо ён збіраецца заседзецца ў садзе дапазна. Таму я пайшла спаць. Раніцой у дзверы нашай спальні ліхаманкава пагрукаў слуга. Тады я заўважыла, што мужа побач няма. Хлопчык сказаў, што знайшоў у павільёне...

— Гэты хлопец жыве тут, у доме?

— Не, пане суддзя, ён начуе ў свайго бацькі, садоўніка, у самым вялікім доме Вярбовага квартала, а да нас прыходзіць толькі ўдзень. Пасля таго, як я прыгатую вячэровы рыс, ён вяртаецца да сябе.

— Ці чулі вы гэтай ноччу нешта незвычайнае?

Пані Мэн нахмурылася і адказала:

— Недзе адразу пасля поўначы я прачнулася, бо жабы ў ставе паднялі страшэнны галас. Удзень іх ніколі не пачуеш, бо яны сядзяць пад вадой. Яны маўчаць нават тады, калі я спускаюся да става нарваць лотасаў. Ноччу ж яны выпаўзаюць, і іх лёгка напалохаць. Таму я падумала, што муж, вяртаючыся ў дом, кінуў у стаў камень ці нешта яшчэ. На гэтым я заснула зноў.

— Зразумела, — прамовіў суддзя Дзі. Ён задумаўся, пагладжваючы доўгія бакенбарды. — На твары вашага мужа няма слядоў страху ці здзіўлення: ударылі яго, відаць, нечакана. Ён памёр, не паспеўшы зразумець, што яго забіваюць. Гэта даказвае, што ён добра ведаў злачынцу — мусіць, яны разам пілі ў павільёне віно. Вялікі збан быў амаль пусты, але каля яго стаяў толькі адзін кубак. Як я разумею, праверыць, ці не знік яшчэ адзін кубак, будзе складана?

— Зусім не складана, — адказала пані Мэн з лёгкай усмешкай. — У нас усяго сем кубкаў, шэсць з зялёнай парцаляны і адзін асобны вялікі кубак з парцаляны белай — з яго ўвесь час піў муж.

Суддзя падняў бровы: знойдзены ім кубак быў зялёны.

— У вашага мужа былі ворагі?

— Ніякіх, пане суддзя! — усклікнула жанчына. — Я не магу ўявіць, хто мог бы...

— А ў вас? — перарваў яе суддзя Дзі.

Яна пачырванела і прыкусіла губу. Потым вінавата прамовіла:

— Пан суддзя, безумоўна, ведае, што яшчэ год таму я працавала ў суседнім квартале. Часам мне даводзілася адмаўляць тым, хто шукаў маёй прыхільнасці, але я ўпэўненая, што ніводны з іх... Столькі часу прайшло...

Жанчына заціхла. Суддзя падняўся, падзякаваў пані Мэн, выказаў ёй спачуванне і пакінуў дом.

Калі двое мужчынаў спускаліся садовай дарожкай, Ма Чжун сказаў:

— Пану варта было спытаць таксама пра яе сяброў!

— Гэтыя звесткі я разлічваю атрымаць з тваёй дапамогай, Ма Чжун. Ты ўсё жыццё сустракаешся з той дзяўчынай з квартала — здаецца, яе клічуць Кветка Яблыні?

— Кветка Персіка, пане. Канечне, сустракаюся!

— Добра. Вось і ідзі да яе цяпер, хай яна раскажа табе ўсё, што ведае пра пані Мэн з тых часоў, калі тая яшчэ з імі працавала. Асабліва пра мужчынаў, з якімі яна стасавалася.

— Але пакуль яшчэ так рана, пане, — з сумневам прагаварыў Ма Чжун. — Яна, мабыць, яшчэ спіць.

— Ну дык разбудзі яе! Давай ідзі!

З сумным выглядам Ма Чжун паспяшаўся да брамы. Суддзя Дзі лянотна падумаў, што калі часцей адпраўляць свайго шчодралюбнага памочніка дапытваць каханак яшчэ да сняданка, ад слабасці да жанчын ён хутка вылечыцца. Пасля бурнай ночы такія паненкі звычайна выглядаюць не вельмі прывабна.

Каля лотасавага става Юань Кай горача абмяркоўваў нешта з новапрыбылым — высокім, акуратна апранутым мужчынам з цяжкім падбароддзем і ўрачыстым выразам твару. Аптэкар прадставіў яго як пана Вэня Шу-фана, новага старшыню гільдыі гандляроў гарбатай. Старшыня нізка пакланіўся і рассыпаўся ў вытанчаных выбачэннях, што дагэтуль не прадставіўся чыноўніку. Суддзя Дзі рэзка яго перапыніў:

— Што прывяло вас сюды ў такі ранні час, пане Вэнь?

Пытанне, здавалася, захапіла Вэня знянацку.

— Я... я збіраўся выказаць свае спачуванні пані Мэн... — запінаючыся, прамармытаў ён. — Спытаць, ці магу я чым-небудзь ёй дапамагчы...

— Дык вы добра ведаеце іх сям'ю? — пацікавіўся суддзя Дзі.

— Акурат пра гэта, пане, мы з сябрам Вэнем толькі што і гаварылі, — паспешліва ўмяшаўся Юань Кай. — Мы з Вэнем вырашылі, не адкладаючы, прызнацца, што мы абодва шукалі прыхільнасці пані Мэн, калі яна была куртызанкай, і што абодва пацярпелі паразу. Мы абодва хочам засведчыць сваё поўнае разуменне таго, што куртызанка вольная прымаць альбо адхіляць заляцанні, і паведаміць, што ніхто з нас злосці на яе не таіў, а таксама што мы глыбока паважалі Мэна Ланя і былі вельмі рады, што яго шлюб аказаўся шчаслівым. Такім чынам...

— Пераходзьце да справы, — перарваў яго суддзя. — Спадзяюся, вы абодва можаце даказаць, што мінулай ноччу не былі дзесьці ў гэтых ваколіцах?

Аптэкар збянтэжана паглядзеў на сябра. Вэнь Шу-фан няўпэўнена адказаў:

— Ну, насамрэч, пане суддзя, мінулай ноччу мы абодва балявалі ў самым вялікім доме Вярбовага квартала. Затым мы... хм... падняліся наверх... хм... у прыемнай кампаніі... Вярнуліся дадому далёка за поўнач.

— Дома я трошкі падрамаў, — дадаў Юань Кай, — пасля пераапрануўся ў паляўнічы касцюм і адправіўся да будынка суда, каб суправаджаць пана ў паляванні на качак.

— Зразумела, — сказаў суддзя Дзі. — Добра, што вы сказалі, гэта пазбавіла мяне лішняй працы.

— Лотасавы стаў сапраўды вельмі прыгожы, — з палёгкай прамовіў Вэнь. Праводзячы суддзю да брамы, ён дадаў: — Як шкада, што ў такіх вадаёмах заззвычай поўна жаб.

— Часам ад іх такі страшэнны галас, — зазначыў Юань Кай, адчыняючы перад суддзём Дзі веснічкі.

Чыноўнік ускочыў на каня і паскакаў назад да суда.

Начальнік варты выйшаў на двор, каб сустрэць яго і паведаміць, што ў бакавым памяшканні ўсё гатовае для анатамавання. Спачатку суддзя Дзі адправіўся ў свой кабінет. Пакуль пісар наліваў яму кубак гарачай гарбаты, суддзя напісаў Ма Чжуну цыдулку, дзе наказаў апытаць куртызанак, з якімі Юань Кай і Вэнь Шу-фан правабілі мінулую ноч. На хвілінку задумаўшыся, ён дадаў: «Правер таксама, ці начаваў слуга Мэнаў у доме свайго бацькі». Запячатаўшы пасланне, суддзя загадаў пісару неадкладна даставіць яго Ма Чжуну. Потым імкліва праглынуў некалькі сухіх праснакоў і пайшоў у бакавое памяшканне, дзе яго ўжо чакалі следчы і два памочнікі.

Нічога новага анатамаванне не прынесла: паэт вылучаўся добрым здароўем, прычына смерці — удар кінжалам у сэрца. Суддзя загадаў начальніку варты перанесці цела ў часовую труну, пакуль пытанне пра час і месца пахавання не вырашанае. Тады вярнуўся ў свой кабінет і разам са старэйшым пісарам засеў за афіцыйныя паперы, якія ўжо паспелі прыйсці.

Ма Чжун вярнуўся амаль апоўдні. Калі суддзя адаслаў пісара, Ма Чжун сеў насупраць чыноўніка і з самазадаволенай усмешкай пачаў:

— Кветка Персіка ўжо была не ў ложку, пане! Калі я пастукаўся, яна акурат займалася туалетам. Учора ў яе быў выходны, а таму яна рана легла спаць. Яна выглядала яшчэ прывабнейшай, чым звычайна, і я...

— Так-так, пераходзь да справы! — раздражнёна перапыніў Ма Чжуна суддзя, бо яго стратэгія відавочна цярпела паразу. — Яна, відаць, столькі табе ўсяго расказала, калі ты адсутнічаў амаль увесь ранак!

Ма Чжун зірнуў на суддзю з дакорам і шчыра адказаў:

— З такімі дзяўчатамі, пане, трэба асцярожна. Мы разам паснедалі, і я незаўважна падвёў размову да пані Мэн. У тыя часы яе называлі Агат, а яе сапраўднае імя — Шы Мэй-лань. Яна дачка селяніна з поўначы. Тры гады таму была вялікая суша і голад, людзі паміралі, як пацукі, і бацька прадаў яе зводніку, а той перапрадаў у дом, дзе і працуе Кветка Персіка. Агат была мілай і вясёлай дзяўчынай. Гаспадар дома пацвердзіў, што яе прыхільнасці шукаў Юань Кай і што яна яму адмовіла. Ён лічыць, што Агат проста падвышала сабе цану, бо калі аптэкар адступіўся і знайшоў сабе іншую сяброўку, яна выглядала расстроенай. З Вэнь Шу-фанам усё было трошкі інакш. Калі Агат не звярнула ўвагі на яго спробы завязаць стасункі, ён таксама не стаў настойваць, аднак застаўся яе прыхільнікам. Калі з ёй пазнаёміўся Мэн Лань, ён тут жа яе выкупіў. Але Кветка Персіка лічыць, што Вэнь дагэтуль кахае пані Мэн, бо часта гаворыць пра яе з іншымі дзяўчатамі і нядаўна сказаў, што тая заслугоўвае лепшага мужа, чым стары сварлівы рыфмач. Таксама я даведаўся, што ў Агат ёсць малодшы брат на імя Шы Мін і што ён сапраўдны шалапут. Гэты п'яніца і гулец прыцягнуўся за сястрой сюды і жыў за яе кошт. Недзе год таму, акурат перад жаніцьбай Мэна Ланя, ён знік. На мінулым тыдні нечакана аб'явіўся ў квартале зноў і пачаў распытваць пра сястру. Калі гаспадар сказаў, што Мэн Лань выкупіў яе і ажаніўся, Шы Мін адразу ж адправіўся да іх дома. Пазней слуга Мэна расказаў, што Шы Мін пасварыўся з паэтам, наконт чаго, слуга не ведае, але здагадваецца, што праблема тычылася грошай. Пані Мэн горка плакала, а Шы Мін пакінуў іх раз'юшаны. З таго часу ніхто яго не бачыў.

Ма Чжун замаўчаў, але суддзя Дзі ніяк на яго аповед не адрэагаваў. Ён марудна папіваў гарбату, нахмурыўшы свае кусцістыя бровы. Раптам ён спытаў:

— Слуга Мэнаў мінулай ноччу выходзіў?

— Не, пане. Я распытаў яго бацьку, старога садоўніка, і суседзяў. Юнак вярнуўся дадому адразу пасля вячэры, лёг у ложак, дзе спіць разам з двума братамі, і прахроп да світання. Дарэчы, пан жа даў мне яшчэ адзін загад. Дык вось, я даведаўся, што мінулую ноч Юань Кай правёў з Півоняй, сяброўкай Кветкі Персіка. Апоўначы яны падняліся ў яе пакой, а праз дзве гадзіны Юань пакінуў дом — пехам, бо збіраўся палюбавацца месяцавым святлом. Вэнь Шу-фан застаўся з дзяўчынай на імя Гваздзік, вельмі прыемнай куртызаначкай, хаця сёння ранкам настрой у яе быў змрачнаваты. Вэнь, відаць, у той вечар перапіў і, дайшоўшы да пакоя сваёй сяброўкі, тут жа заваліўся на ложак і адключыўся. Зрабіўшы некалькі марных спробаў яго абудзіць, Гваздзік адправілася ў суседні пакой, дзе загулялася з іншымі дзяўчатамі ў карты і начыста пра яго забыла. Праз тры гадзіны Вэнь апрытомнеў, але на ліхае расчараванне Гваздзіка ў яго было такое страшнае пахмелле, што ён адразу адправіўся дадому, таксама пехам. Ён сказаў, што хоча прагуляцца, а не ехаць у паланкіне, спадзеючыся, што свежае паветра асвяжыць яму мазгі. Вось, пане, і ўсё. Думаю, наш чалавек — Шы Мін. Ажаніўшыся з яго сястрой, Мэн Лань адабраў у яго, так бы мовіць, місу з рысам. Сказаць начальніку варты, каб пачаў шукаць Шы Міна? У мяне ёсць добрае апісанне.

— Займіся гэтым, — адгукнуўся суддзя Дзі. — Потым можаш пайсці з'есці свой паўдзённы рыс, да вечару ты мне не спатрэбішся.

# на лотасавым ставе

— Тады я трошкі паспплю, — задаволена сказаў Ма Чжун. — Гэтым ранкам мне давялося папрацаваць — спачатку паляванне на качак, потым усё астатняе.

— Не сумняюся! — суха адказаў суддзя.

Калі Ма Чжун сышоў, суддзя Дзі падняўся на мармуровую тэрасу, з якой было добра бачнае возера. Ён сеў у вялікае крэсла і з'еў прынесены яму сюды паўдзённы рыс. Вяртацца ў свае пакоі, размешчаныя на другім баку суда, яму не хацелася: усе яго думкі былі так занятыя забойствам, што ён не атрымаў бы асалоды ад сустрэчы з сям'ёй. Скончыўшы есці, ён перасунуў крэсла ў цяністы кут. Але толькі ён падрыхтаваўся трошкі падрамаць, як на тэрасу ўвайшоў пасланнік і прынёс яму справаздачу ад радцы Хуна. Радца пісаў пра расследаванне ў заходняй частцы акругі, якое паказала, што на скарбовага пасланца напала хеўра з шасці нягоднікаў. Збіўшы няшчаснага да непрытомнасці, яны забралі пакунак з залатымі зліткамі і спакойна адправіліся ў памежную карчму, дзе добра пад'елі. Потым да іх прыехаў незнаёмец, рот і нос якога былі схаваныя шыйнай хусткай і якога ў карчме ніколі раней не бачылі. Верхавод хеўры перадаў яму пакунак, пасля чаго яны ўсе зніклі ў лясах суседняй акругі. Пазней цела незнаёмца было знойдзенае ў канаве непадалёк ад карчмы. Апазналі яго па адзенні, бо твар забітага ператварыўся ў бясформеннае месіва. Мясцовы следчы аказаўся чалавекам дасведчаным: ён разгледзеў змесціва страўніка мерцвяка і знайшоў там сляды моцнага зелля. Пакунак з золатам, зразумела, знік. «Такім чынам, нападзенне на скарбовага пасланца было старанна спланаванае, — зрабіў у канцы высвону радца, — прычым чалавекам, пра якога мы нічога не ведаем. Яго суўдзельнік наняў дзеля бруднай працы бандытаў, а потым адправіўся ў карчму забраць здабычу. Сам жа незнаёмец пайшоў за сваім памочнікам, збіў яго да смерці, ці то каб пазбавіцца ад магчымага сведкі, ці то таму, што не захацеў выплаціць яму належную долю. Каб узяць след злачынцы, мы вымушаныя прасіць падтрымкі ў суддзі суседняй акругі. Я пачціва прашу пана суддзю прыбыць сюды і персанальна ўзначаліць расследаванне».

Суддзя Дзі марудна скруціў пасланне. Радца Хун мае рацыю, трэба неадкладна ехаць туды. Аднак забойства паэта таксама патрабуе ўвагі. І Юань Кай, і Вэнь Шу-фан мелі магчымасць забіць, але ў іх, здаецца, няма матыву. У брата пані Мэн матыў ёсць, але калі гэта справа яго рук, ён, несумненна, паспеў ужо збегчы. Суддзя ўздыхнуў, адкінуўся на спінку крэсла, задумення пагладжваючы сваю бараду, і не заўважыў, як амаль адразу заснуў.

Прачнуўшыся, ён з прыкрасцю зразумеў, што спаў занадта доўга, — ужо змяркалася. Ля балюстрады стаялі Ма Чжун і




начальнік варты. Апошні паведаміў, што на пошук Шы Міна кінутыя ўсе сілы, але пакуль ніякіх слядоў не знойдзена.

Суддзя Дзі перадаў Ма Чжуну пасланне радцы:

— Уважліва прачытай гэты ліст, а потым займіся падрыхтоўкай да паездкі на заходнюю мяжу акругі — заўтра раніцай мы туды выязджаем. Са сталічнай скарбніцы прыйшоў загад неадкладна паведаміць пра абрабаванне. Яны начэй не спяць праз зніклую звязку медзякоў, а тут — цэлы тузін залатых зліткаў!

Суддзя спусціўся ў свой кабінет і накідаў чарнавы варыянт справаздачы ў скарбніцу. Потым з'еў вячэру, накрытую тут жа на сто стале. Смаку ежы ён амаль не адчуў, бо яго думкі лунала зусім у іншым месцы. Адклаўшы палачкі, ён з уздыхам падумаў пра два гэтыя няшчасныя злачынствы, якія здарыліся ледзь не ў той самы час. Раптам ён адставіў гарбату, падняўся і пачаў мераць крокамі пакой. Яму здалося, што ён зразумеў прычыну знікнення кубка для віна. Трэба гэта як мага хутчэй праверыць. Суддзя падышоў да акна і вызірнуў на двор. Убачыўшы, што там нікога няма, ён імкліва праскочыў да бакавой брамы і незаўважна пакінуў суд.

На вуліцы ён схаваў шыйнай хусткай ніжнюю частку твару і наняў на рагу маленькі паланкін. Перад уваходам у самы вялікі дом Вярбовага квартала ён расплаціўся з насільшчыкамі. З ярка асветленых вокнаў невыразна даносіліся спевы і смех: вясёлая бяседа была, відавочна, у разгары. Суддзя Дзі паспяшаўся да сцяжынкі, што вяла да дома Мэна Ланя.

Падыходзячы да садовай брамы, ён заўважыў, якая вакол цішыня. З-за дрэваў сюды з Вярбовага квартала не даносілася ні гуку. Суддзя мякка адчыніў веснічкі і агледзеў сад. На лотасавы стаў падала месяцавае святло, але дом на задворках стаяў у поўнай цемры. Суддзя абышоў вакол вадаёма, потым спыніўся, падняў камень і кінуў яго ў стаў. У гэты ж момант жабы хорам заквакалі. Задаволена ўсміхаючыся, суддзя Дзі скіраваўся да дзвярэй, зноў насунуўшы на твар шыйную хустку. Схаваўшыся ў цені ганка, ён пагрукаў.

У акне загарэлася святло. Дзверы адчыніліся, і з-за іх пачуўся шэпт пані Мэн: «Уваходзь хутчэй!»

Яна стаяла ў дзвярным праёме напалову аголеная: на ёй была толькі тонкая набедраная павязка, а валасы свабодна падалі на плечы. Калі суддзя апусціў шыйную хустку, з яе грудзей вырваўся здушаны крык.

— Я не той, каго вы так чакалі, — халодна прамовіў суддзя, — але мне ў любым выпадку давядзецца зайсці.

Ён зрабіў крок у пакой, зачыніў за сабой дзверы і строга спытаў у скурчанай жанчыны:

— Каго вы чакаеце?

Яе вусны варухнуліся, але з іх не вырвалася ні гуку.

— Кажыце! — раўнуў суддзя.

Камечачы на таліі набедраную павязку, яна з запінкамі адказала:

— Я нікога не чакала. Мяне абудзіў шум жаб, і я спалохалася, што нехта да нас прабраўся. Таму я вырашыла зірнуць...

— І запрасіць рабаўніка хутчэй зайсці ў пакой! Калі ўжо вы збіраецеся маніць, прыдумайце нешта разумнейшае! Пакажыце мне спальню, дзе вы чакаеце каханка!

Жанчына бязгучна ўзяла са стала свечку і павяла суддзю ў маленькі бакавы пакойчык, дзе стаяў толькі вузкі дашчаны ложак, пакрыты тонкай трысняговай цыноўкай. Суддзя падскочыў да ложка і абмацаў яго. Цыноўка ўсё яшчэ захоўвала цеплыню яе цела.

— Вы заўсёды тут спіце? — рэзка спытаў ён.

— Не, пане суддзя, гэта пакой нашага слугі — хлопец дрэмле тут пасля абеду. Мая спальня — па другі бок ад залы, якую мы толькі што мінулі.

— Адвядзіце мяне туды!

Калі яна перасекла залу і ўвяла суддзю ў вялікую спальню, той забраў у жанчыны свечку і хутка агледзеў пакой. Тут стаялі чатыры адзежныя скрыні, туалетны столік з бамбукавым крэслам і вялікі ложак. Суддзя адшмаргнуў балдахін і ўбачыў, што тоўстая цыноўка з мяккага трыснягу скручаная, а падушкі прыбраныя ў сценную нішу. Суддзя павярнуўся да пані Мэн і злосна спытаў:

— Мяне не цікавіць, дзе вы збіраліся са сваім каханкам спаць, я хачу ведаць яго імя. Кажыце!

Жанчына прамаўчала і толькі кінула на яго касы погляд. У гэты момант яе набедраная павязка саслізнула на падлогу, і пані Мэн стала перад ім зусім аголеная. Прыкрываючыся рукамі, яна зноў сарамліва зірнула на суддзю.

Суддзя Дзі адвярнуўся.

— Гэтыя жарцікі мне надакучылі, — холадна сказаў ён. — Апранайцеся, вы пойдзеце са мной у суд і правядзеце ноч за кратамі. Заўтра я вас дапытаю, калі спатрэбіцца, пад катаваннямі.

Яна маўкліва адчыніла адзежную скрыню і пачала апранацца. Суддзя выйшаў у залу і там прысеў. Ён падумаў, што жанчына зайшла занадта далёка, каб ураваць свайго каханка, і пацісну плячыма. Хаця калі ўлічыць, што яна былая куртызанка, то не так ужо гэта і далёка. Калі яна, цалкам апранутая, выйшла ў залу, суддзя знакам паказаў ёй ісці за ім.

Ля ўваходу ў Вярбовы квартал яны сустрэлі начную варту. Суддзя загадаў начальніку адправіць пані Мэн у паланкіне ў суд і перадаць там яе наглядчыку турмы. Яшчэ чатырох чалавек трэба было выслаць у дом забітага паэта — яны мусілі схавацца ў зале і арыштаваць любога, хто пагрукае ў дзверы. Сам суддзя, глыбока задумаўшыся, няспешна пакрочыў дадому.

Увайшоўшы ў браму суда, суддзя Дзі ўбачыў Ма Чжуна, які ў вартавым памяшканні гаманіў з салдатамі. Суддзя забраў памочніка ў свой кабінет, дзе расказаў яму пра здарэнне ў доме паэта. Ма Чжун сумна пахітаў галавой:

— Значыць, у яе быў таемны каханак, які і забіў паэта. Што ж, выглядае на тое, што справа амаль закрытая. Думаю, мы пераканаем яе назваць імя таго хлопца.

Суддзя Дзі глытнуў гарбаты і марудна прагаварыў:

— У гэтай справе ёсць некалькі момантаў, якія моцна мяне турбуюць. Я адчуваю, што паміж забойствам Мэна і нападам на скарбовага пасланца ёсць нейкая сувязь, але якая — нават не ўяўляю. Дарэчы, мне цікавае тваё меркаванне па двух пытаннях. Па-першае, як пані Мэн магла завязаць таемную інтрыжку? Яны з мужам амаль нікуды не выходзілі і гасцей прымалі вельмі рэдка. Па-другое, я ўпэўніўся, што сёння ноччу яна спала ў пакоі слугі на вузкім дашчаным лежаку. Чаму яна не захацела прыняць каханка ў спальні на зручным і шырокім ложку? Пашана да мёртвага мужа яе б не спыніла, калі ўжо яна спакойна круціла раман за яго спінай. Я, канечне, разумею, што зручнасць каханкаў не вельмі хвалюе, але ўсё адно — жорсткі, вузкі ляжак...

— Ну, што да першага пытання, — ухмыльнуўшыся, пачаў Ма Чжун, — калі жанчына вырашыла з кімсьці закруціць, не сумнявайцеся, спосаб для гэтага яна знойдзе. Напрыклад, яе каханкам мог зрабіцца слуга, і тады яе грашкі ніяк з забойствам не звязаныя. Наконт другога ж пытання магу сказаць толькі тое, што сам я нямала паспаў на дашчаных лежаках, і мне ніколі не прыходзіла ў галаву думка з кімсьці іх дзяліць. Аднак я з усёй ахвотай гатовы адправіцца ў Вярбовы квартал і правесці грунтоўнае даследаванне ўсіх звязаных з гэтым пытаннем акалічнасцяў.

З гэтымі словамі Ма Чжун з надзеяй зірнуў на суддзю.

Суддзя Дзі ўтаропіўся ў памочніка, але думкамі быў недзе далёка. Паволі патузваючы сябе за вус, ён некаторы час маўчаў, але раптам усміхнуўся і сказаў:

— Так, гэта варта паспрабаваць.

Твар Ма Чжуна зазяў, але радасць яго была дачаснай, бо суддзя тут жа дадаў:

— Зараз жа бяжы ў карчму «Чырвоны карп», што за рыбным рынкам. Знайдзі там старшыню гільдыі жабракоў і скажы яму адправіць з табой некалькі пабірахаў, што бадзяюцца ў ваколіцах Вярбовага квартала. Усю гэтую хеўру вядзі да мяне, а старшыні іх перадай, што мне трэба дапытаць іх з нагоды новых звестак, якія праліваюць святло на забойства паэта Мэна Ланя. Не рабі з гэтага таямніцы, наадварот — зрабі так, каб усе ведалі, навошта мне спатрэбіліся жабракі. А цяпер ідзі!

Ма Чжун не варухнуўся з месца, ашаломлена гледзячы на суддзю, і той дадаў:

— Калі мой план спрацуе, я развяжу адным махам і забойства Мэна, і крадзеж залатых зліткаў. Таму пастарайся!

Ма Чжун падняўся і паспяшаўся вонкі.

Калі Ма Чжун вярнуўся ў кабінет суддзі, ведучы за сабой чатырох абадранцаў, ён убачыў, што на бакавым стале стаяць сподкі з пірагамі і цукатамі, а таксама некалькі збаноў віна.

Працяг на стар. 14 (8).

**Працяг.**
**Пачатак на стар. 11–13 (5–7).**

Суддзя Дзі па-сяброўску прывітаў спалоханых жабракоў, спрабуючы іх супакоіць, і запрасіў частавацца ежай і віном. Калі здзіўленыя пабірахі няўпэўнена падышлі да стала, не зводзячы галодных вачэй з ласункаў, суддзя адвёў Ма Чжуна ўбок і прашаптаў:

— Ідзі ў вартавое памяшканне і выберы сярод варты траіх добрых хлопцаў. Потым чакай з імі ля брамы. Недзе праз гадзіну я адпушчу жабракоў, і трэба, каб вы за імі таемна прасачылі. Арыштоўвайце кожнага, хто звернецца да любога з іх, і потым вядзіце яго сюды разам з жабраком.

Потым ён павярнуўся да абадранцаў і заахвоціў іх налягаць на ежу і віно. Збянтэжаныя жабракі доўга вагаліся, але ўзяўшыся ўрэшце за страву, з неверагоднай хуткасцю апустошылі талеркі і кубкі. Іх старшыня, аднавокі нягоднік, выцер рукі аб сваю зашмальцаваную бараду і пакорліва прамармытаў:

— А зараз ён адсячэ нам галовы. Што ж, прынамсі, апошняя жратва была шыкоўная.

На яго здзіўленне суддзя запрасіў іх прысесці на лавачкі перад сваім сталом. У кожнага з жабракоў ён спытаў пра ўзрост, сям'ю, пра тое, адкуль ён родам, а таксама многія іншыя нявінныя дробязі. Калі жабракі зразумелі, што ніякіх непрыемных тэмаў суддзя кранаць не збіраецца, яны пачуліся больш свабодна, і гадзіна за размовамі праляцела вельмі хутка.

Урэшце суддзя Дзі падняўся, падзякаваў ім за дапамогу і дазволіў пайсці. Потым ён склаў за спінай рукі і пачаў мераць крокамі пакой.

Грукат у дзверы пачуўся яшчэ раней, чым ён чакаў. У кабінет увайшоў Ма Чжун, цягнучы за сабой аднавокага старшыню.

— Ён сунуў мне гэтую срэбную манету яшчэ да таго, як я паспеў нешта ўцяміць, пане суддзя! — плакаўся стары жабрак. — Клянуся, што я не лез у яго кішэню!

— Я ведаю, што не лез, — сказаў суддзя Дзі. — Не хвалюйся, манету можаш пакінуць сабе. Проста раскажы мне, што ён табе сказаў.

— Ён падышоў да мяне, як толькі я завярнуў за рог, пане суддзя, і сунуў у руку манету. Затым сказаў: «Хадзем са мной, і я дам табе другую, калі ты раскажаш, пра што суддзя пытаў у цябе і тваіх сяброў». Клянуся, гэта праўда, пане суддзя!

— Цудоўна! Можаш цяпер ісці. Але не мантач грошы на віно і гульні! — як толькі жабрак выскачыў з кабінета, суддзя павярнуўся да Ма Чжуна: — Вядзі сюды арыштаванага!

Увайшоўшы ў пакой, аптэкар Юань Кай пачаў гучна абурацца:

— Паважнага гараджаніна арыштоўваюць як звычайнага злачынцу! Я хачу ведаць…

— А я хачу ведаць, — холадна перарваў яго суддзя Дзі, — навошта вы чакалі гэтага жабрака і навошта хацелі яго распытаць.

— Канечне ж, таму, што я цікаўлюся расследаваннем, пане суддзя! Мне вельмі хацелася ведаць…

— Ці знайшоў я ключ, які ўказвае на вас і які вы праглядзелі! — скончыў за яго суддзя Дзі. — Юань Кай, вы забілі паэта Мэна Ланя, а таксама Шы Міна, праз якога вы звязаліся з рабаўнікамі, што напалі на скарбовага пасланца. Прызнавайце сваю віну!

Юань Кай паблядзнеў, аднак цвёрдым і рашучым голасам спытаў:

— Спадзяюся, у пана суддзі ёсць сур'ёзныя падставы для такіх важкіх абвінавачванняў.

— Ёсць. Пані Мэн засведчыла, што ў іх ніколі не бывала начных наведнікаў. Таксама яна засведчыла, што цягам дня жабы ў лотасавым ставе ніколі не квакаюць. І ўсё ж вы гаварылі пра шум, які яны ствараюць. Гэта значыць, што вы бывалі ля таго става ўначы. Далей, Мэн піў віно са сваім забойцам, які пакінуў свой кубак на стале, але забраў кубак Мэна. Гэта разам са спакойным тварам Мэна падказала мне, што яго, перш чым забіць, апаілі нейкім зеллем. Забойца забраў кубак ахвяры, бо баяўся, што на ім застанецца пах зелля, нават калі яго вымыць у ставе. Суўдзельніка злачынцы, які спланаваў напад на скарбовага пасланца, таксама чымсьці напаілі. Адсюль можна зрабіць выснову, што абодва злачынствы здзейсненыя адным чалавекам. Гэта прымусіла мяне западозрыць вас, бо вы як аптэкар добра ведаеце зеллі і атруты. Да таго ж вы мелі магчымасць забіць Мэна Ланя пасля таго, як сышлі з Вярбовага квартала. Мне прыгадваецца, што паляванне на качак нам сёння не ўдалося — мы нічога не ўпалявалі. Аднак гэта дзіўна: нашую сябрыну вёў такі ўмелы ляўец, як вы. Вы былі ў кепскай форме, бо мелі перад гэтым напружаную ноч. Навучыўшы мяне лавіць качак з дапамогай прынады, вы падказалі мне добрую ідэю, як праверыць свае падазрэнні. Прынадай у нашым выпадку быў жабрак, і вы цудоўна на яго зláвіліся.

— А як наконт матыву? — марудна прагаварыў Юань Кай.

— Некаторыя факты, якія вас не тычацца, падказалі мне, што пані Мэн чакала ўначы таемнага візіту свайго брата Шы Міна, і гэта даказвае, што яна ведала пра яго ўдзел у нейкім злачынстве. Калі Шы Мін наведаў сястру і яе мужа на мінулым тыдні і калі тыя адмовіліся даць яму грошай, ён раз'юшыўся і пахваліўся, што вы запрасілі яго паўдзельнічаць у справе, якая зробіць яго багатым. Мэн і яго жонка ведалі, што Шы Мін — чалавек нягодны, і таму, калі яны пачулі пра напад на скарбовага пасланца, а Шы Мін больш не з'явіўся, яны зразумелі, што акурат пра гэтую справу Шы Мін і гаварыў. Мэн Лань быў сумленным чалавекам і абвінаваціў вас у рабунку — вось і ваш матыў. Пані Мэн хацела ўратаваць брата, але як толькі яна даведаецца пра тое, што вы забілі і яго, і яе мужа, яна ўсё раскажа, і яе сведчанні завершаць справу супраць вас, Юань Кай.

Аптэкар, цяжка дыхаючы, апусціў галаву. Суддзя Дзі працягваў:

— Я мушу папрасіць прабачэння ў пані Мэн. Варты жалю род заняткаў, якім яна калісьці зарабляла на жыццё, не паўплываў на яе цвёрды характар. Яна шчыра любіла свайго мужа, і хаця ведала, што яе брат — нікчэмны чалавек, была гатовая вынесці лупцоўку за непавагу да суда, толькі б яго не выдаць. Што ж, хутка яна зробіцца багатай, бо палова вашай маёмасці пяройдзе да яе як выкуп за кроў мужа. І няма ніякіх сумневаў, што ў належны час Вэнь Шу-фан зробіць ёй прапанову, бо ён усё яшчэ глыбока яе кахае. Вам жа, Юань Кай, у адпаведнасці з законам адсякуць галаву як ганебнаму забойцу.

Раптам Юань падняў вочы і невыразным голасам сказаў:

— Гэта ўсё тая праклятая жаба! Я забіў яе і скінуў у стаў, ад чаго галас і падняўся, — і горка дадаў: — Якім я быў дурнем, думаючы, што жабы не могуць гаварыць!

— Могуць, — спакойна прамовіў суддзя. — І калі трэба — гавораць.

**Пераклала з ангельскай мовы**
**Ганна Янкута**

# Сад колеру мальвы

Ад сёлетняга сакавіка з ініцыятывы курсаў «Мова нанова» ў Мінску рэгулярна праводзяцца варштаты для тых, хто цікавіцца мастацкім перакладам. Паўтара дзясятка наведнікаў выконваюць творчыя заданні і робяць першыя крокі ў гэтым жанры літаратурнай творчасці. Некаторыя з іх ужо засведчылі свой неаматарскі ўзровень. Як прыклад можна прывесці апавяданне вядомага сербскага празаіка XX ст. Бранка Чопіча ў перастварэнні наведніцы варштатаў Алесі Птушкі, якое прапануем увазе чытачоў «Літаратурнай Беларусі».

**Лявон Баршчэўскі, Зміцер Колас, вядоўцы курсаў**



Бранка Чопіч (1915–1984), родам з Босніі, быў адным з самых вядомых празаікаў пасляваеннага пакалення Югаславіі. Аўтар раманаў «Прарыў», «Не сумуй, бронзавы вартавы», «Маўклівы порах», апавесцяў для дзяцей, апавяданняў.

Бранка ЧОПІЧ

Мужчыны звычайна кепска адрозніваюць колеры, але такога невука ў гэтым пытанні, якім быў мой дзед, цяжка было знайсці. Яго спектр зводзіўся ўсяго да чатырох асноўных колераў, а ўсе іншыя або не існавалі, або, калі дзед быў у гуморы, зводзіліся прынамсі да нейкага надта неакрэсленага апісання: «гэта жоўты, а нават калі і не жоўты, дык нейкі іншы — а можа, такога і няма».

А паколькі на нашым каляровым свеце большасць стварэнняў і прадметаў маюць афарбоўку «нейкага іншага колеру, якога можа і няма», то з маім дзедам у гэтай тэме заўсёды даходзіла да непаразуменняў і непрыемнасцяў.

У адну з найцудоўнейшых пор года амаль за адну ноч у садзе на рагу нашага дома заквітнела чорная мальва і прыгожа выглядала з-за спічастага, пачарнелага плоту. Спакойнымі, сонечнымі раніцамі яна выпраменьвала такую таямнічасць і пяшчоту, што не магла не прыцягнуць увагу нават дзедавага вока, і ён задаволена бурчаў, зыходзячы па двары:

— Паглядзіце на яе, увесь сад сінее колерам індыга.

Яно як бы сапраўды так, на кветках мальвы дзе-нідзе былі ледзь заўважныя сляды сіняга колеру, але калі дзед сказаў, што кветкі сінія, значыць, яны сінія і кропка. Такая ж сітуацыя магла паўтарыцца праз некалькі гадоў, і пра той жа сад дзед казаў, што ён чырванее, і цэлы год так яно і было: мальвы станавіліся чырвонымі.

Дзедаў стрыечны брат Сава Дам'янавіч, былы рабаўнік дробнай скаціны, а ў старасці — п'яніца ды казачнік, умеў ненаўмысна перабіваць майго цудоўнага дзеда. Пакуль дзед распавядае, ён здзіўлена тое ж самае перапытвае:

— Чаму ліса чырвоная, калі яна жоўтая!

— Хм, жоўтая? — заводзіцца дзед. — Нос у цябе жоўты.

Сава трывожна мацае свой ружовы нос-бульбіну і крыўдзіцца:

— Чырвоная! Усе народы адсюль і да Біхача ведаюць, што яна жоўтая, а ты…

Саваў свет заканчваецца ў Біхачы, бо некалькі разоў ён сядзеў там у турме, але нават такія прасторы не могуць перакапаць майго дзеда.

— Хм, да Біхача! Іншыя людзі таксама сядзелі ў біхацкай вежы, але ж яны не кажуць, што ліса жоўтая. Лепей во пі маю ракію і маўчы, не псуй мне ўнукаў.

А мы, трое ўнукаў, забіліся ў кут каля дзеда і чакаем, калі Сава пачне аповед пра свае зладзейскія прыгоды. Спрэчка аб колерах нас увогуле не цікавіць, бо ліса — гэта ліса, якога б колеру яна не была. З-за дзедавай упартасці ў пытанні колераў я і сам меў непрыемнасці, як толькі пераступіў парог дома.

Гэта было ў першым класе сярэдняй школы.

Недзе ў другой палове вучэбнага года настаўніца расказвала нам пра ваўка: дзе ён жыве, чым харчуецца і так далей, пакуль раптам не запыталася:

— Дзеці, а хто ведае, якога колеру воўк?

Я першы падняў руку.

— Вось, Бранка нам скажа.

— Воўк зялёны! — выдаў я ганарліва.

Настаўніца ўздрыгнула і здзіўлена ўзняла бровы.

— Бог з табой, дзіцятка, дзе ты такое пачуў?

— Так кажа мой дзед, — адказаў я ўпэўнена.

— Няправільна, воўк не зялёны.

— Усё правільна, ён зялёны! — нечакана абурыўся я як сапраўдны ўнук прыстойнага дзеда Радэ.

Настаўніца падышла да мяне зусім блізка, разззлавана паглядзела на мой твар і пацягнула мяне за вуха.

— Скажы свайму разумнаму дзеду, што гэта няпраўда. Воўк шэры. Шэры, запомні.

Неўзабаве я ўвесь у слязах прыцягнуўся дамоў і, шморгаючы носам, расказаў дзеду пра ўсё, што здарылася ў школе.

Яр і падумаць не мог, які вэрхал вакол гэтага ўзнімецца.

Што? Перад цэлым класам яго ўнука, улюбёнчыка, цягнуць за вушы, а паважанага старога чалавека абзываюць «разумным», то бок дурнем! Вось да чаго мы дажыліся! Ды яшчэ казаць, што воўк не зялёны, а нейкі там…. хм! Не, гэта так проста не пройдзе.

Назаўтра дзед, распалены, бы запечаны гусь, прыйшоў разам са мной у школьны двор і перад усёй дзятвою пачаў раўці на настаўніцу:

— Гэта ты, гарадская разумніца, такая і сякая, лепей за мяне ведаеш, як выглядае воўк, так? Не зялёны? Пагалядзіце на яе! Я сярод ваўкоў нарадзіўся і вырас, за цэлае стагоддзе пуд солі з імі з'еў, а яна мне тут... Адлупцаваць бы цябе вось гэтым кіем, пакуль да розуму не вернешся.

Дзед ганьбіў яе, настаўніца расплакалася, а мы, вучні, з гэтага ўсяго мелі сваю радасць: у той дзень не было заняткаў.

Ужо наранiцу дзеда забралі жандары. Стары сем сутак адседзеў на мясцовых нарах, а калі вярнуўся, пабялелы і маўклівы, то ўвечары прыгразіў мне пальцам:

— Ад цябе, даўгі язык, хай яшчэ толькі раз пачую мэканне пра тое, хто якога колеру, то табе пакажу. Воўк зялёны, ха! Якая табе розніца, які ён.

— Але ж яна ў мяне запыталася...

— Запыталася ў цябе, хм! Ты мусіў маўчаць — і кропка.

Наступнаю вясной, дзівоснай і дажджлівай, мальва ў нашым садзе расквітнела як ніколі раней, але стары быццам гэтага не заўважаў. Не дапамагла ў гэтым нават тарабаршчына няпамотнага дзядзькі Савы, — дзед нібы саслеп і што да колераў, і што да ўсіх кветак гэтага свету. Яго ахапіла туга.

З тых невясёлых дзён прайшло амаль паўстагоддзя, дзеда ўжо даўно няма на гэтым свеце, а я і да сёння дакладна не ведаю, якога колеру мальва. Ведаю толькі, што вясною з-за нашага пачарнелага плоту ў двары выглядае нешта такое прыгожае, лёгкае і светлае, што ты пачынаеш проста плакаць, хоць і не ведаеш, аб чым табе баліць і што ты страціў.

**Пераклала з сербскай**
**Алеся Птушка**

# Рэха свінцовых маланак

**Вершы і тэксты патрыятычнай генерацыі сучасных украінскіх творцаў, змешчаныя ў зборніку нацыяналістычнай паэзіі «Рэха свінцовых маланак» — адказ на русіфікацыю Украіны. Як піша ў прадмове да кнігі каардынатар і адзін з аўтараў зборніка Юрый Руф, «галоўная думка, якую аўтары намагаюцца данесці да чытача: неабходна шанаваць уласную мову і культуру, не шукаючы пракокаў у чужой дзяржаве», вяртацца да гістарычных каранёў. Гэтага бракуе і нам, беларусам...**




Юрый РУФ

### Знакі на целе

*Чорным па белым знакі на целе —*
*Руны агню і выявы багоў,*
*Вязь абярэгаў чарнiламі сцелюць*
*Спрытнымі рухамі рукі майстроў.*

*Сіла хаваецца ў пераплячэннях,*
*Шчасце тваё абярэг той збярог.*
*Чорным па скуры знакі на целе —*
*Ты перасільваеш болю парог.*

*Сімвалы тыя, крывавыя знакі,*
*Верна цябе праз жыццё павядуць,*
*Стрэл Перуновы і злосць ваўкалакаў*
*Ад рознага ліха нас зберагуць.*

*Кніга адкрытая — знакі на целе,*
*Ты прачытаеш там сэнсы быцця,*
*Згадку пра тое, што ўславіць хацелі*
*І перанесці праз рэчку жыцця.*

### Добраахвотнікі Божага ўзводу

*Ахалоджвае далоні аўтамат,*
*І сухія твары пылам стэп закурыць.*
*Час дажджоў змяняецца на град,*
*А са спелым коласам палі —*
*на снег-віхуры.*

*Замест звыклае канапы — бліндажы,*
*Замест даху — капюшон*
*і плашч-палатка,*
*Паміж свісту мінаў знаўку віражы*
*І рубцы ад ран — да скону будуць згадкай.*

*Валанцёры ўзводу Божага яны —*
*Толькі цьмяны бляск вачэй*
*з-пад балаклавы.*
*На мяжы святла і цемрыні —*
*Батальён дабра на варце стаў*
*Дзяржавы.*

### Алхімія вайны

*Ператвараецца тут золата на медзь*
*калібру 7,62.*
*Гарыць тут тое, што не мусіла гарэць —*
*і словы, і трава.*
*Свінец пераплаўляецца на кроў,*
*цячэ, бы ртуць.*
*Нянавісцю гартуецца любоў —*
*вятры пякуць.*
*Алхімія вайны шукае змест і ў чым жыццё,*
*У печах разбухтораных стыхій*
*гарыць быццё.*
*Стары алхімік ісціну шукаў,*
*ды не знайшоў,*
*і ўсё, што ёсць, ён у адно змяшаў*
*і — вось — пайшоў.*

### Нябесны легіён

***Ольбегу Рарогу***

*Слязьмі крыві пакроплены бялюткі снег —*
*Рудыя плямы мерзлых душ у зімным полі.*
*Тут бой адбыўся, і ніхто адсюль не збег,*
*Адзін за ўсіх і ўсе мы за Жыццё і Волю.*

*Ляцела хваляю нястрымнаю арда,*
*Жадала смерцю ўсеяць нашы стэпы —*
*Прыйшла з масквы ад дыму п'янай*
*злыбяда,*
*Бажочак блаславіў «духоўныя іх скрэпы».*

*І снег цямнеў, чарнела ў небе муць,*
*Грымелі крумкачовых зграяў песні...*
*Валькірыі да Белых Вежаў аднясуць*
*Героя ў, што ўступілі ў легіён Нябесны.*

Ігар БАЙЧУК

### Кроў на вугалях

*Даўно ўзараныя дарогі і масты,*
*Жыццё скарылася ў абдымках долі.*
*Акружаныя шчыльна блокпасты*
*Стаяць да перамогі і за волю.*

*Страляе ў далеч малады салдат,*
*Трымае зброю за сваю краіну.*
*Сціскаюць рукі цвёрда аўтамат,*
*Ды смерць-драпежніца нацэлілася ў спіну.*

*Пякельны час, паўсюль пякельны жах —*
*Зямля гарыць ад залпаў і агнёў.*
*Кроў чырванее ў чорных вугалях,*
*Асвечаная ў полымі баёў.*

### Да неба рукі ўзвядзі

*Да неба рукі ўзвядзі!*
*Праведны шлях таруй.*
*Моцу вагню і вады*
*Целам сваім адчуй.*

*Згадай былыя часы,*
*Слаўных воінаў дух,*
*Ахвяру багам нясі*
*У чысты, зялёны луг.*

*Сябе разняволь, развяжы,*
*Даверся буйным вятрам.*
*Прыроды красу беражы,*
*Прырода — адзіны храм.*

*Маліцца сабе дазволь,*
*Сэрцам сваім шчыруй.*
*Помсці за крыўды і боль,*
*Ворагу — не даруй.*

*Законам роду жыві,*
*Працуй, каб пот па ілбе*
*Спадаў, як раса з травы.*
*І будзь заўжды пры сяўбе.*

### Берагіня роду

***Будучыня нацыі —***
***у руках маці.***
***Анарэ дэ Бальзак***

*Родная, каханая, роду берагіня,*
*Верная заўжды і поруч кожны час.*
*Цеплыні сямейнай, любасці багіня,*
*Нібы сонца — грэеш, ззяеш, як — алмаз.*

*Цеплыня крыві тваёй і пяшчота цела,*
*Што гарыць агнём у хвілі асалод.*
*Сэрца тваё птушачкай спуджанай*
*трымцела*
*У часы расстання, страху і нягод.*

*Твае бездань-вочы, нібы дзве крыніцы —*
*Іхні бляск чаруе, раніць, бы пчала,*
*І твой грозны позірк мацеркі-ваўчыцы*
*У хвіліну гневу, у імгненне зла.*

*Ты памыеш раны і прыкрыеш з тылу,*
*Дзеля роду станешся нават хіжаком,*
*Набірае мужнасці і нязломнай сілы*
*Будучыня Нацыі з тваім малаком.*

КЛІМОВІЧ

### Мацяркам вояў...

*А ваўчаняты падрастуць,*
*крыві захочуць.*
*Ты не трымай, іх трэба адпусціць!*
*Адбор прыроды кволы не праскочыць,*
*А моцным шанец славы дай здабыць!*

*Пусці ў лясы — хай кожны з іх убачыць*
*Нянавісць, грубасць, боль ды эгаізм!*
*У ваўчанятах тых малых, трымцячых,*
*Зародзіцца ад споду гераізм!*

*І падрастуць яны, і стануць сілай*
*У абарону маці, быццам грозны меч.*
*І не трымай іх на грудзях да самае магілы.*
*Пусці, Ваўчыца, адпусці іх прэч!*

### Чырвоны дождж

*І зноўку дождж, і зноў, чамусь, чырвоны.*
*Салоным шротам скуру апякае.*
*Па бездаражы роўна йдуць калоны,*
*Яшчэ не ведаюць, што недзе іх чакае!*

*Байцы сасмяглі, зморана паходам,*
*Але як крэмень кожны: моцны, дужы!*
*За Украіну — што ў агонь ім,*
*што ў балота!*
*Ёй аддаюць дазвання сэрцы й душы!*

*Браня блішчыць, наперадзе руіны,*
*І ворагі апошнія здыхаюць!*
*Крычаць салдатам: «Слава Украіне!»*
*«Героям Слава!» — у адказ гукаюць!*

*Лунае песня годна — гімн паходу!*
*Усмешка па абліччах прабягае:*
*Яны пайшлі у бой не за ўзнагароду —*
*За ўчынак гэты Вечнасць іх прымае.*

Ольбег РАРОГ

### Двойчы не паміраць

*Перасякаючы таемна межы ночы,*
*Нябыту браму трэба перайсці,*
*Багам арыйскім зазірнуўшы ў вочы*
*Ды прашчурам, што зніклі ў забыцці,*
*Ты азірнешся, толькі будзе позна,*
*Калі адказ трымацьмеш на судзе,*
*І прадзед запытаецца з пагрозай:*
*«Што дзеля мэты ты зрабіў,*
*калі і дзе?»*
*Тады ў цябе не знойдзецца адказу,*
*Таму што ўсё жыццё маніў сабе —*
*І шаблю на паноў не ўзняў ні разу,*
*Каб не забілі кнутаўём цябе.*
*Запомні толькі: не ўміраюць двойчы,*
*І лепей з гонарам загінуць у баі,*
*Чым апусціць бязвольна долу вочы,*
*Згарэць ад сораму сярод братоў сваіх...*

### Баявая замова

*Тварам на Поўнач звярнуся —*
*Продкам сваім пакланюся,*
*Слова за Род трымаю,*
*Сілы ў Багоў пытаю!*

*Куля мяне аблятае,*
*Жалеза мяне абмінае,*
*Агонь і вада абцякаюць —*
*Ворагаў даганяюць!*

*Скура мая — панцыр з крыцы,*
*Кроў жа — з жывой вадзіцы,*
*Сокала шляхам кранўся,*
*Воўкам перавярнуся!*

*Вятрамі ўкрыюся,*
*Снягамі ўмыюся,*
*За зямлю стаю,*
*Свой Род бараню!*

Уладзімір УХАЧ

### Паэты

***Калі ў нацыі***
***павадыроў няма,***
***Тады правадыры яе — паэты.***
***Е. Маланюк***

*У вогненным горане плавім метал,*
*Што ў жылах крыві замест.*
*І з кубкаў халодных гарачы запал*
*Мы ў словах каваных змесцім.*

*Разбёныя літары сэрцаў знарок*
*Развеем па свеце міфам.*
*І ранім душу, нібы спраўны стралок,*
*Рэчытатывам з граніту.*

*І рухне пад ногі са шлаку сцяна,*
*Спрэс у хлусні ды брудзе.*
*Магутнае рэха тут будзе лунаць,*
*І праўду пачуюць людзі.*

*Сатлее ў нябыце падману труна,*
*І путы згніюць дарэшты.*
*Няма калі ў нацыі правадыра —*
*Ім станецца ёй паэты.*

**Пераклаў з украінскай мовы**
**Сяргей Сыс**

# Пакліканая будучыняй

### 1

Не думалася, што некалі буду пісаць успаміны пра Валянціну Коўтун. Не толькі ў далёкім 1967-м годзе на рэспубліканскім творчым семінары, скліканым Анатолем Вярцінскім, калі ўпершыню ўбачыў яе, дзяўчыну маладую і энергічную. Не думалася пра такое і нашмат пазней, калі наш творчы саюз панёс невымоўную страту — пакінула белы свет Жэня Янішчыц, і тады, як мы разам з Валянцінай завіталі на Жэніну радзіму ў лістападзе 1998-га адзначаць 50-я ўгодкі з дня народзінаў выбітнае паэткі. Не прыходзіла сумная думка і значна пазней, ужо ўвосень 2010, калі Валянціна Міхайлаўна брала ўдзел у маёй вечарыне ў музеі Якуба Коласа, хоць я ўжо ведаў, што ў яе ёсць праблемы са здароўем. Не думалася пра сумнае хоць бы таму, што яна была маладзейшая за мяне, а душу апаноўвала такая напружаная духоўная праца, якая, здавалася, не магла адпусціць яе заўчасна ў вечны вырай.


Валянціна Коўтун

RFE/RL

На юбілейнай вечарыне Валянціны Коўтун у красавіку 2011 года, якая праходзіла ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры ў Менску, мне далі слова напрыканцы ўрачыстасці. Надта шмат ужо выступіла прамоўцаў. Вечарына забуксавала. Я мусіў быць лаканічным. Насупраць сядзеў Уладзімір Конан, і мне падумалася пра тое, з кім КОЎТУН суседнічае ў нашым пісьменніцкім даведніку. Суседзі цудоўныя: Колас, Конан (а яшчэ — Корбан, Корзун, Коршак). Паколькі яе імя па бацьку — Міхайлаўна, то мне было прыемна пачаць гаворку з таго, што Валянціна Коўтун у кагорце Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча (Коласа) і Уладзіміра Міхайлавіча Конана. Тады было весела. А калі неўзабаве не стала Уладзіміра Конана, падумалася: «Засталася толькі Валянціна Міхайлаўна». На вялікі жаль, праз лічаныя дні смерць забрала і Валянціну. Журба-скруха поўніла маё сэрца.

У памяці пачалі паўставаць эпізоды сустрэч з таленавітаю творцай на семінарах, на сходах, з'ездах і вечарах нашае пісьменніцкае суполкі, у літаратурных музеях, на лецішчах (там нашыя хаты — побач), дзе яна была вельмі рэдка. Вядома ж, не забылася супрацоўніцтва ў часопісе «Полымя», дзе мы два гады шчыравалі ў адным кабінеце.

Калі гаварыць пра чалавечыя якасці выдатнай творцы, то павінен адзначыць: яна была вельмі надзейная, пунктуальная — якасць рэдкасная, калі ўлічыць вечную занятасць творчае асобы, — мела бясспрэчныя арганізатарскія здольнасці. Інакш ці змагла б паспяхова шмат гадоў ачольваць аддзел крытыкі і літаратуразнаўства ў рэдакцыі часопіса «Полымя», які з'яўляўся эпіцэнтрам літаратурнага жыцця краіны.Там яна пачувалася як рыбка ў вадзе. Заказвала артыкулы самым вядомым творцам, дапамагала менш вядомым аўтарам давесці да ладу іх развагі пра нацыянальную літаратуру; не раз гадзіну і больш ахвяроўвала на гутаркі з аўтарамі будучых публікацыяў ці ўзгадняла з імі прапанаваныя праўкі. Размаўляла ціха (бо ў кабінеце нас, супрацоўнікаў рэдакцыі, было шасцёра), але пераканаўча.

Яе дасведчанасці і красамоўству можна было пазайздросціць. Я любіў яе высокадухоўныя гутаркі з Галінай Шаблінскай па радыё ў вядомай праграме «Гаспода».

Валянціна добра арыентавалася не толькі ў айчыннай літаратуры, а і ў многіх літаратурах свету, да прыкладу — ва ўкраінскай (пэўна, глыбокія філалагічныя веды набыла ў часе вучобы на Украіне, у Львоўскім універсітэце). Не выпадкова яе з задавальненнем запрашалі ў Дом дружбы на імпрэзы, прысвечаныя ўкраінскім геніям.

**Яна была вельмі надзейная, пунктуальная — якасць рэдкасная, калі ўлічыць вечную занятасць творчае асобы, — мела бясспрэчныя арганізатарскія здольнасці**

Фэсты з яе ўдзелам запаміналіся, як, напрыклад, вечарына ў Парэцкай школе, дзе ў адпаведную дату ўшаноўвалася памяць непараўнальнай зямлячкі. Валянціна Міхайлаўна пакікала туды, разам з Жэнінай матуляй Марыяй Андрэеўнай і сынам Андрэем, людзей, якія шчыра любілі цудоўную паэтку (сярод іх была народная артыстка краіны Марыя Захарэвіч), забяспечыла нас камфартабельным транспартам, а там, у школе, хораша выступіла перад поўнаю залаю.

Пазней, праз дванаццаць гадоў, калі даведалася, што ў Белаазёрску ладзяцца паэтычныя чытанні, свята памяці Ніны Мацяш, вельмі хацела паехаць на радзіму Ніны Язэпаўны, ды месца ў машыне ёй, на жаль, не знайшлося. Але няўрымслівая Валечка прывітала «Бабіна лета ў Белаазёрску–2010» тэлеграмай.

Усё сказанае наводзіць на думку, што радкі Валянціны Коўтун пра маштабную духоўную постаць Цёткі («Здаецца, усё душой бы абняла...» і «Кветку белую — Беларусь прытуліла да сэрца жанчына») у поўнай меры можна аднесці да яе самой, творцы і патрыёткі, самаахвярнай, апантанай, памяткой.

### 2

Успаміны, успаміны... Мы з Валянцінай не былі надта блізкія сябры, але як творцы «стартавалі» ў адной прасторы і ў адным часе. Зрэдку, натуральна, абменьваліся аўтографамі. На тытульнай старонцы яе паэтычнае кнігі «На зломе маланкі» (1981) чытаю: «Васілю Жуковічу, — аднаму са слаўных, шчырых паэтаў нашага пакалення — з даўняй сімпатыяй. В. Коўтун. 28.02.1982 год».

Тады яе талент набіраў вышыню, прыкметныя творчыя дасягненні былі наперадзе. Што да названага зборніка, то ў ім вылучалася паэма, прысвечаная духоўнай постаці Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Гэтая наскрозь вобразная паэма засведчыла выразнае ўсведамленне аўтаркі, што шлях нашага краю, які стагнаў «пад арлом двухгаловым», да свабоды — пакручасты. Не забыты Кастусь Каліноўскі. Яго трагічны подзвіг узрушае жывыя душы беларусаў і абнадзейвае:

*Унук паўстання,*
*дай жа мне руку;*
*Ідзе за Цёткай хлопчык*
*несмяротны,*
*І страшна так жалезнаму*
*ваўку —*
*«Мужыцкай праўды»*
*коцяцца палотны.*
.................
*Ідзі, унук бялявы, праз лясы,*
*Купалля кветка блісне*
*сярод ночы...*

Які ж нечаканы і цікавы вобраз — «унук паўстання»!..

Узброеныя да зубоў улады баяліся не толькі паўстання Каліноўскага, не толькі яго геніяльна-бескампраміснай «Мужыцкае праўды»:

*Б'юць указам, нянавісцю,*
*плёткай,*
*Каб хоць гэтак свой страх суняць*
*Перад словам, што скажа ім*
*Цётка...*
*Суд ідзе...*
*Грамадзяне, устаць!*

Так, самаўладдзе страшылася праўдзівага і мужнага слова Пашкевічанкі.

Пазней Валянціна Коўтун гэты твор трансфармуе ў драматычную паэму «Суд Алаізы», якую наблізіць да XXI стагоддзя:

*Народ, як лес. Ды колькі дрэў струхлелых!*
............
*Ёсць пацукі. Ёсць геніі радзімы...*
*Каго ты, будучыня, станеш зваць сваімі?*

Яна была мэтанакіраваная і апантаная беларушчынай. А пра эпічныя палотны мроіла, магчыма, пад уплывам Івана Мележа. Ёй карцела распавесці свету пра Еўфрасінню Полацкую. Але для рэалізацыі запаветнае мроі спатрэбілася перайсці мяжу між XX і XXI стагоддзямі. Мне здаецца, яна была пакліканая будучыняй для стварэння менавіта жаночых светлазорных вобразаў. Не ведаю, хто стаяў на чарзе. Магчыма, Генюш? Мяркуючы па тым, як у 2009 годзе ў яе з'явілася «Малітва да Калымы» пад імем Лесі Беларускі, яе дужа хвалявалі лёсы «тысяч і тысяч ні ў чым не вінаватых пакутніц-лагерніц, для якіх страшней за самую лютую смерць была страта ўласнага гонару і чалавечай годнасці». Вобраз гулагаўскай гераіні і ў прозе ёй быў па сіле. Ейны таропкі почырк гаворыць мне пра многае...

### 3

Калі мне знакамітая кампазітарка Алена Атрашкевіч прапанавала стварыць лібрэта для оперы пра Еўфрасінню Полацкую, мне інтуіцыя падказала звярнуцца да Валянціны Коўтун з пытаннем, ці не занятая такім клопатам яна. І неўзабаве, калі стрэў Валю на лецішчы, высветлілася, што праца над лібрэта ёю завяршаецца. Я пацікавіўся, хто ж кампазітар. Яна назвала Алега Залётнева.

«Яна паспела паставіць кропку», — сказаў мне Алег Барысавіч пра лібрэта, названае паэткай «Шлях палачанкі».

Але опера, на вялікі жаль, не пішацца. Вядомы кампазітар пачаў як бы апраўдвацца, што гэта занадта буйны жанр, каб пісаць у стол. Аказваецца, ні оперны тэатр, ні тэатр музкамедыі, ні міністэрства культуры не блаславілі яго на стварэнне першай і ўнікальнай беларускай хрысціянскай оперы. Цяпер, калі мною прачытана лібрэта ў «Выбраным», апошняй кнізе Валянціны Коўтун, складзенай ёю, я пераканаўся: не паэтка вінаватая ў тым, што твор пра знакамітую асобу Беларусі аказаўся незапатрабаваны. Вінаваты нізкі духоўна-маральны стан грамадства краіны, дзе пануе страх браць на сябе адказнасць. Страх у дадзеным выпадку няцяжка ўявіць: а раптам наверсе хтосьці нездаволена зморшчыцца! А раптам пойдзе дакор: «Вы што, «Шляхам палачанкі» заклікаеце моладзь у манастыры, у манахі пры нашым дэмаграфічным тупіку?!..»

Гора нам, як кажуць азіяты. Зрэшты, там, у вечнасці, дзе пачаўся новы адлік часу Валянціны Коўтун, невялікі зямны перыяд, з яго недарэчнасцямі і амаральнымі вывіхамі, страхамі і брыдкай прыстасаванасцю, неістотны... Яна пакліканая будучыняй!

**Васіль Жуковіч**

---

**Памяці паэта Ігара Канановіча**

*«Я — астэроід.*
*Я — Сусвету блудны сын»*

*Ігар Кананові*ч

*...ці хто зацягне тугі пятлю,*
*ці ступіць далей за край...*
*Кожнага з іх, як сябе, люблю...*
*Божа, не пакідай...*

*Мы ў Цябе шукаем адхлань,*
*спагады з Тваіх рук,*
*выратавальнікам*
*нашым стань —*
*вырві адчаю крук,*

*вярні бяздушным Ты на зямлю*
*з нябёс жывую душу,*
*таму што іх таксама люблю,*
*аб чым і Цябе прашу...*

*Таго ж, хто выраку наўздагон*
*зрынуўся з вышыні,*
*прымі ў суплёт*
*Сусвету свайго,*
*а дух — Айчыне вярні.*

**20 чэрвеня 2016 года**
**Леанід Галубовіч**

# «Прастора і час»

**Выйшаў у свет самы гарачы нумар часопіса «Дзеяслоў» — чэрвеньскі (№ 82). Ёмкі па аб'ёме і змесце, ён утрымлівае раўнавагу чытацкіх прыхільнасцяў: трымаецца класічнай традыцыі беларускага краснага пісьменства і спрабуе не адхіляцца ад перспектыўных накірункаў у сучасным літаратурным працэсе.**




Чытаючы навінкі замежнай літаратуры і параўноўваючы іх з найбольш яркімі творамі нашых пісьменнікаў, я не адчуваю той «адсталасці і замшэласці», пра што нярэдка пішуць няўрымслівыя крытыкі ў перыёдыцы і асабліва ў электронных СМІ. Як і ва ўсім іншым, у мастацтве таксама ўсё адносна. Ці не таму, па словах расійскага паэта, *«вялікае бачыцца на аддаленні»*...

Пачну з таго, што, на мой погляд, падалося найбольш вартым чытацкай увагі. Найперш, гэта нізка выдатных вершаў **Уладзіміра Някляева.** Скажам, не чакаючы віншаванняў, гэта сапраўдны падарунак паэта сваім чытачам да ўласнага юбілею. Класная, хоць ужо і пазнавальная, паэзія, за выняткам некалькіх тэкстаў, створаная «па законах лага-рыфмічнай лінейкі». Зрэшты, не будзем намагацца надта пільна зазіраць у творчую лабараторыю майстра. І без таго бачна і адчувальна, што ў вершах абсалютна ўсё выверана: слова, думка, метафара, алюзія, рыфма, стыль...

*Якая пустэльня! Вада ды аблокі!*
*І там, дзе аблокі, анёл сінявокі.*
*Нічога чужога. Прастора і час.*
*У Божай задуме — зямля пасля нас.*

Калі б панятак «геніяльнасці» не быў зацёрты сённяшнім прагматычным часам натуральна да «дзірак», праз якія прасвечваецца багемная мастацкая беднасць сучасных стваральнікаў, то можна было б назваць асобныя вершы Някляева менавіта такім высокім тэрмінам. Немалыя і няпроста пражытыя гады, жыццёвыя ды публічныя мітрэнгі не выхаласцілі таленту паэта. З чым яго і віншуем. І жадаем надалей прыслухоўвацца да ўласных інтуітыўных вычуванняў:

*І сны аб небыцці,*
*і сны аб вечнай славе —*
*Пяньковая пятля на шыі тых,*
*хто спіць.*
*Паэт не можа спаць.*
*Калі ён спіць — ён сніць.*
*І жахі гэтых сноў збываюцца*
*на яве.*

Безумоўна, да адметных і яркіх публікацый часопіса я дадаў бы і аповесць **Ігара Бабкова** «Францішак: слова за вакном». Хоць адносна жанру — аповесць гэта ці нешта іншае? — справа дзясятая. Не так важна. Насамрэч гэта туманная, адстаронена, фантасмагарычная гісторыя пра ўсё і нічога. Збор жыццёвых філасофскіх мініяцюр у адзін сюжэтны абсяг, на фоне якога цьмяна праяўляецца ўнутранае жыццё чалавека, высвечанае маланкавым крэсівам яго інтэлекту і памятлівай душы... Перад намі асоба, якая хоча зразумець свой зямны і быццёвы сэнс, сутнасць ці ад-сутнасць такога сэнсу ўвогуле... Новая проза без пэўных пачаткаў і няпэўных канцоў — уяўнасць Франка пра магчымасць слоў за вакном... Калі чытач прачытае п'есу У. Б. Ейтса «Словы на шыбіне», у гэтым жа нумары часопіса перастворанаю па-беларуску Н. Харытанюк (жонкай Бабкова), то больш выяўна зважыць адсылы і звязкі абодвух тэкстаў. Абстракцыі і спірытызм толькі спрабуюць прыадчыніць дзверы ў таямніцы аўтарскіх змыслаў... Складванне пазлаў наводзіць на думку пра вечную недасканаласць канструкцыі Сусветнага быцця... Прывяду ўласна сабраны фрагмент з тэксту, як адно з магчымых тлумачэнняў творчай ідэі аўтара:

*«Словы былі занадта высокія. І безадказныя».*

*«Мова, падумаў ён тады, — усяго толькі сутнасныя адхіленні, вібрацыі сэнсаў. Дзеянне адхіляецца ў часе, імя — у прасторы. Разам яны звязваюць усё з усім. Мова ёсць гэты звязам, спляценнем. Мова сплятае свет у адно. Мова і ёсць светам. Мова была мейсцам. Прытулкам. Домам быцця. Ён быў вартаўніком гэтага прытулку. Словы слухаліся яго, а ён іх. Але гэта было толькі тут, у прыцемках. У катакомбах».*

*«Страшна і хочаца адчыніць. У цябе было калі-небудзь такое адчуванне, запытаўся Далюс. Калі адтуль грукаюць і трэба адчыняць, а ты не ведаеш, дзе дзверы. Альбо нават ведаеш дзе і гатовы адчыніць, але яны закладзеныя? Я ўсё жыццё жыву з такім адчуваннем, сказаў Францішак».*

*«Ён дастаў сшытак і асадку, на ўсякі выпадак. Калі штосьці праявіцца, яны будуць пад рукой. Прытуліўся да шкла. І адразу праваліўся. У светлыя глыбіні часу. У тое, што калісьці было і засталося».*

Яшчэ адзін юбіляр нумара — пісьменнік **Генрых Далідовіч** — прапануе нашай увазе дыптых «Юда для Каліноўскага». У першай апублікаванай частцы аўтар уводзіць чытача ў здрадніцкі свет тых, хто спрычыніўся да ўдушэння паўстання 1863 года і гібелі яго духоўнага і ідэйнага кіраўніцтва. Для гэтай місіі ў Менск генералам Мураўёвым накіроўваецца яго стаўленік па імперска-шавіністычных поглядах. І вось што даводзіць паліцэйскім паўночна-заходняга краю прысланы генералам-вешальнікам яго прадстаўнік, расейскі палкоўнік: *«Ну, а на заканчэнне, дадам тое, што залежыць не толькі ад нас з вамі, але і ад цывільных улад, — сказаў Зайцаў. — Літаральна на днях, першага студзеня, генерал-губернатар Мураўёў выдаў цыркуляр. Па ім навечна забараняюцца беларуская і літоўская мовы, іхні друк. Не дапускаецца ў дзяржаўнай перапісцы, у публічных выступленнях і польская мова. Хопіць. Няхай край больш настойліва прывучаецца да таго, хто тут гаспадар і што яго мова — усіхняя мова. Мы, падкрэслівае Мураўёў, не для таго сюды прыйшлі, патрацілі шмат сілаў, каб даваць патолю мясцовым звычаям і норавам, так званай самабытнасці, самалюбству, гонару, амбіцыям».*

Во гэтак проста ўсё было ў тыя часы: выдаў цыркуляр нейкі расейскі генерал — і ў цэлым народзе задушваецца ўсё нацыянальнае. І ці ж толькі ў тыя часы? А цяпер хіба падобныя дэкрэты не выдаюцца? Пытанне рытарычнае. Будзем чакаць другой часткі гістарычнага твора Г. Далідовіча. А пакуль — віншуем з юбілеем!

Вершы **Юркі Голуба,** як заўсёды, вельмі жывыя і майстравітыя (я сказаў бы — віртуозна вырабленыя) з неардынарнай нечакана-свежай метафарай, з юрліва-забаўлівай рыфмай... Што праўда, змест яго вершаў не новы, але сэнс лепшых твораў абапіраецца на мудрасць і немалы жыццёвы вопыт паэта:

*Знікаў на досвітку туман:*
*Напэўна, мае недзе спраты,*
*Дзе на расхрыстаных тамах*
*Заснуў анапеста аматар.*

Навелы **Уладзіміра Сцяпана** можна назваць помнымі і занатаванымі падрабязнасцямі звычайнага чалавечага жыцця. Можна дадаць: беларускага простанароднага жыцця... Дробязі У. Сцяпана дужа важкія і, як урэшце аказваецца, часам нават вызначальныя на захадзе чалавечага жыцця. Як бы нічога новага: мала сонца, многа ценю і шэра-стракатых прасветаў, шчылін, зачэпак, стрэмак, дыму, што праступае з паўзмроку нашай падсвядомасці. Спроба захавання пражытага...

**Ганна Галавіна,** у адрозненне ад сваіх сучасніц, паэтка ціхая, сентыментальная, шчырая... Да яе паэзіі ўзнікае давер. А вершаваныя радкі Ганны да свайго каханага нагадваюць мне яе зварот да ўласнага чытача:

*Дыханне — крыло*
*патрывожаных птахаў.*
*Не трэба баяцца пяшчоты*
*нямой.*
*Тым больш, што і я паміраю*
*ад жаху.*
*Ад лёгкага ценю увагі тваёй.*

Апавяданне **Сяргея Дубаўца** «Жэнеўеў» больш нагадвае эсэ з грамадска-публіцыстычным ухілам, нераўнуючы як пашыраны і мастацка апрацаваны блог гэтага ж аўтара на сайце РС. Але ў самім тэксце шмат трапных алюзій, таму чытаецца ён з цікавасцю. Своеасаблівая спроба разгадкі нацыянальнай ментальнасці беларусаў, чым, як я зважаю, спадар Дубавец ужо даўно пераймаецца ў сваёй журналісцкай і літаратурнай творчасці. Пастаяннае самакапанне — і ёсць адной з адметных рысаў нашага менталітэта. Некаторыя вытрымкі з тэксту:

*«...ён быў такі самы, як і ўсе. Між беларусаў шмат людзей, пра якіх нічога асаблівага не скажаш, нават таго, што яны беларусы»;*

*«Ці не таму, што ўсё ў Беларусі было з падвойным дном? Паміраць рыхтуюцца, але не збіраюцца. Кажуць, што родная мова ў іх беларуская, а гавораць па-расейску. Нездарма ж найвялікшы літаратурны твор у іх называецца «Дзве душы» — нібы сапраўдная іхняя канстытуцыя пры тым, што і звыклая Канстытуцыя ў іх нібыта ёсць».*

Хара́ктарныя, валявыя вершы **Сержука Сыса.** Лірыка грамадзянскага гучання. У ёй ёсць доля пафаса, але няма надуманасці і гульні. Як *«адлюстраванне»* сказанага — цытата з аднайменага верша:

*Вада падманвае, выявы рэчаў*
*размывае,*
*Здаецца, там, на глыбіні,*
*таемны дзіўны сад...*
*А там — каменьчыкі бліщчаць*
*і перліна старая,*
*Усё, што звалася душою шмат*
*гадоў назад.*

**Макс Шчур** друкуе два аповеды («Бабуля» і «Уратаванне»). Першы — гэта лірычна-сентыментальны ўспамін, даволі нечаканы тэкст для гэтага пісьменніка, які павярнуў маю прыхалоджаную прыхільнасць да сваёй творчасці. Жывое апавяданне аўтара, як пульсуючая венная кроў, — гэта і ёсць мастацтва. Ці не таму другі аповед — на палітычна-злабадзённую тэму — ужо не зрабіў на мяне асаблівага ўражання: сухі, статычны, мусова змыслены...

Вершы **Валерыі Куставай** пачуццёвыя і экспрэсіўныя — у стане эмацыянальнага хістання намагаецца раўнавага і гармонія... Што ж, цяпер у яе такі перыяд:

*Раней турбавала:*
*«верш, а не ты!»,*
*«сыдзі прэч з маёй волі!»*
*Цяпер —*
*вершаняты*
*мае*
*ў абдымках тваіх*
*спатолю.*

Вершы **Ірыны Мацкевіч** напісаныя ў традыцыйным стылі — статычныя, роўна выстраеныя. Шмат лірычнага зместу наводдаль паэзіі...

**Ганна Комар** — наадварот — піша вершы неардынарныя, імпульсіўныя, падчас дзёрзкія і праваканцыйныя, — тыя, што цяпер у «модзе». Некаторыя мне спадабаліся. Талент у Ганны несумненна ёсць, але ён яшчэ не настолькі праявіўся, каб зняць «скуру з душы», а не «з цела». Аднак неўзабаве такога ад яе можна чакаць...

**Леанід Дранько-Майсюк** працягвае публікацыю кнігі гістарычных эсэ «У Вільні і больш нідзе». Гэтым разам — пра дзяржаўнага сакратара БНР, архітэктара Клаўдзі Дуж-Душэўскага.

Наталля Харытанюк пераклала п'есу **Уільяма Батлера Ейтса** «Словы на шыбіне», а Ганна Янкута перастварыла «Метамарфозы» польскага паэта **Баляслава Лесьмяна.**

Паэт і літаратуразнаўца Віктар Жыбуль прапануе цыкл вершаў з літаратурнай спадчыны **Алеся Наўроцкага.** Публікацыя цікавая як факт літаратуры і абрыс не да канца спраўджанага адметнага творчага лёсу таленавітага паэта. Я думаю, трэба было быць адэкватным чалавекам, каб у 2009 годзе пісаць такі верш:

*Калі блыха дабярэцца да цела*
*і, галодная, смокча кроў,*
*дык чалавек, як ашалелы,*
*смяротных дае блысе пляскачоў.*
*Калі ж блыха дабярэцца да трону*
*і вып'е кроў у моры людзей,*
*дык люд пазірае на яе,*
*нібы на ікону,*
*і ўзводзіць ёй маўзалей.*

Ну і зусім сцісла — пра тэксты па-за мастацкімі жанрамі.

Навуковец **Вадзім Корань** да 70-годдзя паэта Васіля Гадулькі публікуе вельмі цёплы, з любоўю і разуменнем напісаны артыкул «Шлях мой самотны...». На гэтым матэрыяле варта затрымацца чытацкаму воку. Крытык і літаратуразнаўца **Вячаслаў Рагойша** знаёміць сучасных чытачоў з Кандратам Крапівой як мастацкім перакладчыкам. «І не толькі...» Напраўду артыкул займальны і прыцягальны, напісаны душэўна і раскавана. Літаратуразнаўца **Анатоль Трафімчык** спрабуе на падставе «Песні жаўнераў 1794 года» і «касцюшкініяны» паднясць тэму ідэнтыфікацыі беларускай мовы і «нацыянальнай дыферэнцыяцыю ў мадэрных катэгорыях Новага часу». Артыкул прыўрочаны да 260-годдзя Тадэвуша Касцюшкі.

Крытык **Пятро Васючэнка** ў артыкуле «Утопія ці антыўтопія?» накрэсліў суб'ектыўныя подумкі адносна набыткаў і магчымай перспектывы беларускай літаратуры, маючы на ўвазе яе «жанравы рух XX–XXI стагоддзяў». **Алена Масла** ў артыкуле «Шклянка, поўная напалову» спрабуе зрабіць дыягностыку працэсаў у сучаснай дзіцячай літаратуры. **Ніна Каленчыкава** дзеліцца думкамі пра творчасць самабытнай мастачкі Алены Кіш, якой сёлета споўнілася б 120 гадоў. Бібліёграф з Нью-Ёрку **Лявон Юрэвіч** нагадвае пра «трэцюю крыніцу й трэці складнік рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзіміра Караткевіча. Даследчык Біблії з Бабруйска **Сяргей Пятровіч** распавядае пра «беларускія прозвішчы праз прызму старажытнагабрэйскай мовы». Аўтар гэтага опуса рэцэнзуе перакладзеную на беларускую мову кніжку «Клетка для івалгі» украінскага пісьменніка Уладзіміра Даніленкі.

Чытайце, пашырайце свой творчы дыяпазон. Сезон летніх адпачынкаў таму спрыяе.

**ЛеГАЛ**

ПРЭМІІ

## Прэмія прынцэсы Астурыйскай

**Іспанія ўганаравала прэміяй прынцэсы Астурыйскай у галіне літаратуры амерыканскага пісьменніка Рычарда Форда.**



Сярод вядомых твораў 72-гадовага аўтара — раманы «Спартыўны журналіст» і «Дзень незалежнасці», зборнік «Рок-Спрынгс». За «Дзень незалежнасці» Р. Форд у 1995 годзе атрымаў Пулітцэраўскую прэмію.

Журы іспанскай узнагароды назвала пісьменніка «вялікім хранікёрам мазаікі пераплеценых гісторый, якой з'яўляецца амерыканскае грамадства».

Прэмія — адна з васьмі, якія штогод уручаюцца Фондам кронпрынцэсы Леаноры. Яны прысуджаюцца таксама прадстаўнікам навукі, спорту, грамадскім дзеячам. Раней гэтую ўзнагароду атрымалі пісьменнік Філіп Рот, драматург Артур Мілер, рэжысёр Фрэнсіс Форд Копала.

**Паводле «ВВС»**

## Прэмія братоў Стругацкіх

**У Пулкаўскай абсерваторыі Пецярбурга аўтарам фантастычных твораў 18-ы раз уручылі міжнародную літаратурную прэмію братоў Стругацкіх.**

Лаўрэатам АВС-прэміі, названай па ініцыялах знакамітых пісьменнікаў, стаў масквіч Роберт Ібатулін. Перамогу яму прынёс дэбютны «ваенна-шпіёнска-палітычны» касмічны раман «Ружа і чарвяк», над якім ён працаваў два гады.

Таксама ў намінацыі «Мастацкая проза» адзначылі Марыю Галіну за раман «Аўтахтоны» і Кірыла Яськова за кнігу «Амерыка (reload game)».

У намінацыі «Крытыка і публіцыстыка» лаўрэатамі сталі аўтары з Сібіры Генадзь Прашкевіч і Уладзімір Барысаў (за біяграфічную кнігу «Станіслаў Лем»).

Усе фіналісты атрымалі грашовую ўзнагароду. Акрамя гэтага, ім уручылі малюнак зорнага неба з астэроідам 3054, названым імем Стругацкіх, а таксама сямігранную гайку, якая не існуе ні ў прыродзе, ні ў тэхніцы.

**Паводле «Российской газеты»**

# «Майн Кампф» у Італіі

**Італьянская газета «Il Giornale» апублікавала тэкст Адольфа Гітлера «Майн кампф» («Мая барацьба»), які спалучае ў сабе элементы аўтабіяграфіі ды ідэі нацыянал-сацыялізму, асобным накладам. Публікацыя выклікала шырокую палітычную дыскусію на Апенінах.**

Галоўны рэдактар «Il Giornale» Алесандра Салусці вырашыў зрабіць дадатак — першы з васьмі тамоў палітычнага маніфеста Гітлера — да новага нумара газеты. Любы ахвочы можа атрымаць яго, вырашыўшы набыць газету.

Рашэнне А. Салусці выклікала асуджэнне з боку габрэйскай абшчыны Італіі, пасольства Ізраіля і многіх італьянскіх палітыкаў, у тым ліку прэм'ер-міністра краіны Матэа Рэнца.

«Я лічу вартым жалю, што італьянскі штотыднёвік дорыць сёння «Майн кампф» Гітлера», — напісаў М. Рэнца ў Фэйсбуку.

А пасольства Ізраіля ў Рыме выказала «здзіўленне» ў сувязі з публікацыяй «Майн кампф», габрэйская абшчына назвала тое, што здарылася, «непрыстойным учынкам».

Аднак галоўны рэдактар «Il Giornale», адказваючы на крытыку, сказаў: «Каб зразумець, як магло нарадзіцца гэтае абсалютнае зло, трэба звяртацца да крыніцы і не баяцца разглядаць трагедыі XX стагоддзя ў агульным гістарычным плане».

На пачатку траўня паведамлялася, што ў Нямеччыне кнігу Адольфа Гітлера «Майн кампф» могуць уключыць у школьную праграму...

«Майн кампф» з'яўляецца аўтабіяграфіяй лідэра нацыстаў, у якой ён таксама выказаў асноўныя прынцыпы ідэалогіі сваёй партыі.

**Паводле «The Local»**

# Львоўская прэзентацыя архіваў спецслужбаў

**У Львове работнікі Нацыянальнага музея-мемарыяла «Турма на Ланцкога» і Цэнтра даследаванняў вызвольнага руху прадставілі грамадскасці зборнік «Дакументы камуністычных спецслужбаў у Еўропе. Даведнік сеткі архіваў».**

Яго складальнікі паставілі сабе мэту: дапамагчы сучаснаму чытачу зразумець, як у свой час нашы суседзі ў Польшчы, Германіі, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Балгарыі і Румыніі адкрывалі архівы ўласных службаў бяспекі.

Выданне гэтай вельмі актуальнай для нашай грамадзянскай супольнасці кнігі ажыццёўленае Цэнтрам даследаванняў вызвольнага руху пры садзейнічанні Міжнароднага фонда «Адраджэнне». Бо ўкраінскае выданне — гэта перакладзеная і адаптаваная версія зборніка, якім карыстаецца Еўрапейская сетка інстытутаў, адказных за архівы спецслужбаў.

Зборнік распавядае пра тое, як еўрапейскія краіны пераадольвалі шлях пераходу да дэмакратыі пасля распаду СССР, у якіх аб'ёмах захаваліся да гэтага часу дакументы камуністычных спецслужбаў і як заканадаўства розных краін рэгулюе пытанні доступу да тых дакументаў. У гэтым незвычайным даведніку прадстаўлена інфармацыя пра архівы былых камуністычных спецслужбаў Балгарыі, Германіі, Чэхіі, Венгрыі, Польшчы, Румыніі і Славакіі.

**Дар'я Кучарэнка, vsiknygy.net.ua**

## Пуцін пра добрую літаратуру

**Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін заявіў, што Расіі трэба больш добрай літаратуры, і не толькі ваеннай.**

Пра гэта ён сказаў на сустрэчы з прадстаўнікамі Агульнарасійскага гістарычнага схода. Працытаваўшы ўрывак аб пераправе з паэмы Аляксандра Твардоўскага «Васіль Цёркін», прэзідэнт адзначыў, што ў цяперашні час патрэбныя такія творы літаратуры, якія «бяруць за душу».

«Ваенная тэматыка вельмі важная, але нам не менш трэба пазітыву сённяшняга дня, будучыні. Без ведання ўласнай гісторыі немагчыма глядзець у будучыню», — адзначыў ён.

# «У галаве Пуціна»

**Менавіта так — «У галаве Пуціна» — называецца кніга, у якой Мішэль Ельчанінаў аналізуе дактрыну, якая вызначае сёння светапогляд расійскага прэзідэнта і палітыку Расіі.**

Прафесар Сарбоны, доктар навук, рэдактар аўтарытэтнага французскага «Філасофскага часопіса», вядомы даследчык творчасці Ф. Дастаеўскага, — і раптам вырашыў напісаць пра Пуціна-філосафа? Хоць вядома, што ніякім філосафам расійскі прэзідэнт не з'яўляецца, хоць цытуе часам Канта, Салаўёва, Бярдзяева...

Цікавасць М. Ельчанінава да гэтай асобы і гэтай тэмы можна растлумачыць хіба што тым, што ён — нашчадак рускіх эмігрантаў, унук святара Аляксандра Ельчанінава — сочыць за падзеямі ў Расіі і цікавіцца яе будучыняй.

Аўтар кнігі «У галаве Пуціна» сцвярджае, што ў Расіі склалася новая нацыянальная дактрына, якую варта сур'ёзна прааналізаваць, каб зразумець, што чакае краіну і яе суседзяў. Дактрыну гэтую стварае, зразумела, не толькі прэзідэнт, але ў яго словах і дзеяннях яна праяўляецца найвыразней. М. Ельчанінаў умоўна зводзіць яе да трыяды: кансерватызм, тэорыя асаблівага «рускага шляху», атрыманая ў спадчыну ад славянафілаў, і Еўразійства.

Ён падрабязна спыняецца на поглядах Мікалая Бярдзяева, Уладзіміра Салаўёва, Івана Ільіна і некаторых іншых рускіх філосафаў (у прыватнасці, антызаходніка Мікалая Данілеўскага ці «рускага Ніцшэ» Канстанціна Лявонцьева), якія вызначаюць сённяшні светапогляд Пуціна — і «легітымізуюць пуцінскую вертыкаль улады».

Мабыць, толькі пра Івана Ільіна варта сказаць некалькі слоў: ужо вельмі гэта адыёзная фігура. Рэлігійны мысляр, адзін з духоўных правадыроў белай эміграцыі, І. Ільін стварыў ідэалогію рускага дзяржаўнага патрыятызму, лічыў, што ў Расіі свой адмысловы шлях, і заходнія дэмакраты — ёй не прыклад. Такія панядці, як «нацыянальны лідэр» і «духоўная знітаванасць», — з яго лексікону. І. Ільін называў нацыяналізм «станам правільным і апраўданым», што прывяло філосафа і да такой высновы: «Фашызм меў рацыю, паколькі зыходзіў са здаровага нацыянальна-патрыятычнага пачуцця».

Філасофія Івана Ільіна вельмі блізкая Мікіту Міхалкову, які, як думаюць, і «адкрыў» яго Пуціну. А пасля таго, як расійскі прэзідэнт некалькі разоў працітаваў І. Ільіна ў сваіх выступах, той стаў лічыцца ва ўладных расійскіх колах бясспрэчным духоўным аўтарытэтам. Разам з тым, Іван Ільін, Канстанцін Лявонцьеў і Леў Гумілёў (з яго ідэяй еўразійскай прасторы, якая супрацьстаіць «атлантычнаму свету»), — гэта, як падкрэслівае аўтар кнігі «У галаве Пуціна», самае рэакцыйнае крыло вялікай рускай культуры.

Зразумела, Пуцін цытуе не толькі іх, але і, напрыклад, Мікалая Бярдзяева. Тут М. Ельчанінаў катэгарычны: Пуцін проста не ведае філасофіі Бярдзяева і, хутчэй за ўсё, зачытвае тое, што падрыхтавалі яму памочнікі. Бо якраз Бярдзяеў быў выразным праціўнікам палітычнага кансерватызму ды імперскай ідэалогіі. Адной з найважнейшых у яго філасофіі была катэгорыя свабоды, вольнага чалавека.

Нагадваючы пра гэта, М. Ельчанінаў заўважае: «Дзякуй Богу, у расійскай філасофіі ёсць шмат мысляроў, якія не маюць ніякага дачынення да імперыялізму». Але, дадае аўтар кнігі, філасофскія крыніцы «пуцінізму» вызначаюцца іншымі «фундаментальнымі трэндамі: імперскай ідэяй і апалогіяй вайны».

Для даследчыка абсалютна відавочна: Пуцін толькі «падганяе» рэальныя і ўяўныя філасофскія канцэпцыі пад сваю ўласную геапалітычную дактрыну, абапіраючыся на правакую кансерватызму, асаблівага «рускага шляху» і «еўразійскай імперыі» ў антызаходняй, агрэсіўнай палітыцы прасавецкага ўзору. Гэты «гібрыд», па выказванні аўтара кнігі, прадвяшчае нам усім неспакойную будучыню.

З гэтым песімістычным пунктам гледжання згодны, у прыватнасці, рэцэнзент газеты «Neue Zürcher Zeitung». Ён звяртае асаблівую ўвагу на тое, як «упісваюцца» ў новую крамлёўскую дактрыну і рэабілітацыя Сталіна, які зноў становіцца добрым (у першую чаргу таму, што ўмацоўваў імперыю), і ўзмацненне ролі праваслаўнай царквы (таму, што яна дае духоўную легітымізацыю «вялікарускай» імперскай ідэі).

У артыкуле газеты «Die Welt», якая расказвае пра кнігу «У галаве Пуціна», гаворыцца пра «элементы савецкага мыслення» і «савецкай мілітарыскай культуры», якія сёння адраджаюцца ў Расіі. Разам з эклектычнай філасофскай надбудовай вялікарускага нацыяналізму, лічыць рэцэнзент «Die Welt», тое павінна «навукова» абгрунтаваць прэтэнзіі Расіі на панаванне ў еўразійскай прасторы.

«...І саму ўладу Пуціна», — дадае аўтар газеты «Tageszeitung».

**Паводле dw.com**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Пакемоны супраць чалавецтва

Алег НОВІКАЎ

**Вы ў шоку ад апошніх падзей на планеце? Расслабцеся. На думку шэрагу СМІ, тэракты і путчы — проста кветачкі ў параўнанні з пагрозай, якую нясе кампутарная гульня Pokémon Go.**


Фота www.pix-geeks.com

Калі 6 ліпеня з'явіўся рэліз Pokémon Go — шматкарыстальніцкай ролевай кампутарнай гульні з персанажамі вядомай старой відэагульні і мульцікаў анімэ, — псіхолагі ўсяго свету ўздымалі чаркі. Новую гульню называлі сапраўдным прарывам у барацьбе з псіхічнымі праблемамі, перш за ўсё сярод падлеткаў. Апошнія, як вядома, гадзінамі сядзяць ля кампутараў, што выклікае звязаныя з такім ладам жыцця хваробы, комплексы камунікацыі, асацыятыўныя праблемы пры кантактах з рэальнасцю і гэтак далей. Гульня Pokémon Go павінна была прымусіць тынейджараў выйсці на вуліцы, заняцца фізічным рухам, камунікаваць і гэтак далей.

У падмурку гульні ляжыць накладанне віртуальных вобразаў на малюнак рэальнага свету без дарагіх прыладаў, кшталту спецыяльных акуляраў ці шлемаў віртуальнай рэальнасці. Дастаткова запампаваць на смартфон прыкладанне і стварыць свайго аватара. Калі гулец перасоўваецца ў рэальным свеце, ягоны аватар падарожнічае па мапе, дзякуючы выкарыстанню GPS. Калі побач знаходзіцца іншы пакемон, гульня паведамляе пра гэта і прапануе адшукаць яго ды злавіць, карыстаючыся камерай таго ж смартфона або планшэта.

Гэта сціслае апісанне Pokémon Go, паколькі ў гульні існуе шмат момантаў — аж да спецыяльных грошай pokecoins, за якія можа набываць розныя дадаткі для палявання на пакемонаў. Мэта гульні — злавіць як мага больш моцных пакемонаў і выйсці на пяты ўзровень. Гэта, у сваю чаргу, дае шанец далучыцца да адной з трох камандаў трэнераў-асаў, якія пасля будуць спаборнічаць паміж сабой.

Pokémon Go вельмі хутка пайшла ў народ. За першыя дні колькасць гульцоў пераваліла за 10 мільёнаў — на радасць тых жа медыкаў. Так, брытанскі «The Independent» абвясціў Pokémon Go ідэальнай тэрапіяй супраць дэпрэсіі. Усім падабалася і абяцанне стваральнікаў гульні: размяшчаць пакемонаў найчасцей ля розных помнікаў, манументаў, у бібліятэках — каб уздымаць культурны ўзровень гульцоў.

Аднак вельмі хутка ўзніклі пабочныя эфекты, не прадугледжаныя арганізатарамі забавы. Спачатку гэта былі навіны пра розныя смешныя выпадкі. Напрыклад, прэзідэнт Ізраіля знайшоў пакемона ва ўласным кабінеце, або амерыканка, якая пераследавала пакемона, натхнулася на нябожчыка. Але няшу праз пару дзён стала не да жартаў. Нейкі небарака-студэнт не адарваўся ад гульні нават пры нажавым раненні, злачынцы пачалі выкарыстоўваць Pokémon Go для прыцягнення сваіх ахвяр.

**Французскае выданне «Rue 89» адзначае, што мы сутыкнуліся з калектыўным псіхозам, які можа мець адмоўныя наступствы для ўсяго чалавецтва**

А 17 ліпеня ў цэнтральным парку Нью-Ёрка на смартфонах з'явіўся вельмі рэдкі пакемон. Некалькі тысяч гульцоў кінуліся яго лавіць, перакрыўшы транспартны рух.

Хапае навінаў пра тое, што гульня тармозіць працу ў офісах. У некаторых кампаніях ужо ўвялі фільтры для пакемонаў на мабільных прыладах.

Такога кшталту гісторыі прымусілі некаторых псіхіятраў і медыя сказаць: «Mea culpa» («Мая віна» (лат.), прызнанне граху ў каталіцкім касцёле. — рэд.) і змяніць стаўленне да гульні. А французскае выданне «Rue 89» увогуле адзначае, што мы сутыкнуліся з калектыўным псіхозам, які можа мець адмоўныя наступствы для ўсяго чалавецтва.

На думку выдання, людзі становяцца настолькі псіхалагічна залежныя ад гульні, што гатовыя ахвяраваць значнай часткай свайго жыцця. Сапраўды, паводле статыстыкі, у сярэднім аматар Pokémon Go штодня выдаткоўвае на гульню больш часу, чым, напрыклад, карыстальнік Facebook або іншых мабільных прыкладанняў.

Дарэчы, захапленне пакемонамі прыносіць у тым ліку і палітычныя праблемы. Улады Паўднёвай Карэі ўжо забаранілі гульню ў паўночных правінцыях, баючыся, што нейкі фанат Pokémon Go у азарце пагоні за пакемонам забяжыць на памежную з КНДР зону і справакуе ядзерную вайну.

Новая гульня мае моцны рэлятывісцкі зарад, калі нешта сакральнае, дзякуючы прысутнасці смешных пакемонаў, ператвараецца ў фарс. Нездарма Мемарыяльны музей Халакоста ў Вашынгтоне і Арлінгтонскія нацыянальныя могілкі выступілі з просьбай праяўляць павагу і не лавіць віртуальных пакемонаў на гэтых тэрыторыях.


Фота www.rtl.fr

Некаторыя амерыканскія правыя канспіролагі пішуць, што Pokémon Go — ідэальны інструмент кантролю над соцыумам: усе ўдзельніку гульні добраахвотна рэгіструюцца ў GPS, што дазваляе федэральным спецслужбам сачыць за іх перасоўваннямі. Яшчэ далей зайшла паранойя сярод расійскіх патрыётаў. Адзін з сенатараў РФ абвясціў пакемонаў прадуктам сатаны і заклікаў дзяржаву выратаваць маладую генерацыю ад спакусы. «Адчуванне, што д'ябал прыйшоў праз гэты механізм і спрабуе проста развaліць нас знутры духоўна», — так характарызуе ён эфект ад палявання за пакемонамі.

Трэба адзначыць, што фурор Pokémon Go спакушае і аўтарытарныя рэжымы. У расійскай ЦВК узнікла ідэя ў дзень выбараў нейкім чынам штучна павялічыць колькасць пакемонаў у раёне выбарчых участкаў. Такім чынам маладыя выбаршчыкі, якія мала цікавяцца сумным электаральным працэсам з загадзя вядомымі вынікамі, мімаволі англажуюцца ў працэс галасавання. Хутчэй за ўсё, лабараторыяй выкарыстання гульні ў палітычных тэхналогіях стане і цяперашняя прэзідэнцкая кампанія ў Штатах. Хілары Клінтан і Дональд Трамп ужо ўзгадалі ў сваіх прамовах пра новы феномен.

Так ці інакш, штучна створаная віртуальная рэальнасць, падаецца, не казка. А тое, што яна ў дадатак можа ствараць новыя, у тым ліку маніпулятыўныя сацыяльныя практыкі, абяцае нам шмат незвычайнага ў бліжэйшай будучыні. Так, брытанская «Guardian» лічыць, што пакемоны адчыняюць новую фазу позняга капіталізму, калі сярэднявечная рэлігійная свядомасць з яе моцным містыцызмам адраджаецца дзякуючы сучасным тэхналогіям. Праўда, трэба зазначыць, у прэсе хапае і тых, хто лічыць, што ўсё абмяжуецца нейкай часовай модай, якая працягнецца нядоўга і застанецца ў масавай памяці як нешта смешнае. Або створыць падмурак для новай сацыяльнай сеткі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Эксперты намагаюцца зразумець, што прымусіла Лукашэнку, які ў прынцыпе не прымае рынкавыя рэформы, падпісаць такія дакументы (указ аб стварэнні Агенцтва па кіраванні актывамі для вырашэння праблемнай запазычанасці банкаў па крэдытах, якія былі прадстаўленыя неплацежаздольным сельскагаспадарчым арганізацыям). Называюцца дзве версіі. Па-першае, ціск неперааадольных абставін у выглядзе велізарных даўгоў, якія дзяржаве ўжо няма чым кампенсаваць. Па-другое, патрабаванні крэдытораў, у прыватнасці МВФ. Фонд, у якога Беларусь запытала чарговы крэдыт, настойвае на сваёй формуле: «грошы толькі пад рэформы». Праўда, само слова «рэформы» ў Беларусі пад забаронай. Усе «рэвалюцыйныя» рашэнні чыноўнікі называюць «аптымізацыяй», «удасканаленнем» і гэтак далей, паколькі Аляксандр Лукашэнка лічыць, што пайсці на рэформы — азначае прызнаць памылковасць ранейшай эканамічнай палітыкі. Гэта не ў яго правілах.

**«Независимая газета» (Расія)**

Свае крэветкі і пармезан. Камсамол і падатак на гультаёў. Райвыканкам як бізнес-партнёр і пасяховыя з выгляду, але датацыйныя сельгас- і прамппрадпрыемствы. Беларусь выглядае рабочай мадэллю таго, да чаго ідзе дзяржава расійская — калі не ўлічваць, што ўсё савецкае жыве тут толькі дзякуючы Расіі.

**«Коммерсантъ» (Расія)**

Урад Беларусі ў другім паўгоддзі плануе скараціць выдаткі бюджэту на 8 працэнтаў і перапічыць даходную частку з улікам кошту нафты 35 долараў за барэль пры першапачатковым прагнозе ў 50 долараў. Напаўняць дзяржказну Мінск мае намер за кошт увядзення дадатковых збораў ды падаткаў і павелічэння платы для насельніцтва за камунальныя паслугі. (...) Сам па сабе секвестр бюджэту пры адсутнасці структурных рэформаў не прадухіліць негатыўных тэндэнцый у эканоміцы Беларусі і не стане стымулам для яе развіцця. Асноўны ж удар прыйдзецца на тых, хто не мае моцы супраціўляцца.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Беларускія падручнікі па гісторыі часта перапісваюцца. У апошнія гады было ўлічанае патрабаванне Лукашэнкі не ачарняць савецкіх кіраўнікоў, «уключаючы Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна». Падзеі найноўшай гісторыі, перыяд з часу абвяшчэння Беларусі суверэннай незалежнай дзяржавай, пададзеныя ў інфармацыйным парадку, без высноў і ацэнак. Пры гэтым, як адзначае шэраг даследчыкаў, неадназначныя моманты найноўшай беларускай гісторыі выкладаюцца без згадкі звязаных з імі пратэстных рэакцый, грамадскай незадаволенасці.

**«Сибновости» (Расія)**

Беларусь пакуль мае магчымасць манеўраваць, улічваючы няпростыя адносіны Расіі з Захадам і Украінай, а таксама захоўваецца зацікаўленасць расійскіх інвестараў у куплі шэрагу аб'ектаў машынабудавання і іншай прамысловасці Беларусі. Аднак рана ці позна пахаладанне паміж Расіяй і Захадам скончыцца, як і аб'екты для расійскіх інвестыцый у Беларусі. Таму поле для манеўру ў Мінска сціскаецца, як шчыгрынавая скура, што не дазволіць Лукашэнку «вечна» працягваць гэтую практыку ў адносінах з Масквой.

**Лента.ру (Расія)**

З вельмі вялікай верагоднасцю свецкая апазіцыя хутка пашкадуе пра сваю падтрымку «султана» «ў імя дэмакратыі». Эрдаган пасяхова трансфармуецца ў эквівалент Лукашэнкі пры значна больш рэпрэсіўным рэжыме.

**«Евразия экспресс» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Стратэгічны правал Парашэнкі

Ва Украіне прайшлі датэрміновыя выбары ў Вярхоўную раду ў акругах, дзе дэпутаты сталі міністрамі або мэрамі. Там давялося абіраць новых дэпутатаў. Усяго такіх акругаў было сем. Нягледзячы на распаўсюджанае меркаванне, што існуючы парламент вось-вось давядзецца распусціць з-за ўнутраных канфліктаў, інтарэс палітыкума да выбараў быў вялікі. У сярэднім па кожнай акрузе балатавалася 75 чалавек. Такі ажыятаж можна растлумачыць тым, што краіна знаходзіцца на парозе новага палітычнага цыклу, і палітыкі тэстуюць розныя праекты. Вынікі выбараў даволі супярэчлівыя. На пяці акругах перамаглі кандыдаты, якія, хутчэй за ўсё, будуць галасаваць за законапраекты Парашэнкі. Аднак пры гэтым ніводны з гэтай пяцёркі не з'яўляецца сябрам прэзідэнцкай партыі «Блок Пятра Парашэнкі» і ўвогуле на людзях трымае ад яго дыстанцыю. На думку экспертаў, гэта азначае стратэгічную катастрофу прэзідэнта — існуе рызыка, што дэпутаты пачнуць выходзіць з фракцыі БПП, бо няма сэнсу знаходзіцца ў фракцыі, якая не выйграе выбары. Парашэнка можа кампенсаваць няўдачу тым, што на выбарах праваліўся кандыдат ад «Дэмальянсу» — партыі, створанай на базе рэфармісцкага крыла БПП. Кандыдат раскольнікаў атрымаў толькі 5 працэнтаў галасоў. Застаецца дадаць, што «Бацькіўшчына» Юліі Цімашэнка заявіла, што ва ўсіх акругах мелі месца масавыя фальсіфікацыі, і з гэтай нагоды мае намер судзіцца.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Дзве зоны, дзве дзяржавы

Гадавіна фашысцкага путчу генерала Франка супраць іспанскай рэспублікі спрыяла інтарэсу гісторыкаў да невядомых старонак тых падзей. Так, увесну 1937 года, калі фронт больш-менш стабілізаваўся, прапаноўваўся план мірнай дамовы паміж рэспубліканцамі і франкістамі. У такім разе краіна фактычна падзялялася на дзве зоны — на поўдні і захадзе зона, якую кантралявалі фашысты. Іспанская Рэспубліка, у сваю чаргу, мусіла застацца ў межах Усходняй Іспаніі плюс Краіна Баскаў і частка цэнтру з Мадрыдам. На думку гісторыкаў, пры такім сцэнары з часам з'явіліся б дзве іспанскія дзяржавы. Пры гэтым Іспанская Рэспубліка магла змяніць сваю прыроду, паколькі яе галоўным хаўруснікам на той час выступаў СССР. Хутчэй за ўсё, Масква з апорай на мясцовых камуністаў магла дамагчыся, каб рэспубліканская Іспанія трансфармавалася ў нешта падобнае на ГДР. Праўда, шэраг гісторыкаў лічаць, што ў выпадку падзелу Іспаніі да сацыялістычнага эксперыменту справа б не дайшла. Ужо праз чатыры гады, у 1941-м, Гітлер напаў на СССР. Наўрад ці Сталін ва ўмовах вайны здолеў бы дапамагаць сваім іспанскім саюзнікам. Франка, як піша прэса, дакладна б скарыстаўся момантам і ў любым выпадку знішчыў рэспубліку.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. У Крамлі пішуць вірус

У расійскім кіраўніцтве прынта рашэнне прапанаваць вядучым айчынным IT-кампаніям распрацаваць спецыяльны вірус, які будзе блакаваць экстрэмісцкія заклікі і наогул любы кантэнт, які змяшчае найменшы намёк на прапаганду тэрарызму. Аўтарам ініцыятывы выступіла так званая «Грамадская палата». На такі крок яе чальцоў быццам бы падштурхнула не вядомая раней праграма, якую днямі знайшлі ў рунэце. Яна забяспечвае аўтаматычную рассылку сотням тысяч карыстальнікаў адначасова, пры гэтым паведамленні прыходзяць электроннай поштай, смс, на акаўнты ў сацыяльных сетках. Як піша прэса, найбольш высокія шанцы атрымаць дзяржзамову на вірус супраць экстрэмістаў мае фірма Касперскага, якая, дарэчы, спецыялізуецца на барацьбе з вірусамі. Акрамя таго, абмяркоўваецца неабходнасць арганізацыі ў школах спецыяльных бацькоўскіх класаў, дзе дарослых стануць навучаць таму, як правільна засцерагчы сваё дзіця ад радыкальных поглядаў.

**Паводле расійскай прэсы**

### КІТАЙ. Дошка ганьбы

Такое ўражанне, што нехта ў кіраўніцтве КНР паглядзеў славутую камедыю «Брыльянтавая рука», дзе Ніна Мардзюкова ў ролі ўпраўдома змагаецца з негатыўнымі з'явамі з дапамогай выкрывальных афішаў кшталту «Ганьба п'яніцы і дэбашыру таварышу Х!». 18 ліпеня на 20 шанхайскіх білбордах з'явіліся выявы «нячэсных асобаў». Гэта тыя, хто не разлічыўся з банкамі па крэдытах. Журналісты даведаліся, што ўвогуле выяўленых на білбордах асобы завінавацілі няшмат — каля 250 доляраў. Тое, што ўлада зацікавілася такімі дробнымі грашыма, тлумачаць тым, што, як правіла, крэдытная злачынствы звязаныя менавіта з малымі пазыкамі. На сёння 3,4 мільёна кітайцаў маюць праблемы з банкамі. Цікава, што ў КНР такія асобы маюць вялікія праблемы ў побыце. Аж да таго, што іх забаронена сяліць у гатэлях і прымаць іх дзяцей у дзіцячыя садкі. Аднак, як бачым, нічога не дапамагае. Адна надзея на метады герояў «Брыльянтавай рукі».

**Паводле кітайскай прэсы**


Фота www.bykvu.com

# Якую дзяржаву будуе Эрдаган?

Алег НОВІКАЎ

**«Мадэль свецкай дэмакратыі ў Турцыі памерла», — піша заходняя прэса па слядах апошніх падзей у Анкары. Што за краіну збіраецца пабудаваць Эрдаган на рэштках кемалізму?**

Як абяцае турэцкі гарант, у самым хуткім часе ў мясцовым календары з'явіцца новае свята — Дзень дэмакратыі. Яго будуць святкаваць 15 ліпеня ў памяць таго, што ў гэты дзень у 2016-м шараговыя грамадзяне сарвалі спробу вайсковага перавароту.

Праўда, разуменне дэмакратыі ў тых, хто сарваў путч, гучыць арыгінальна. Лозунгі «Няхай жыве дэмакратыя!» і «Аллах акбар!» суседнічаюць на маніфестацыях эрдаганаўцаў. Апошнія, калі верыць прэсе, там-сям ужо пачалі руйнаваць помнікі Ататюрку. Усё сведчыць пра тое, што краіна на вачах парывае са сваім кемалісцкім мінулым і ўступае ў новую фазу. Нездарма той жа Эрдаган акрамя новага свята абяцае і новую Канстытуцыю.

Агульныя контуры таго, што задумаў кіраўнік Турцыі, зразумелыя. «Султан» (мянушка палітыка. — аўт.) марыць пра сінтэз дэмакратыі і рэлігіі. З іншага боку, тут хапае пытанняў. Перш за ўсё трэба згадаць «егіпецкі эксперымент». Егіпецкая партыя «Браты — мусульмане», якая прыйшла да ўлады на хвалі «Арабскай вясны» ў 2010 годзе, спрабавала ў тым ліку рэалізаваць напрацоўкі эрдаганаўскіх ідэолагаў. Эрдаган быў у сяброўскіх адносінах з Мухамедам Мурсі — лідарам «Братоў-мусульман», які быў потым абраны прэзідэнтам Егіпту. Як адзначае прэса, менавіта тое сяброўства і маральная падтрымка Мурсі з боку Анкары стаялі за незвычайным рашэннем Каіра — адмовіцца ў ААН ад асуджэння ў Турцыі спробы путчу 15 ліпеня.

Так ці інакш, спроба будаўніцтва ў Егіпце ісламскай дэмакратыі відавочна правалілася. Эра Мурсі запомнілася пастаяннымі канфліктамі з журналістамі, папулісцкімі захадамі для вырашэння эканамічных праблем, спрэчкамі з бюракратамі, пераследам коптаў і абсалютна варварскімі праваавымі ініцыятывамі. Так, у прынятай спехам Канстытуцыі Егіпта ў 2012 годзе адсутнічаў пункт пра абарону дзіцяці. Гэты нонсэнс адзін з аўтараў тэксту растлумачыў правам дзіцяці на тое, каб весці сексуальнае жыццё з трох гадоў. Не дзіўна, што спатрэбіўся год Мурсі пры ўладзе, каб усё егіпецкае грамадства зноў пачало маліцца на вайскоўцаў, якія ў 2013 годзе «на ўра» вярнуліся да ўлады.

Аналізуючы крах рэжыму «Братоў-мусульман», эксперты адзначалі, што энтузіязм наконт рэлігіі вельмі хутка знік праз эканамічны крызіс, які зараз пануе і ў Турцыі. Другое слабае месца ў канцэптах Эрдагана — уласцівая яму ідэя рэанімацыі Асманскай імперыі, так званы «неаасманізм». «Так, мы «новыя асманы». Мы вымушаны займацца суседнімі краінамі, і нават ідзём у Афрыку. Абвядзіце на карце вакол Турцыі кола дыяметрам у 1000 кіламетраў — у яго патрапіць 20 краін; абвядзіце кола дыяметрам 3000 кіламетраў — у яго патрапіць 70 краін. А колькі краін патрапіць у такое кола вакол ЗША? Турцыя будзе цікавіцца сваім асяроддзем», — так фармулюе гэтую ідэю сам турэцкі лідар.

Прасцей казаць, маецца на ўвазе нарошчванне палітычнага ўплыву Анкары ў краінах, якія раней уваходзілі ў склад Асманскай імперыі, з паралельным адраджэннем культурных традыцый Асманскай імперыі ў межах Турцыі. Прыкладам гэтага могуць стаць нядаўнія шырокія святочныя мерапрыемствы ў гонар гадавіны захопу асманамі Канстанцінопаля і агучанае там Эрдаганам рашэнне аднавіць практыку мусульманскіх малітваў у храме Святой Сафіі (у свой час гэтыя малітвы забараніў асабіста Атацюрк, надаўшы храму статус культурнага помніка).

Між тым, «неаасманізм» не новы (упершыню яго пачалі ўжываць падчас кіпрскага крызісу 1974 года). З 2002-га, ад прыходу партыі Эрдагана да ўлады, «неаасманізм» стала прапісаўся ў выступах спікераў МЗС. Аднак практычны вынік ад гэтага невялікі. Пакуль Турцыя застаецца сябрам NATO, яе знешняя палітыка больш-менш каардынуецца з Захадам. Напэўна, адзіны аўтаномны крок — спроба адправіць гуманітарную флатылію ў 2010 годзе ў Сектар Газа, які блакіруе Ізраіль, — скончыўся вялікім дыпламатычным скандалам. Інтэрвенцыі туркаў у Ірак і Сірыю пад соўсам барацьбы з ісламскім тэрарызмам і курдамі выклікалі раздражненне з боку асноўных геапалітычных актараў. З улікам існуючых рэалій, неаасманскія амбіцыі Турцыі могуць таксама апынуцца бурбалкай.

Нарэшце, незразумела, як да прапаганды ісламізму і ваяўнічага «неаасманізму» з боку Анкары паставяцца цюркскія краіны. Радыкальны іслам — асноўная пагроза для рэжымаў, што паўсталі ў постсавецкіх цюркскіх рэспубліках, у тым ліку ў Азербайджане, які з'яўляецца вядучым партнёрам Турцыі.

Самае цікавае, што ісламскі фундаменталізм моцна супярэчыць турэцкай традыцыі. Турцыя — вельмі нетыповая мусульманская краіна. Увесь «залаты век» сваёй імперскай гісторыі (XV–XVI стагоддзе) двор Порты шмат у чым натхняўся італьянскім Адраджэннем. У мастацтве квітнеў жанр партрэтнага жывапісу, што зусім не характэрна для мусульманскай краіны. Турэцкая жанчына была больш вольнай: ад яе не патрабавалі хаваць твар. Гарадскія жанчыны сярэдняга класа займаліся гандлем. Наогул, турэцкай нацыі ва ўсе часы быў уласцівы здаровы свецкі прагматызм.

Ці атрымаецца пабудаваць «неаасманскую» Турцыю, пра якую марыць Эрдаган? Гэта вельмі дыскусійная тэма. Як мінімум, трэба дачакацца тэзаў новай Канстытуцыі, якую анансаваў кіраўнік Анкары. Праўда, перш, чым нешта пісаць, Эрдагану трэба стабілізаваць агульнапалітычную сітуацыю. Пакуль ніхто не можа зразумець, што на самай справе адбываецца ў краіне.

# «Хаос можа працягнуцца»

Алег НОВІКАЎ

**Партыя незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (Ukip), якая была фронтмэнам Brexit, 14 ліпеня пачала выбары новага лідара. Яго фігура шмат у чым вызначыць трэнды еўрафобскага руху, які набірае моц у краінах ЕС.**




© PA
Фота www.dailymail.co.uk

Пры любым стаўленні да Ukip, гэта, безумоўна, фенамен, варты Кнігі рэкордаў Гінеса. Заснаваная ў 1991 годзе палітсіла ўмудрылася рэалізаваць сваю асноўную мэту — выхад Вялікабрытаніі са складу ЕС — усяго за пару дзесяцігоддзяў. Натуральна, можна дыскутаваць, наколькі «незалежнікам» дапамаглі ў гэтай справе торы, якія сітуацыйна падхапілі іх лозунгі. Аднак факт застаецца фактам: Ukip — адзіная раскручаная брытанская партыя, якая з самага пачатку выступіла за Brexit, за пазіцыю, якую ў выніку падтрымала большасць брытанцаў.

Праўда, гістарычны трыумф Ukip сапсавала адна навіна. Пасля пераможнага плебісцыту старшыня партыі Найджэл Фарадж — асноўны пратаганіст руху «незалежнікаў» — падаў у адстаўку. Свой крок палітык растлумачыў тым, што яго «палітычныя амбіцыі цалкам рэалізаваныя».

Разам с Найджэлам Фараджам нечакана вырашыў рэціравацца і яго намеснік. Гэта спрыяла інсінуацыям, быццам кіраўніцтва «незалежнікаў» спужаўся адказнасці. «Гэта тое рыстаць сітуацыйны інтарэс да Ukip з боку часткі электарату традыцыйных партый. У прэсе сцвярджалася, што колькасць патэнцыйных прыхільнікаў «незалежнікаў» сярод кансерватараў даходзіць да 30 працэнтаў. Тая ж сацыялогія сведчыць, што за Фараджа галасавалі шмат рабочых — электаральная база лейбарыстаў. Для пралетарыяў Brexit разглядаецца як спосаб вырашэння праблемы беспрацоўя за кошт забароны на працу для мігрантаў з ЕС.

Менавіта на сацыяльнай тэме прапануе гуляць Стывен Вульф — адзін з кандыдатаў на вакансію старшыні Ukip, які сам паходзіць з рабочых раёнаў Паўночнай Англіі. На яго погляд, увядзенне працоўных віз, адмена навязаных Бруселем квот на лоўлю рыбы і абмежаванні для дробнага бізнесу імкліва ствараць новыя рабочыя месцы. Як следства, партыя павінна канцэнтравацца на патрабаванні дэпартацыі гастарбайтараў.

Яго канкурэнт, дэпутат Еўрапарламента Джонатан Арнот, мяркуе, што акцэнт у працы еўрапейскіх чыноўнікаў на мясцовую праеўрапейскую эліту.

Увогуле, брытанская прэса дастаткова іранічна апісвае лідарскія якасці тых, хто марыць кіраваць Ukip. У каментарах можна сустрэць такія ацэнкі, як «палітычны цырк», «конкурс клоунаў». Бо яшчэ не паспеў пачацца адбор кандыдатаў, як партыя перасварылася наконт таго, па якіх правілах павінен абірацца новы лідар.

Аднак пры гэтым медыя папярэджваюць тых, хто наіўна думае, што землятрус скончыўся і зараз усё паступова вернецца на свае месцы. «Бяспраўныя і расчараваныя выйгралі рэферэндум, аднак іх злосць не знікла. Тое, што пачыналася як сярэдні палец на адрас групы палітыкаў, ператвараецца ў нешта больш сталае, з невядомымі наступствамі. Brexit зламаў палітычны компас нацыі. І калі эліта не адмовіцца ад снобскага стаўлення да простых людзей, хаос пад выглядам папулісцкай палітыкі можа працягнуцца», — мяркуе брытанскае выданне «New Statesman».




Фота www.telegraph.co.uk

**Еўрафобія як палітычны напрамак будзе набываць выразна антыэмігранцкі сацыял-папулісцкі профіль. А ролю «стрэлачніка» перакладуць на мясцовую праеўрапейскую эліту**

ж самае, што разбіць машыну і збегчы з месца аварыі», — пракаментавалі адстаўку Фараджа адзін з лейбарыстаў.

Перад Ukip нечакана паўстала праблема лідарства, якую «незалежнікі» пачалі вырашаць 14 ліпеня. Выбары новага старшыні Ukip маюць шмат дадатковых важных аспектаў. Дэбаты кандыдатаў павінны адказаць на пытанне: ці маюць еўрафобы шанец ператварыцца з пратэстна-папулісцкіх партый у партыі палітычнага істэблішменту?

Такая пастаноўка задачы перш за ўсё прымушае выкаUkip трэба зрабіць на эксплуатацыі духу Brexit, калі простыя людзі нечакана адчулі, што ад іх шмат залежыць, паверылі ў сябе, зразумелі, што могуць ціснуць на эліту. Цяпер галоўнае для «незалежнікаў» — не даць знікнуць гэтай эйфарыі і прапанаваць новую мабілізацыйную фішку.

Аналізуючы дэбаты ўнутры Ukip, можна казаць, што еўрафобія як палітычны напрамак будзе набываць выразна антыэмігранцкі сацыял-папулісцкі профіль. Адначасова роля «стрэлачніка» будзе перакладацца з

Не апошні фактар, які можа дапамагчы папулістам стаць партыяй мэйнстрыму, — бардак унутры кансерватараў і лейбарыстаў, следства ўсё таго ж Brexit. Шукаючы адказ на выклік папулізму, яны самі гатовыя гуляць па лякалах папулістаў. Напрыклад, Дэвід Дэвіс, міністр па пытаннях выхаду з ЕС у новым кансерватыўным урадзе, у нейкім інтэрв'ю ўсур'ёз распавядае, што лічыць Ірландыю часткай Вялікабрытаніі. Нагадаем, што Ірландская Рэспубліка атрымала незалежнасць яшчэ ў 1922 годзе.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Майк Пенс



Шматразовы дэпутат Кангрэсу ЗША, 57-гадовы губернатар штату Індыяна, стаў кандыдатам у віцэ-прэзідэнты Злучаных Штатаў з ініцыятывы Дональда Трампа. Навіна шмат каго здзівіла — на нацыянальным узроўні палітык малавядомы. Гэта незразумелы ход і з пункту гледжання асноў піяру, паводле якога кандыдат у віцэ-прэзідэнты выконвае канкрэтную функцыю. Напрыклад, павінен прыцягнуць нейкую сацыяльную групу, перш за ўсё у так званых «Swing States» — штатах, дзе вынікі галасавання слаба прагназуюцца. Або надаць асноўнаму кандыдату патрэбны імідж. Яшчэ адзін варыянт: стаць «attack dog» — палітыкам, які жорстка атакуе канкурэнта.

Майк Пенс не адпавядае ніводнаму гэтаму крытэру. Адзіная версія амерыканскай прэсы — фігура Пенса, на думку Трампа, павінна цэментаваць вакол яго пратэстанцкі кансерватыўны электаральны лагер.

На гэтай глебе ў кандыдата ў віцэ-прэзідэнты, які, дарэчы, называе сябе Хрыстом, сапраўды ёсць прарывы. Кансерватары паважаюць Пенса за кампанію супраць абортаў і законапраект, што дазваляе фірмам не абслугоўваць кліентаў, якія належаць да сексуальных меншасцяў, праз рэлігійныя пачуцці. Акрамя таго, кандыдат у віцэ-прэзідэнты належыць да генерацыі рэспубліканцаў, якіх прывёў у вялікую палітыку Рональд Рэйган — культавая асоба амерыканскіх правых.

### Ангела Меркель



Канцлер Германіі наведала Кыргызстан, чым выклікала ў прадстаўнікоў тутэйшага экспертнага клубу сапраўдны ступар. Дасюль ніхто не зможа зразумець, што забыла нямецкі прэм'ер у далёка не вядучай краіне Цэнтральнай Азіі, ды яшчэ ў разгар крызісу ў Еўропе. Афіцыйная версія — «надаць імпульс узаемным адносінам» — амаль нікога не задавальняе.

Некаторыя лічаць, што за візітам Меркель стаіць намер не дапусціць поўнафарматнай інтэграцыі краіны ў Еўразійскі Эканамічны Саюз, сябрам якога Кыргызстан нядаўна стаў. Ёсць версія, што немцы заклапочаныя ростам колькасці кыргызскіх валанцёраў у шэрагах баевікоў «Ісламскай дзяржавы». Многія баяцца, што Меркель прыляцела з праектам накіроўваць у Кыргызстан нелегалаў, якія імкнуцца ў ЕС. Самую незвычайную думку агучыў адзін з мясцовых палітолагаў. Паводле яго, Меркель прыехала ў Бішкек, бо тут добрая аўра.

Цікава, што ламаюць галаву над учынкамі канцлера і нямецкія журналісты. Адзінае, што яны прыдумалі, — канцлер сваім візітам у Кыргызстан мела намер падтрымаць адзіную дэмакратычную краіну ў рэгіёне.

У выніку сакрэт ваяжу Меркель так і застаўся нераскрытым, хаця нейкі канкрэтны вынік ён усё ж меў — з-за прысутнасці ў краіне госця такога высокага ўзроўню Вярхоўны суд адправіў на перагляд справу Азімжана Аскарава, які асуджаны да пажыццёвага зняволення, і ў адносінах да якога Камітэт па правах чалавека ААН вынес рашэнне пра парушэнні ягоных правоў.

### Мухамед VI



Яго вялікасць кароль Марока лічыць, што краіна павінна вярнуцца ў склад сяброў Афрыканскага саюза (AU) — аналага нашага СНД на чорным кантыненце. Марока пакінула AU у 1984 годзе пасля таго, як туды прынялі Сахарскую Арабскую Дэмакратычную Рэспубліку — часткова прызнаную самаабвешчаную дзяржаву, якая кантралюе частку мараканскай тэрыторыі.

Хаця «сахарцы» застаюцца сябрамі AU, афіцыйны Рабат лічыць сваё вяртанне ў структуру цалкам лагічным. Па словах манарха, назіраецца імклівы працэс дыпламатычнай маргіналізацыі Заходняй Сахары. З пачатку стагоддзя 36 краін афіцыйна заявілі, што больш не прызнаюць яе незалежнасць.

Падобная фразеалогія мараканскага кіраўніцтва, на думку спецыялістаў, можа дорага каштаваць. На днях у POLISARIO — вядучай вайскова-палітычнай сіле ў Заходняй Сахары — абрана новае кіраўніцтва, большасць сябраў якога лічацца прадстаўнікамі рэфармісцкай фракцыі. Праваканцыйныя заявы Мухамеда могуць прымусіць сепаратыстаў да актывізацыі вайсковых дзеянняў з мэтай узняць свой аўтарытэт у свеце. Як следства, на афрыканскай мапе можа з'явіцца яшчэ адзін канфлікт, які, відавочна, адаб'ецца на міграцыйным патоку ў Еўропу.

# Іспанія. Вайна ўсіх супраць усіх



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Радыёстанцыя мястэчка Сеўта ў іспанскім Марока 17 ліпеня 1936 года перадала кароткае паведамленне: «Над усёй Іспаніяй бясхмарнае неба». Гэтая фраза была сігналам да пачатку ўзброенага выступу супраць рэспубліканскага ўрада Іспаніі і стала стартам Грамадзянскай вайны.**

## Памылкі «левых»

У красавіку 1931 года кароль Іспаніі Альфонс XIII збег з краіны, у выніку чаго была абвешчана Другая Іспанская Рэспубліка. Новыя ўлады ўзялі «левы» накірунак у палітыцы, што выклікала супраціў з боку буйных землеўласнікаў і афіцэрскага складу іспанскага войска. Не рэагуючы на гэта, рэспубліканскі ўрад працягваў прымаць непапулярныя рашэнні. Царква была аддзелена ад дзяржавы, некаторыя манастыры і цэрквы зачыненыя, было вырашана нацыяналізаваць маёмасць касцёла. Новы ўрад узяўся і за войска: частка вайсковых падраздзяленняў была распушчана, а значная колькасць афіцэраў звольнена са службы.

Першымі сваю незадаволенасць паспрабавалі выказаць вайскоўцы. У жніўні 1932 года генералам Хасэ Санхурыяй была зроблена няўдалая спроба перавароту. Яго арыштавалі і прысудзілі да пажыццёвага зняволення. 16 лютага 1936 года на выбарах у парламент перамог Нацыянальны фронт, у склад якога ўваходзілі партыі левага кірунку. Быў сфармаваны новы кабінет міністраў, які выступаў за сельскагаспадарчую рэформу, паніжэнне ўзроўню падаткаў для рэгіёнаў і амністыю для палітзняволеных. На працягу наступных 5 месяцаў у Іспаніі адбылося шмат тэрактаў, у якіх загінула больш за 300 чалавек. 17 чэрвеня 1936 года кіраўнікі правай апазіцыі абвінавацілі ўрад у страце кантролю над краінай.

На прадпрыемствах пачаліся страйкі. Але іспанскае войска не ўдзельнічала ў палітычных разборках. Частка афіцэраў (у асноўным, у авіяцыі і ВМФ) выступала ў падтрымку ўрада. Яны стварылі Рэспубліканскі антыфашысцкі вайсковы хаўрус. Іншыя ў 1933 годзе стварылі Іспанскі вайсковы хаўрус, у склад якога ўваходзілі тыя, хто выказваўся за вяртанне «старых парадкаў». Народны фронт разумеў небяспеку, якая ідзе з боку незадаволеных вайскоўцаў, і высылаў некаторых афіцэраў у аддаленыя гарнізоны. Так, камандуючага гарнізонам у Марока, генерала Эміліа Молу перавялі ў Пamплону, а начальніка Генштаба, генерала Францыска Франка — на Канарскія выспы. Аднак гэта не спыніла падрыхтоўку паўстання.

У ліпені 1936 года чальцамі правай арганізацыі «Фаланга» быў забіты паручнік Хасэ Кастылья. У адказ супрацоўнікі дзяржаўнай паліцыі, якія прытрымліваліся левых поглядаў, скралі і забілі манархіста Хасэ Кальвэ Сатэлу. Гэтага хапіла, каб вайскоўцы прынялі рашэнне пачаць узброенае выступленне. Галоўнакамандуючым іспанскімі войскамі быў прызначаны Францыска Франка. Італьянцы пачалі перакідваць іспанцам паліва, буйнакаліберныя кулямёты, самалёты і іншую зброю. Галоўнай мэтай паўстання было звяржэнне пракамуністычнага ўраду.

## Франкісты робяць першы крок

Паўстанне павінна было пачацца ў Марока, а адтуль перакінуцца і ў мацерыковую Іспанію. Франкісты захапілі мястэчкі Сеўта і Меліле. Хутка путчысты пачалі перамагаць у Старой Кастыліі, Памплоне, Навары. Была захоплена вайскова-марская база Эль-Фероль. Жорсткі адпор нацыяналісты атрымалі ў Мадрыдзе, Барселоне, Більбаа. Хутка краіна была падзелена амаль напалову. На баку паўстанцаў выступіла дзве трэціны войска і амаль усё афіцэрства, акрамя пілотаў і маракоў, якія ў большасці засталіся вернымі ўраду.

Нацыяналістам удалося перакінуць у Севілью атрад іспанскага Замежнага легіёна. 22 ліпеня 1936 года з Франка сустрэліся германскія бізнесмен Ёханэс Бернхард і інжынер Адольф Лангенхайм (абодва былі агентамі абвера). Іспанец заявіў, што жадае набыць 10 транспартных самалётаў. У Германіі быў сфармаваны спецыяльны штаб «W» на чале з Эрнстам Енэке, які курыраваў дапамогу путчыстам. Былі створаны дзве легальныя фірмы, якія займаліся падтрымкай франкістаў. Так пачалася аперацыя «Магічны агонь».



Жаўнеры «Легіёна Кондар»

Паўстанцы атрымалі першыя самалёты Ю-52, якія можна было выкарыстоўваць для транспартыроўкі войска. Прыкрываць іх павінны былі 6 знішчальнікаў Хе-51. Немцы накіравалі ў Іспанію вайсковых пілотаў-добраахвотнікаў. 29 ліпеня італьянцы накіравалі франкістам 12 бамбавікоў «Савоя», з якіх, праўда, толькі 9 даляцелі на месца. Пазней Мусаліні выслаў Франка яшчэ 12 знішчальнікаў «Фіят». Разам з самалётамі паўстанцы атрымалі і італьянскіх пілотаў. Наступны італьянскі транспарт складаўся з 40 кулямётаў, 27 знішчальнікаў, 12 гармат супрацьпаветранай абароны і 5 танкаў.

У франкістаў з'явіўся авіятранспарт для перакідвання войскаў на кантынент. Аднак большасць войскаў паўстанцаў былі перапраўлены не паветрам, а па моры. Транспарты прыкрывала авіяцыя, якая эфектыўна змагалася з караблямі рэспубліканцаў. 13 і 14 жніўня 1936 года з Гамбурга выплылі два транспарты з зброяй і палівам. У кастрычніку немцы падрыхтавалі 4,5 тысячы пілотаў Люфтвафэ. Менавіта з іх быў сфарміраваны «Легіён Кондар».

## Польскія грамадзяне ў іспанскай вайне

Другая Рэч Паспалітая таксама прадавала ўзбраенне і тэхніку ваюючым бакам (сума кантрактаў склала 190 мільёнаў злотых). Восенню 1936 года франкісты набылі ў Польшчы 10 знішчальнікаў PWS-10, створаных на Падляшскай авіяфабрыцы. Здзелку курыраваў Другі аддзел Генштабу Войска Польскага (выведка). Разам з самалётамі ў Іспанію паехалі і інжынеры, якія павінны былі дапамагчы ў эксплуатацыі машын. У задачу спецыялістаў таксама ўваходзіў збор дадзеных пра вайсковы патэнцыял франкістаў.

Нягледзячы на тое, што польскі пасол у Лізе Нацый у снежні 1936 года заявіў пра забарону ўдзелу палякаў у Грамадзянскай вайне ў Іспаніі, жадаючых падтрымаць той ці іншы бок у Польшчы знайшлося шмат. У франкісцкай авіяцыі змагаліся вядомыя польскія землеўласнікі: граф Казімір Ласоцкі, Тадэвуш Чаркоўскі-Галееўскі, Адам Шарэк і іншыя. Значная колькасць польскіх грамадзян служыла ў паўстанцкай кавалерыі. Нямала грамадзян Другой Рэчы Паспалітай было і ў Іспанскім замежным легіёне. У складзе франкісцкай пяхоты змагаўся палкоўнік Андрэй Радзівіл. Дарадцам у штабе генерала Франка быў знакаміты генерал Станіслаў Булак-Балаховіч. Іспанцам вельмі дапамаглі яго парады наконт партызанскіх рэйдаў і дыверсій у тыле праціўніка. Гэтай справай Балаховіч добра авалодаў падчас польска-бальшавіцкай і Першай сусветнай войнаў.

Значная частка польскіх грамадзян, у тым ліку і беларускага паходжання, ваявала на баку рэспубліканцаў. Шмат польскіх эмігрантаў і спартсменаў, якія прыехалі на Працоўныя алімпійскія гульні ў Барселону, пасля пачатку баявых дзеянняў уступілі ў шэрагі народнай міліцыі. Тых, хто прыязджаў з Польшчы, першапачаткова накіроўвалі ў батальён імя Яраслава Дамброўскага. Паводле падлікаў даследчыкаў, на баку камуністаў змагалася каля 4–5 тысяч грамадзян Другой Рэчы Паспалітай, якія з сваёй большасці нелегальна, з дапамогай кампартыі, былі дастаўлены на тэрыторыю Францыі, а адтуль у Іспанію. Адным з афіцэраў польскай інтэрбрыгады быў генерал Караль Сярчэўскі, якога Эрнэст Хэмінгуэй згадаў у сваім рамане «Па кім звоніць звон».

У рэспубліканскія часткі ўступалі і польскія грамадзяне, якія працавалі ў Бельгіі і Францыі. Дарэчы, у 1930-х гадах толькі ў Францыі працавала каля 35 тысяч эмігрантаў з Заходняй Беларусі, там нават быў створаны «Хаўрус беларускіх работнікаў у Францыі». Большасць гэтых людзей прытрымлівалася левых поглядаў, і калі ў Іспаніі пачалася Грамадзянская вайна, яны вырашылі падтрымаць Рэспубліку. Паводле меркавання гісторыкаў, у баявых дзеяннях у складзе польскіх частак удзельнічала да 2 тысяч беларусаў, з якіх не менш за 200 чалавек загінулі.

## Інтэрбрыгады

Рэспубліканцы, па сутнасці, стваралі свае войска «з нуля». Урад у Мадрыдзе і Камуністычная партыя Іспаніі заклікалі фармаваць інтэрнацыянальныя брыгады. Агенты рэспубліканцаў накіроўваліся ў еўрапейскія краіны. Шмат іх прыехала і ў Другую Рэч Паспалітую. Польская паліцыя шукала, выкрывала і ліквідавала канторы і бюро, якія займаліся «мабілізацыяй» польскіх грамадзян на вайну ў Іспанію. Шмат такіх выпадкаў было і ў Заходняй Беларусі (напрыклад, у Вільні, Стоўбцах, Навагрудку).

За перыяд Грамадзянскай вайны былі сфарміраваныя: XI брыгада імя Эрнста Тэльмана (немцы і аўстрыйцы); XII брыгада імя Джузепе Га-



Камандзіры брыгады Дамброўскага



Мусаліні ўзнагароджвае жонку італьянца, які загінуў у Іспаніі



На полі боя


На рэспубліканскіх пазіцыях ля Мадрыда


Рэспубліканцы


Франкісты разглядаюць трафейны савецкі бранявік

рыбальдзі (італьянцы); XIII брыгада імя Яраслава Дамброўскага (грамадзяне Другой Рэчы Паспалітай); XIV брыгада імя марсельезы (французы); XV брыгада імя Аўраама Лінкальна (англічане і амерыканцы); 129-я брыгада (балканска-чэхаславацкая). У гэтых фармаваннях служылі каля 35 тысяч чалавек.

## «Рука Крамля»

У верасні 1936 года Масква пачала высылаць рэспубліканскаму ўраду Іспаніі зброю (самалёты — знішчальнікі і бамбавікі, а таксама танкі). Іспанцы набылі ў Савецкага Саюза 648 самалётаў, 347 танкаў, 60 браневікоў, 1186 гармат, 20 486 кулямётаў, амаль 500 тысяч вінтовак, 862 мільёны патронаў. Рэспубліканцы плацілі за зброю золатам.

15 кастрычніка 1936 года кіраўнік ураду Ларга Кабальера і міністр фінансаў Хуан Нягрын звярнуліся да Крамля з прапановай прыняць на захаванне 500 тон золата. Іспанскі пасол у Маскве Марсаліна Паскуа атрымаў вялікія паўнамоцтвы на вядзенне перамоў і заключэнне сакрэтнай дамовы з СССР аб набыцці зброі для рэспубліканскіх войскаў. 22–25 кастрычніка 1936 года першыя партыі золата былі пагружаны на савецкія гандлёвыя караблі ў порце Картахена. З Іспаніі ў СССР было вывезена 510 тон золата (7800 скрыняў). Усё гэтае багацце было прывезена ў Адэсу і адтуль спеццягнікам дастаўлена ў Маскву.

24 студзеня 1937 года ў прыватнай размове Сталін прамовіў: «Іспанцам ніколі больш не ўбачыць гэтага золата, як ніколі не ўбачыць уласных вушэй». Гэтае багацце сапраўды больш не вярнулася дадому. Да сакавіка 1938 года яно было цалкам патрачана на набыццё вайсковых і іншых матэрыялаў.

Значным элементам дапамогі рэспубліканцам з боку «першай дзяржавы працоўных і сялян» былі вайсковыя спецыялісты і саветнікі. Перакідваннем савецкіх вайскоўцаў у Іспанію займалася аддзяленне «Х» Выведвальнага ўпраўлення Наркамату абароны СССР. Распараджэннем Палітбюро ЦК ВКП (б) на гэтую спецаперацыю Выведупр атрымаў 1 мільён 910 тысяч рублёў і 190 тысяч амерыканскіх долараў. НКУС арганізаваў два замежных бюро (у Парыжы і Марселі) для прыёму і перакідвання добраахвотнікаў і вайсковых спецыялістаў.

Часцей за ўсё савецкія грамадзяне ехалі ў Еўропу транссібірскім экспрэсам. Кошт такой паездкі на аднаго чалавека складаў 3500 савецкіх рублёў і 450 долараў ЗША. У Коласава пашпарты гэтых людзей правяралі памежнікі польскага Корпуса аховы памежжа, аднак нікога з цягніка не здымалі. Дый за што можна было зняць добра апранутых маладых людзей, у якіх дакументы ў поўным парадку? Пазней «інтэрнацыяналісты» з СССР ехалі ў Парыж і ўступалі ў кантакт з агентамі НКУС, якія накіроўвалі «гасцей» у трэніровачны лагер у Альбасэтэ (за 240 кіламетраў ад Мадрыда). Там і адбывалася фармаванне інтэрбрыгад.

## «Інтэрнацыяналісты» з БССР

Частка савецкіх спецыялістаў трапляла ў Іспанію праз Балканы і Афрыку. Шлях па моры каштаваў на аднаго чалавека 3000 савецкіх рублёў і 50 долараў ЗША. За час баявых дзеянняў на Пірынейскі паўвостраў было накіравана 1811 савецкіх вайсковых спецыялістаў (772 пілоты, 351 танкіст, 222 агульнавайсковых інструктары, 77 вайсковых маракоў і інш.). Сярод іх было шмат беларусаў.

У кастрычніку 1936 года ля мястэчка Сясенья ля Мадрыда адбыўся бой з удзелам 15 савецкіх танкаў Т-26, адным з якіх камандаваў мінчанін Мікалай Сяліцкі. Да іспанскіх падзей ён служыў у 4-й асобнай механізаванай брыгадзе РСЧА, якая дыслакавалася ў Кісялевічах пад Бабруйскам. Усяго з гэтага падраздзялення ў Іспанію паехала 50 танкістаў. Машына Сяліцкага здзейсніла таран італьянскай танкеткі «Ансальда», знішчыла батарэю горных гармат, некалькі машын і ўзвод пяхоты франкістаў. Урэшце паўстанцам удалося падбіць савецкі танк, а яго экіпаж расстраляла мараканская пяхота. У лістападзе 1936 года ў баі ля Каса-дэ-Кампа загінуў іншы танкіст з Бабруйска, Павел Купрыянаў. 31 снежня 1936 года гэтыя жаўнеры былі ўганараваны званнем Героя Савецкага Саюза пасмяротна. Ва ўзнагародных дакументах было напісана: «За ўзорнае выкананне спецыяльнага задання ўраду».

Самым знакамітым пілотам-беларусам, які ваяваў у Іспаніі, быў, безумоўна, ураджэнец вёскі Бараўцы Навагрудскага павета Сяргей Грыцавец. На знішчальніку І-16 ён здзейсніў 88 баявых вылетаў. Удзельнічаў у 42 паветраных баях, знішчыў 7 варожых самалётаў (па іншых дадзеных, за пілотам у іспанскім небе 30 перамог). 22 лютага 1939 года Грыцаўцу было нададзена званне Героя Савецкага Саюза. За баі на Халхін-Голе пілот быў уганараваны гэтым званнем яшчэ раз. 16 верасня 1939 года Грыцавец трагічна загінуў на аэрадроме Болбасава пад Оршай. Ён так і не атрымаў «залатых зорак»: першыя іх уручэнні адбыліся ў лістападзе 1939 года, ужо пасля гібелі лётчыка.

Яшчэ адным савецкім спецыялістам з беларускімі каранямі, які ўдзельнічаў у іспанскіх падзеях, быў кадравы выведнік Кірыл Арлоўскі. На Пірынейскі паўвостраў ён быў накіраваны ў 1937 годзе. Там дыверсанту давялося займацца тым жа, што ён рабіў у пачатку 1920-х гадоў у Заходняй Беларусі: глыбокія рэйды па тылах праціўніка.

Будучы старшыня калгасу ў Мышкавічах неаднаразова сустракаўся з Эрнэстам Хэмінгуэем. У выніку ўраджэнец Бабруйшчыны стаў прататыпам маладога байца-падрыўніка з рамана «Па кім звоніць звон».

Дыверсанты НКУС, якія дзейнічалі ў Іспаніі, знішчалі не толькі франкістаў, але і іншых «ворагаў». Тычылася гэта найперш «трацкістаў» і «анархістаў». Як вынікае з дакументаў НКУС, задачай маскоўскіх спецгруп у Іспаніі, акрамя барацьбы супраць «фашыстаў», была і «барацьба сталінізму супраць атакуючай яго марксісцкай ерасі».

Падрыхтоўка вайсковых спецыялістаў для рэспубліканскай Іспаніі адбывалася і на тэрыторыі СССР (напрыклад, у Кіравабадскай авіяцыйнай школе асобага прызначэння, Ліпецкай лётна-тэхнічнай школе, Пяхотным вучэбным цэнтры ў Тыфлісе). У выніку ў Іспаніі загінула 189 савецкіх вайсковых спецыялістаў і добраахвотнікаў, і яшчэ 40 грамадзянскіх спецыялістаў.

## Пералом

У другой палове 1937 года авіяцыя паўстанцаў блакавала марскія шляхі пастаўкі зброі і паліва рэспубліканцам. У кастрычніку путчысты ўзялі Астурыю, і хутка ўся Поўнач краіны была ў іх руках. 15 снежня 1937 года рэспубліканцы пачалі наступленне і занялі мястэчка Тэруэль. Пры гэтыя яны выкарысталі амаль 100 танкаў (Т-26 і БТ), а таксама тры роты браневікоў і выбілі франкістаў з населенага пункту. У тых баявых дзеяннях прымала ўдзел значная колькасць савецкіх танкістаў. Франка сцягнуў пад Валенсію амаль 100 тысяч жаўнераў і 300 самалётаў і праспрабаваў захапіць горад. 22 лютага 1938 года паўстанцы зноў захапілі Тэруэль і ўзялі ў палон 14 тысяч рэспубліканцаў.

30 кастрычніка путчысты пайшлі ў наступ і 16 лістапада 1938 года выбілі камуністаў за раку Эбра. За гераізм, праяўлены ў той бітве, польская брыгада імя Яраслава Дамброўскага была ўзнагароджаная іспанскім Вайсковым медалём. У выніку тых баёў рэспубліканцы страцілі каля 10 тысяч чалавек забітымі і 20 тысяч параненымі; у войску Франка было 30 тысяч параненых і больш за 6,5 тысяч забітых.

Гэта была апошняя аперацыя Грамадзянскай вайны ў Іспаніі, у якой прымалі ўдзел байцы інтэрбрыгад і савецкія дарадцы. У верасні 1938 года кіраўнік рэспубліканскага ўраду Хуан Негрын выдаў распараджэнне пра няўдзел інтэрбрыгад у баявых дзеяннях. 29 кастрычніка ў Барселоне адбыўся ўрачысты парад у гонар «інтэрнацыяналістаў». Пазней большасць з іх выехала ў Францыю, дзе іх інтэрнавалі. Горш за ўсё давялося грамадзянам Другой Рэчы Паспалітай. Польскія ўлады неаднаразова папярэджвалі, што за ўдзел у вайне ў Іспаніі яны будуць пазбаўляць «камбатантаў» польскага грамадзянства. 26 лютага 1938 года быў прыняты адпаведны закон.

Пасля пачатку Другой сусветнай вайны і акупацыі Польшчы Германіяй былыя жаўнеры-рэспубліканцы з Польшчы, у тым ліку і шматлікія беларусы, спрабавалі запісацца ў Войска Польскае, якое фармавалася ў Францыі. Аднак ім у гэтым адмовілі. Большасць гэтых людзей знаходзілася ў французскім лагеры для інтэрнаваных у мястэчку Вернэт Д'Арыега. Пасля акупацыі Францыі нацыстамі частка польскіх інтэрбрыгадаўцаў далучылася да руху супраціву, іншых вывезлі ў лагер у Алжыры, адкуль тыя змаглі вызваліцца ў 1943 годзе. Некаторыя пазней з'ехалі ў СССР і змагаліся ў шэрагах 1-й арміі Народнага Войска Польскага.


Разбурэнні. Мадрыд

## Канец Рэспублікі

Франка ж не спяшаўся адсылаць замежнікаў. Толькі невялікая частка італьянскіх жаўнераў выехала дадому. Франкісты пачалі наступ на Каталонію. 14 студзеня 1939 года войскі паўстанцаў занялі Тарагону, што прымусіла рэспубліканскі ўрад збегчы з Барселоны, а ўжо 26 студзеня франкісты і італьянцы ўвайшлі ў гэты горад. 28 сакавіка 1939 года франкісты без бою ўвайшлі ў Мадрыд. 1 красавіка 1939 года Франка прамовіў: «Мы прайшлі». Так ён адказаў кіраўніцы Кампартыі Іспаніі Далорэс Ібаруры, якая ў ліпені 1936 года сказала: «Яны не пройдуць» (No pasarán).

Франка быў кіраўніком іспанскай дзяржавы да 1975 года. У 1970 годзе ён рэанімаваў манархію ў Іспаніі.

У выніку Грамадзянскай вайны загінула больш за паўмільёна чалавек. З краіны выехалі 250 тысяч жыхароў. Рэспубліканцы і франкісты выдаткавалі велізарныя сродкі на набыццё зброі. Для іншых дзяржаў (Германіі, Італіі і СССР) канфлікт у Іспаніі стаў палігонам для праверкі якасці сваіх войскаў і ўзбраення.

Фота з архіву аўтара

# Зміцер Вайцюшкевіч: класік «паэзіі сьпяванай»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Вядомаму беларускаму спеваку, кампазітару і мультыінструменталісту, кіраўніку гурта WZ-Orkiestra Змітру Вайцюшкевічу спаўняецца 45 гадоў. Развагамі пра свой лёс і пакліканне ён дзеліцца з чытачамі.**




***— Зміцер, з чаго пачыналася ваша беларуская самасвядомасць?***

— У тыя часы, калі я вучыўся ў Лідзе ў музычнай вучэльні па класе кларнета, я, як і многія беларусы і слухачы ў іншых краінах, упадабаў песні Уладзіміра Мулявіна і «Песняроў». Мяне ўразваў меладызм твораў Мулявіна, арганічнасць беларускай мовы ў іх выкананні. Безумоўна, гэта прыгажосць роднага слова выклікала ў мяне жаданне дакрануцца да нацыянальных крыніц, звязаць сваю будучую музычную кар'еру з беларушчынай. Я нават марыў, каб самому стаць удзельнікам «Песняроў».

Потым былі «KRIWI» і «Палац», які ў той час меў назву «Дворец кукурузных палочек». Падчас працы ў «Дварцы...» мы ўжо свядома зрабілі выбар на карысць беларушчыны і змянілі назву гурта на «Палац». Акрамя гэтага, мне захацелася адысці ад фальклору на карысць «паэзіі сьпяванай».

***— З моманту выхаду першага альбома «Цацачная крама» прайшло 15 гадоў. Можна заўважыць, што вы аддаяце перавагу класічнай паэзіі. Якія вершы натхняюць найбольш?***

— Сапраўды, «Цацачная крама» — гэта першая мая спроба ў рэчышчы супрацоўніцтва з прафесіянальнымі паэтамі. Я звярнуўся да Леаніда Дранько-Майсюка з прапановай парэкамендаваць некалькі яго вершаў для маіх музычных кампазіцый. Вынік быў добры, і так з'явіўся сатырычны музычны цыкл «Цацачная крама». І хаця пасля гэтага цыкла ў мяне быў дыск «Балады» з беларускім фальклорам, песнямі на вершы Дранько-Майсюка я запачаткаваў серыю праграм на вершы знакамітых паэтаў мінулага і сучаснасці.

Потым былі песенныя цыклы на вершы Алеся Камоцкага, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Караткевіча. У рамках канцэпцыі WZ-Orkiestra («Усход-Захад-аркестр») была падрыхтавана праграма на вершы замежных паэтаў — Уладзіміра Маякоўскага, Рафала Ваячака, Яраміра Нагавіцы, а таксама на японскія вершы і на творы шведскіх паэтаў, перакладзеныя на беларускую мову. Цікавіла мяне і стварэнне кавераў на знакамітыя беларускія песні мінулых гадоў. Так я заспяваў знакаміты беларускі эвергрын «Бывайце здаровы» Ісака Любана і Адама Русака, а потым выдаў кружэлку з апрацоўкамі беларускіх аўтарскіх песень «Наша песня».

***— WZ-Orkiestra — гурт сяброў і аднадумцаў. Як у гэтай суполцы нараджаюцца творы: вы дыктуеце, як трэба граць, ці гэта супольная творчая праца? Склад WZ-Orkiestra не змяняецца?***

— У нас няма дыктату: бывае, асноўныя ідэі для аранжыровак песні прыношу я, бывае, што твор нараджаецца высілкамі ўсёй каманды. Галоўнае, каб супольная творчасць спрыяла гарманічнаму спалучэнню музыкі і паэзіі. І тут давяраю такім цудоўным музыкам-прафесіяналам, як Аляксандр Шувалаў ці Канстанцін Гарачы...

Што тычыцца WZ-Orkiestra, то большасць яго ўдзельнікаў працуюць і ў іншых калектывах, бо гэтага патрабуе стан беларускага шоў-бізнесу. Але склад нашага гурта стабільны на працягу многіх гадоў. Былі праблемы з бубначом і бас-гітарыстам, але іх ратацыя ў мінулым. Толькі Ксенія Мінчанка цяпер знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Але, спадзяюся, хутка вернецца ў гурт і ўпрыгожыць яго гучанне сваёй скрыпкай.

***— Апошнім часам у СМІ шмат гаворыцца пра ваш культурніцкі праект «аграсядзіба Вайцюшкі». Ці можна казаць, што гэтая вясковая канцэртная пляцоўка ўладкавана канчаткова і гатовая да сустрэчы слухачоў? Што ў гэтым сэнсе паказала правядзенне «Традыцыйнага Купалля на Нёмане»?***

— Так, нядаўна прайшло наша «Традыцыйнае Купалле на Нёмане», якое сабрала даволі шмат для аграсядзібы ўдзельнікаў: каля сотні чалавек з усіх куткоў краіны. Былі наведвальнікі нават з Мазыра...

Ведаеце, уся гэтая гісторыя з забаронамі канцэртаў мае і станоўчы бок. Бо, акрамя творчых ідэй у мяне заўсёды былі і матэрыяльныя планы. Забароны якраз і падштурхнулі мяне ўзяцца за ажыццяўленне матэрыяльнай мары пра сваю аграсядзібу з культурніцкім напрамкам дзейнасці. Хоць яна таксама патрабуе шмат фізічнай працы, фінансавых укладанняў, адміністратыўных узгадненняў.

Калі мы запрашаем людзей да сябе ў госці, мы павінны паклапаціцца пра побыт, бяспеку і адпачынак. Калі я прапаную людзям схадзіць, напрыклад, у лазню, то там павінен быць адпаведны парадак, чысціня і камфорт. Тое ж самае тычыцца і правядзення фэстаў, традыцыйных святаў, канцэртаў пад адкрытым небам. Трэба прадумаць праграму, патурбавацца пра неабходную апаратуру, улічыць шмат іншых нюансаў, каб наведвальнікі вярнуліся ў Вайцюшкі наступным разам. Напрыклад, на фэст беларускай бардаўскай песні «Пад ліпамі», які адбудзецца 6 жніўня.

***— Вы ў творчай камандзіроўцы ў Варшаве. Ці ёсць там магчымасць ствараць новыя песні, канцэртаваць, запісвацца ў студыі?***

— Я вельмі ўсцешаны тым, што ў Польшчы ў мяне ёсць усе ўмовы для спакойнай працы. За час побыту ў Варшаве я даў больш канцэртаў, чым за ўвесь перыяд працы ў Беларусі! Што тычыцца запісаў новых кампазіцый, то хачу вам выдаць таямніцу: цяпер у супрацы з выдатнымі польскімі музыкантамі мы запісваем альбом на вершы Уладзіміра Някляева. Я не меў за мэту абысці музыкантаў WZ-Orkiestra, мне проста захацелася стварыць нешта адрознае ад таго, што мы гралі сумесна, каб потым разам узняцца на новы выканаўчы ўзровень.

***— Ці ёсць нейкія зрухі ў прасоўванні да вашай мары — стварэння беларускага музычнага тэатра?***

— Пакуль гэтая ідэя невырашальная ані ў Польшчы, ані, тым больш, у Беларусі. А вось аўтарскі клуб, накшталт папулярнага клуба Яраміра Нагавіцы ў Празе, — гэта больш рэальна.

***— Вы выдалі 19 паўнафарматных альбомаў з беларускай музыкай, далі безліч канцэртаў. За гэты час дзяржава не звярнула ўвагу на ваш унёсак у нацыянальную культуру. Толькі «аддзячыла» забаронай канцэртнай дзейнасці. Што матывуе вас у такіх варунках?***

— У мяне ёсць дзяржаўныя адзнакі. Напрыклад, я лаўрэат Усесаюзнага музычнага конкурсу. Маю таксама недзяржаўныя ўзнагароды — уладальнік некалькіх «Рок-карон». Але ўсё гэта не ўлічылі, калі вырашалася пытанне пра забарону маіх канцэртаў у Беларусі.

Не так даўно я меў размову на гэтую тэму з Лявонам Вольскім, і мы разам прыйшлі да высновы, што такі ўжо наш лёс — ствараць музыку, выконваць яе, выдаваць дыскі насуперак неспрыяльным абставінам. Гэта наша пакліканне.

І калі б была магчымасць змяніць свой лёс, дык, канешне, нешта захацелася б зрабіць больш дасканалым, лепшым, але агульны жыццёвы і творчы напрамак пакінуў бы без зменаў.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 709

Падпісана да друку 22.07.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.